# СЛОВА З НАГОДЫ
*(Замест прадмовы)*

Сёння, як я пераканаўся, пісаць прадмовы, асабліва тым, з кім звязана паўстагоддзя жыцця, ужо не ўмею, няздольны. Яшчэ ўчора, здаецца, умеў, а сёння ўжо не. Ці не таму, што сёння мяне больш займае не само, як казалі, прыгожае пісьменства, а тое, адкуль у яго ногі ды рукі растуць.

Не спадзяюся на нейкі пэўны адказ. Бо на кожнай думцы, на кожным кроку губляю клёпкі і спатыкаюся аб іх, як, пэўна, сам спатыкальны наш абсурдна-фантасмагарычны час...

Колісь была літаратура: старажытная, сярэднявечная, рэалістычная і нават сацыялістычна-рэалістычная — так, прывязаная, цалкам прыпнутая да патрэб свайго часу. Але і да чалавека ў тым часе, да яго планетарнай існасці і сутнасці.

Творца яшчэ верыў і спадзяваўся, бачыў святло ў канцы тунэля, бачыў сэнс у сваім існаванні. Святло і сэнс, якія сёння ўжо пахаваны ў нашых раскіданых па ўсёй краіне кладах пад крыжамі і без. І таму мы маем, што маем. Замест культуры — культ бясконцых садомападобных шоу, сексу, забойстваў, гвалту... Разліванае мора чалавечай крыві... Усё асвечанае вякамі па нейкім д'ябальскім загадзе пайшло пад нож, сякеру, ядзерную навалу, ужо пачало смярдзець, пляваць у вочы космасу, сусвету. І на чым толькі душа трымаецца?! Але ўсё ж трымаецца, што найбольш дзіўна. Як трава, прабіваецца скрозь асфальт і бетон.

Якраз прыкладам гэтаму можа служыць і кніга Сяргея Ваганава. Ён пачаў публічную літаратурна-мастацкую творчасць, асабліва ў паэзіі і эсэістыцы, а другой палове жыцця. Позна? Але што лічыць нашым беларускім рана ці позна? Калі танчаць уваччу літаркі, калі рэжацца словам горла, калі іскра божая не падманная, як ні адбівайся, рана ці позна, ты прыгавораны ўсё ж здацца. Здацца таму, што ў табе і над табой. На маю думку, мы ўвогуле запознена былыя людзі з непраходнай жарсцю нялздзейсненай

творчасці, з нашай адвечнай беларускай бядой — двухмоўем, так званым білінгвізмам, з нашым сумам страчанай матчынай мовы.

Тое ж можна сказаць і пра мастацкія творы лепшых нашых творцаў, што захавалі сябе ў культава-людажэрным стагоддзі. Ён, гэты сум, быў уласцівы і Сяргею Ваганаву, нават тады, калі першыя вершы на рускай мове былі абазваны пераймальнымі ад Пастарнака, Мандэльштама... — і яшчэ даў бы Бог кожнаму каго. Але за ім ужо стаяла нашчадная біяграфія вялікай беларуска-яўрэйскай сям'і, якая прайшла праз усе ламоты XX стагоддзя. Бунтоўнасць і замілаванне словам нашчадныя ў Сяргея Ваганава, прыроджана-каранёвыя. Не ведаю, як доўга ён верыў прысуду аб другаснасці яго паэзіі. Але... Але ехаў з жонкай і сябрамі ў лес па грыбы ці ягады, браў з сабой пішмашынку і на пяньку выдрукоўваў: «Сосновый лес берёзами просвечен...»

Я не буду спыняцца на нечым канкрэтным з чарговай кніжкі Ваганава, бо не хачу быць пераказальнікам яго твора. А яна, нягледзячы на разнастайнасць жанраў — вершы, мініяцюры, нарысы, эсэ, — менавіта адзін твор, які ўвабраў у сябе шматгадовы журналісцкі і жыццёвы досвед аўтара. І гэты твор перад вамі.

Разам са словам сябра з нагоды...

*Віктар КАЗЬКО*

## У СНЕ

Мы ўсё жыццё паціху паміраем.
Якім я быў, такім цяпер не ёсць...
Дзяцінства ўжо сплывае небакраем,
Пакуль насустрач крочыць Маладосць.

За Маладосцю надыходзіць Сталасць
Магільшчыкам няздзейсненых надзей.
Ну, а за ёй — удумлівая Старасць
У неадкладнасці адкладзеных падзей.

Дык вось чаму я смерці не страшуся —
Бо паміраў ў жыцці ужо не раз.
У радасці, ў бядзе альбо у скрусе
У небыццё я адыходзіў праз
Пахаванні думак, спраў і мараў.

Чаму ж так неспакойна сёння мне?
Таму, што ўчора я убачыў Нарач.
І плыў па ёй.
Да раніцы.
У сне.

## СЯКЕРА

Кіроўца цяжка круціць абаранку.
Імгла хавае пры шашы лясок...
Пад коламі грукоча брукаванка
І шэпча штось няўцямнае пясок.

На Нарач едзем ужо сем гадзін
Дарогай, што вайной ушчэнт раструшчана...
Аб'езд... ізноў аб'езд... яшчэ адзін...
Яўхім, кіроўца наш, зусім замучаны.

І я стаміўся. Бо яшчэ малец.
Хапае мне ля задняй дзверцы кута.
Ў дрымоце чую — Ілля... Куранец...
Мікольцы... Мядзел... Чараўкі і Купа...

І зноў даносіцца праз чуйны сон — не сон
Матулі з татам ціхая размова...
Пра атам згадка неаднаразова,
Пра нейкую супраць дзяржавы змову,
Пра Берыю, што з Англіі шпіён.

Пра злодзеяў, што шнырацць па лясах,
Рассейваюць паўсюль насенне жаху...
І адчуваю, як ліпучы страх
Паўзе па мне, бы слізкая вужака...

...Прачнуўся ад раптоўнай цішыні.
Ці гэты лес маўклівы толькі сніцца?
Шугаюць небакраем бліскавіцы,
Нібы гарматы б'юць з далечыні.

А я пільную злодзеяў.
Я веру,
Што дзесьці тут хаваюцца яны.
І я кладу каля сябе сякеру,
Каб ратаваць матулю ад вайны.

Усё бліжэй гарматная навала.
Усё ярчэй успышкі бліскавіц.
І я адзін у свеце — хлопчык малы.
Адзін перад смяротнай той навалай.
Зусім адзін між соснаў і суніц...

Ўсё адчувальней пах смярдзючай серы.
Ўсё выпаліў пярунавы напалм!

Маланка, быццам вострая сякера,
Расколвае планету напалам.

---

Ад ранку пасля той страшэннай ночы
Усюды, куды позіркам ні кінь,
На ўсё жыццё урэзалася ў вочы
Хваль нарачанскіх сонечная сінь.

## ВЕРШЫК

Люблю твае, Нарач, затокі і тоні...
*Максім Танк*

Як толькі я заплюшчу вочы,
Убачу даўнюю карціну:
Узгорак, сонца ранкам крочыць,
А на узгорку — тры хаціны.

Адна — Лынькова, а другая
Аркадзя Куляшова хата.
Ну а бліжэй да небакраю —
Максімава, святлом багатая.

Прамень пяшчотна лашчыць хаты
З падмурку да самога верху.
І адбіваецца страката
У шкле аконным, бы ў люстэрку.

А навакол такая ціша!
Ледзь чутны толькі хвалі ўсплёскі.
Нібыта Нарач вершык піша,
Празрысты, як анёла слёзкі.

А я ўжо рухаюся пешшу
Да хатаў тых, прывабных зранку,
Каб прачытаць на памяць вершык
Вялікаму паэту Танку.

Той самы — пра затокі, тоні...

Ды толькі я, ад страху потны,
Камячу вершык у далоні...

Не, не адважуся. Маркотны
Стаю ля Танкавага плота.
Дванаццаць мне. Душа у скрусе.

Ці ж ведаў я, што так далёка,
Далёка так да Беларусі?

## СЯБРЫ

Пракладзены праз лета мосцік
Ад Мінска ў нарачанскі неруш...
Бывайце, Воўка, Генка, Косцік!
Здарова, Янак, Чэсь, Тадэвуш!

Яшчэ не думаў я сам-насам,
Адкуль нязвыклыя імёны.
Не чуў яшчэ ў «за польскім часам»
Ані хвалы, ані праклёну.

Прачнуўся ледзь і скочыў з ганка
Да возера, дзе ветразь чорны
Праз першы промень у заранку
Гнаў цераз хвалі цяжкі човен.

На ветразі тым чэрап, косці.
Не хлопцы ў чоўне, а піраты...
Не ведаў, што бацькоў кагосьці
Саветы кінулі за краты.

І вось ужо і я у чоўне.
І п’ю нагбом крынічны ранак...

Пад ветразем яны няўлоўныя —
«Піраты» Тадзік, Чэсь і Янак.

Але чаму цямнеюць вочы
Нібы з нябеснага блакіту?
Няўжо рыхтуюцца сурочыць
Перш, чым за штосьці быць пабітым?!

І раптам з усяго размаху
Я кінуты ў блакіт бяздоння...

Падхоплены смяротным жахам,
Нібы вяртаюся ва ўлонне
Матулі з назваю Айчына
Ў вадзе празрыстай каляплоднай...
І бачу, як Святлом адчынены
Свет Нарачы, да скону роднай...

...Дзяцінства ажывае памяць.
Вяртае ў нарачанскі ранак...

Вось так вучылі мяне плаваць
Сябры Тадэвуш, Чэсь і Янак.

## КІРМАШ

Нядзеля. У Кабыльніку кірмаш,
Што ля царквы на плошчы кірмашовай.
Бывай, калгас ты працадзённы наш!
Нядзеля. Будзем ладзіць фэст грашовы...

Рубель, і да рубля яшчэ рубель,
Дзе панаваў калісьці польскі злоты.
Ды сплыў, што ў міражы той карабель.
Ды дзесь жыве пад хвалямі употай.

Жанчыны ў блузках, нібы на парад
Падаставаных з куфараў дубовых.
І мужыкі, чамусьці ў кажухах,
На роварах, нат на драўляных колах.

І дачніцы, што з Купы надышлі,
Гандлююцца за кус з лядоўні масла —
Бы сонейка народжана ў цішы
І ў прахалодзе змроку не захрасла.

З-пад сена, што накінута ў вазах,
Парохкванне ды віскат парасячы.
І квохтанне курынае. І пах
Мядовы з процьмы гліняных гарлачыкаў...

А побач, там, дзе брукаваны шлях
Вядзе наўпрост на поўнач, на Паставы,
Самотна затаіўся ціхі жах
Магілы, дзе вайсковец пахаваны
Чырвоны.
І хаця юнак не наш,
Магіла не пазбаўленая болю...

Нядзеля. У Кабыльніку кірмаш —
Калгас, на дзень адпушчаны на волю.

## У СЫРМЕЖ ПА СОЛЬ

### 1955

Дзясяты мірны год пасля вайны.
Мацей*... Тафіля**...
Нарач... вёска Купа...
І цягнічок ад Купы у Лынтупы.
А мы — па соль... у Сырмеж... на кані.

Мацей ужо дасёрбаў зацірухі.
Глынуў са студні чыстае вады.
Як абуджаюць ранішнія гукі
У хаце!
І з гумна глухія грукі,
Калі Мацей шукае павады
Ды бразгае аброццю на двары,
Рыхтуючы да дзённай працы рукі!

...Рыпяць усімі коламі калёсы.
Бяжыць паволі па пясочку конь.
Ў калёсах Варунічка, Валюсь*** босы
Ды я, схапіўшы лейцы у далонь.

О, як я прагнуў коньмі кіраваць!
Адчуць з канём адзінства ў разуменні.
Калі не давядзецца з ім араць,
(Бо хутка ўжо да Мінска ад'язджаць),
Хаця б хвілінку лейцы патрымаць,
Каб улагодзіць тайнае памкненне.

...Бяжыць, бяжыць пясочкам белы конь.
Лясок, масток праз вузенькую рэчку...

---

* Мацей Магільніцкі — гаспадар хаты ў Купе на беразе Нарачы.
** Тафіля — жонка Мацея.
*** Варунічка (Веранічка) і Валюсь — дзеці Мацея і Тафілі.

Бяжыць пясочкам ў Нарач тут адвечна
Рачулка, нібы ў Боскую далонь.

Вось Урлікі... вось хутарок малы...
Вось млын стары павольна круціць кола.
А вось і крама — з круглякоў стадола
У паху дзёгцю, газы і смалы.

Дзіравы, з дранкі, дах, і ён жа столь
У павуцінні. Жнівеньскае сонца
Праменіцца праз шчыліны бясконца,
Пакуль Мацей ссыпае ў торбу соль.

Без солі, кажа ён, жыцця няма.
Калі вайна, бяжы найперш за соллю.

Вайны няма. Ёсць мех ў кутку пад столлю.
І ёсць Мацей... І Нарач...

Што? Няма?

**2018**

Няма Мацея, Нарачы і Купы?
Рачулкі той і белага каня?
І цягнічка таго, што у Лынтупы
Калейкай вузкай бег амаль штодня?

Няма... няма... няма... няма... няма-а-а...

Няўмольны Час адгукваецца рэхам.
І чуецца у рэху тым — вайна!
Палюе зноў за кожным чалавекам.

Але ж бяжыць пясочкам белы конь.
Ізноў сціскаю лейцы у далоні.
Ізноў масток. І рэчка ва улонні
Зямлі. І Нарач — Боская далонь.

Ізноў дарога нібыта сама
Бяжыць туды, дзе солі назапашана.
Дзе млын няспынна круціць кола Часу...

Ды толькі солі ў Сырмежы няма.

## ХОВАНКІ

Таўкліся надвячоркам камары.
Ад возера цягнула прахалодай.
Пад лыжачкай бруіліся ў віры
Пачуцці незнаёмай асалодай.

Ад пуні, што нагрэлася за дзень,
Сыходзіў цёплы пах сухога сена.
На кругляках дрыжаў няўлоўны цень
Галоўкі з чорным чубкам ды й калена.

Яна была што тое галчаня.
Худыя рукі, быццам птушкі крылцы...

«Згуляйма ў хованкі? Да самага рання
Схаваемся. І нас не будзе быццам...»

І знікла.
Толькі хісткія муры
Гадоў, з якіх жыццё няўцямна склалася...

Ад нарачанскай той падлеткавай пары
Шукаю ўсё, куды яна схавалася.

Шукаю...
Бо калі надыдзе час
Хавацца нам у сховішчах Зямлі,
Ужо ніхто не адшукае нас...

Як быццам мы ніколі не былі.

## ПА ДУРНІЦЫ

Прывітанне, Купа! Купа дарагая!
Звонкая «кукушка»-паравоз!

*Аркадзь Куляшоў*

Я помню, як рухавы цягнічок
Вазіў у пашчу пушчы па дурніцы.
Папросіш машыніста прыпыніцца,
Ды й у багун. Да болю у вачох.

З купіны на купіну мяккі крок,
Дзе чуецца балота ўздых і выдых,
Бы кажа вочкі патаемны цмок —
Вады й паветра зносінаў няспынных.

І ў галаве дурэе дурнап’ян.
Хаваючы кустоўе ў белых рызах,
Павіснуў перадранішні туман
На ягадах, ад прахалоды шызых...

А ўвечары ідзеш па шпалах зноў.
І прыкладаеш зноў да рэйка вуха,
Бы да прасторы падаеш пазоў,
Каб адгукнулася далёкім колаў гукам.

І чуеш, як напружана гудзе,
Нібы струна, пад цягнічком рухавым...
Ці блізка ён, ці ён далёка дзе?
Ці ён нідзе...
Пайшоў па зніклых шпалах
Гадоў, застаўшыхся ў мінулым небыцці,
Якім наканавана толькі сніцца.
І дзякаваць таму, што у жыцці
Быў цягнічок,
І Нарач,
І дурніцы...

## У БУРУ

Прачнуўся...
Нібы цмок схаваўся ў коміне —
Рыпіць, вішчыць, пяе, мармыча нешта.
То ўчорашняй начной віхуры рэшта
Ад ранку ў сон грукоча да мяне...

А я хутчэй да возера! Хутчэй!
Туды, дзе разгарнуўся бурай ліпень.
Дзе цемра апраметная з вачэй
Сплывае ў нарачанскі белы кіпень.
Дзе хваля хвалю новай хваляй б'е,
Жадаючы навыперадкі бегчы.
Змяёй шыпячай на пясок паўзе,
Каб там, зусім знясіленая, легчы...

Аднекуль раптам чуецца здалёк
Надрыўны гук маторнай быццам лодкі...
У непагадзь каго ж завабіў Бог
Да бойкі з ім — смяротнай і салодкай?

І бачу, як ажно з-пад Чараўкоў,
І сам, як бог, — сівы, ў цяльняшцы сіняй,
Ляціць над хвалямі Міхась Лынькоў,
На ўсёй кіпячай Нарачы адзіны.
Чаму ж яму не любы ранні сон?
Ці ён, што ветразь той, шукае буру,
Каб сатварыць з яе літаратуру —
З «Міколкі...» аж да «Векапомных дзён»?

А мо з дзіцячай радасці ці здуру
Адчуць імкнецца Волі смак і стогн?

Хто ведае...
Хоць да самога дна
Ўглядайся ў Час, пакуль вякі не скралі,

Нічога не пабачыш. Бо здаўна
Адказ таіцца ў нарачанскай хвалі...

---

Заплюшчу вочы й чую, як у сне,
Даносіцца здалёк віхуры рэшта.
Рыпіць, вішчыць, пяе, мармыча нешта...
Нібыта цмок схаваўся ў коміне.

## ШЧУПАК І ВАЛЮСЬ

### Валюсь

Ён ціхамірна спаў на ганку сельсавета,
Прыцiснуўшы да жывата ката...
Дакладна ён, бо на ілбе прыкмета —
Чырвона-сіні след ад капыта.
Калісь жывы застаўся, дзякуй Богу,
Няўрымслівы Мацеевы хлапчук...
І вось прыснуў пацiху ля парога
Жыцця...
Мо каб не бачыць і не чуць
Гадоў нястрымных, што знікаюць ў Лету...
Падрыгвала запалая шчака.
Наўкол натоўп шалёна прагнуў лета...
А я глядзеў. І згадваў шчупака.

### Шчупак

...Мы ўпершыню лавілі «на дарожку».
На вёслах я, а Валюсь на карме.
Цяжкая лодка зрушыла патрошку,
Хутчэй! Хутчэй, каб як напружыць лёску,
Ды й самаробнай пагуляць блясне.

Бывайце, краснапёркі, печкуры!
Чакае нас дарослая забава
Там, дзе шчупак хаваецца ў віры
Чакання пераможнай той пары,
Калі Рыбацкая здзяйсніцца ўрэшце Справа!
...Амаль да вечара цягаў нас той шчупак.
Ад Чараўкоў ажно да Сцепянёва.
Ужо было не трэба нам улову,
Каб толькі адчапіўся так ці сяк.
Здавалася, і ён ужо знямог,
Калі з глыбінь паказваўся ля борта.
Ды раптам выгінаўся звышупёрта
І ў глыб знікаў.
Кіло на сем, дальбог!
Упэўніліся: болей не жыве.
Ляжыць у лодцы, паглядае скоса...
Чамусьці сумна нам, што удалося
Забіць яго вяслом па галаве.

І доўга ва ўяўленнях рыбака
Шчэ мроіліся вочкі шчупака...

## Валюсь

...І вось п'яны, на ганку сельсавета,
Жыццём забіты, бы вяслом шчупак,
Ён спачывае на мяжы Сусвету...
Мо нешта сніць. А мо і проста так.

Не ведаў я, ці ён мяне пазнае,
Калі яго наўмысна абуджу.
Не, абуджаць яго не выпадае.
Хай спіць, не пераходзячы мяжу.
Хай спіць і спіць хаця б яшчэ з паўвека...

І раптам бачу: колеру нябёс
Скацілася слязінка з-пад павека
І ў Нарач пакацілася наўпрост...

## ДРАНКА

З Мацеем сёння будем дзерці дранку!
Ужо ляжыць, чакае бервяно.
Як ні салодка спіцца нам уранку,
Пад самы дах узведзена гумно.
А як прыгожа сталася ў двары!
Па кроквах шпацыруе промень сонца.
І круглякі ў смалістыя муры
Пакладзены трывала, шчыльна, моцна,
Бы на вякі...
І я дапамагаў
Мацею адбудоўваць гаспадарку —
Пілу з сякерай спрытна падаваў...
А сёння...
Сёння будзем дзерці дранку!
...Трашчыць, нібы жывое, бервяно.
Паблісквае скаба лязом жалезным...
То будзе ў Купе новае гумно,
Пасля вайны пастаўленае першым!

---

Праз колькі год стаю на месцы тым.
Счарнела лістападаўская слота.
Па Нарачы паўзе вільготны дым,
Як па Мацеевай кашулі пляма поту.
Нібы лязом жалезным з бервяна,
Няўмольны Час і ў ночы, і ад ранку
За годам год з жыцця здзірае дранку.
Ні Купы, ні Мацея, ні гумна...

## ЛЯ КРЫНІЦЫ

Яна была замкнёна на замок.
На ланцугу іржавым, бы сабака,
Ён вартаваў крыніцу. Ажно ўзмок,
Пакуль вялізны ключ не перамог...
Як ён рыпеў, няшчасны той замок!
Вішчаў на паваротах, небарака.
Жанчынка сціплая, хавальніца ключа,
Прыжмурыўшы бясколерныя вочы,
Сказала, што крыніца ўжо не хоча
Нікога бачыць болей. Апрача
Тых, хто глядзеў з маленства ёй у вочы,
Хто піў крыштальна-ледзяны блакіт...

Што ж, каб яе, крый Божа, не сурочыць,
Наважыўся кудысь далей пакрочыць...
Ды раптам па-над ёй паўстаў прывід:
Бяжыць хлапчук маленькі да крыніцы
З вядзёркам, што на сонейку блішчыць...
Шукае абапал яе суніцы.
Але ўжо адышла пара суніц.
І ў ліпеньскай спякоце верасок...
Праз марыва дрыготкае ў паветры
Ён бачыць, як з глыбінь, аднекуль з нетраў
Б'е кіпень дый пузырыцца пясок...
...Адкінутае ўбок цяжкое века
Адкрыла гразкае, у чорнай слоце, дно.
І гэта ўсё, што тут жыло спрадвеку?!
Здавалася б, на радасць чалавеку
Бруілася. Ды ўсё яму адно —
Жыццё ці смерць, вада жывая, слота,..
Забрудзіць ўсё, чым дыхае Зямля,
І падлічыць выдаткі, траты, квоты,
Каб гінуць не адразу, спакваля...

Стаю ля той загінулай крыніцы...
Чаму калісь не даў сабе зарок,
Каб перашкодзіць глуха зачыніцца
На саржавелы назаўжды замок?!
І ўсё-ткі, можа, дапаможа Бог
І ёй, і нам у тым апошнім разе?..
Струменьчык жвавы выблытаўся з гразі
І ў хвалю нарачанскую пабёг...

## ВУРЛІК

Над Вурлікамі ранішні туман.
Бы з малаком сплываюць дрэвы, хаты...
А я шукаю Вурліка. Я сам
Надаў яму імя.
Ён быў прыдатны
Да гэтага бурлівага імя,
Што той струмень, які бруіцца ў Нарач.

У вёсачкі і белага каня
Адно імя.
Яно натхняе марыць
Пра тое, як, скруціўшы лейцы ўзлом,
Каню шапнуўшы: «Вурлік», — проста ў вуха,
На спіну ўзлезці. Без сядла. Ды й рухаць
Павольна.
Ці імчацца напралом...

Аднойчы ледзь яго не патапіў.
Павёў наўпрост праз ссохлае балота.
Я думаў, што балота проста слота.
І моўчкі сам з таго балота кпіў,
Калі хадзіў па пратаптанай сцежцы...
Ды толькі нешта здарылася ўраз:

Напяўшы, бы струну, аброць і лейцы,
Мой белы конь па самы крыж уграз.

Не ведаю, адкуль ўзялася моц
У хлопчыка цягнуць каня з балота.
Я бачыў, як смяротная маркота
Ў вачах яго цямнела,
Як аброць
Цуглямі раздзірала яму губы,
Калі я ратаваў яго ад згубы,
І як сляза скацілася ад вока
У прадчуванні будучага кроку...

...Але куды падзеўся белы конь?
Мо дзе схаваўся ў тым тумане белым.
Стаіць нячутным водгукам збялелым.
Маўляў, ад успамінаў абаронь.

Бо Вурлікаў ужо няма даўно.
Ні дрэваў тых, ні хат няма ў тумане.
Мо толькі рэха, можа, не падмане,
Адкажа нешта. Што?
Усё адно...
У 21-га стагоддзя госць,
Бадзяюся па цьмяных успамінах
З 20-га. У пошуках няспынных.
І клічу: «Вурлік, Вурлік, дзе ты ёсць?»

## Я ВЕРУ Ў ЦУД

Я веру ў Цуд, але не веру ў Бога.
Ніяк Яго з сабой не спалучу.
Што: каб не Ён, дык не было б нічога?
Што: каб не Ён, ніхто б нас не пачуў?
Ад небыцця у небыццё дарога —
І гэта ўсё, што створана Адтуль?
Яго няма нябеснага й зямнога!
Бо дзе Ён? Дзе?
Нідзе.
Бо Ён паўсюль...

---

Я веру ў Цуд, але не ў цуды.
У Цуд бясконцага Жыцця.
У Бога, што жыве паўсюды.
Ратуючы ад небыцця...
Сам па сабе жыве.
Без Юды...

* * *

Галінка прарастае у Сусвет.
Адкуль, скажыце, тут яна з'явілася?
З якога зерня, што сярод планет
Блукала, ды за нашу зачапілася?
Ёй цёпла тут —
Між веснавых прыкмет.
Пупышка... лісцік...
Простая галінка...
Галінка прарастае у Сусвет.
Туды, дзе Вечнасць што адна хвілінка.

## СВЯТЛО Ў АКЕНЦЫ

Скрабе ад раніцы лапаціна ў двары.
Напэўна, снег.
Святло ў маім акенцы.
А сёння дзень які ў календары
Пад белай вокладкай, што ціха зранку тчэцца?
Якіх, скажыце мне,
Часоў няпэўны збег
Стаў новага стагоддзя нараджэннем?
А снег ідзе.
Ідзе вялікі снег —
Святлом у вокны, роўным абуджэнню.
Бясконцы мой перадсвітальны сон,
Не змучаны ні навіной, ні датай...
Які ён лёгкі!
Безжурботны ён...
А дворнік усё скрэбае лапатай.

## НАЧНЫ АНЁЛ

Ляціць, на скрыпачцы іграе
Сярод паўночных аблачын.
Няўлоўна раптам узнікае,
Знікае раптам ў далячынь...
Бязмежная яго свабода.
З усмешкай ціхамірнай твар.
Ад боскасці яго прырода.
Ці з чалавечых вечных мар?
У змрочнай далі, без маны,
У зморы ад пакутаў лёсу,
Пачуй з палёў павеў зямны,
І гукі скрыпачкі з нябёсаў...

## ВЕЧНЫЯ ПЫТАННІ

З якіх тысячагоддзяў
Ў які мільён гадоў
Зямлі ў Сусвеце гойдацца
На крылах ветракоў?
Мы верым: не зачыніцца
Няспынны млын для нас.
А што, калі ён спыніцца,
Ў муку змалоўшы Час?
Мо нейкія прапелеры
Нясуць у далячынь...
Зацята ў гэта верым мы.
Хаця з якіх прычын?
Нябесныя арэлі
Мы ўсе ў дзяцінстве снім...
Адкуль мы прыляцелі?
Куды цяпер ляцім?

## ПОЗІРК

Усё часцей кідаю позірк ў неба,
У сінь паміж пякельных аблачын.
Якая ж у тым позірку патрэба?
Якую ён шукае далячынь?
Ці на зямлі яму няма спакою?
Ці ў прыцяжэнні адчувае страх?
Ці прагне ён намацаць, як рукою,
Сусвету твар, бы мацае сляпак?
Ці так, ці гэтак...
Што б там ні было,
Шукае позірк ў бездані акенца —
Мо хто адтуль нарэшце адгукнецца...
І запануе на зямлі Святло.

* * *

Ці чуеце вы нашы галасы,
Суседзі недасяжныя ў Сусвеце?
Ці бачыце, як з кожнае вясны
На дрэвах распускаюцца суквецці?
І п'юць блакіт з нябеснае крыніц,
І набрыняюць жыватворным сокам...
З якіх неверагодных таямніц
Вы сочыце усёвідушчым вокам?

## ЗІМАЛЕТА

*В. Някляеву*

Дзе ж ты ўбачыў дах пад снегам,
Сонейкам угрэты?
На радзіме адбыліся
Прадказанні Грэты.
Мусіць Творца даў дзе маху,
Свет стварыўшы спехам...
Ці то мы з'язджаем з даху,
Ці то снег паехаў...
Вось і вер цяпер прыкметам,
Троху шызанутым...
Хутка люты будзе летам,
Ну а лета ў лютым.

## МАТЫЛЬ

Ну, што, матыль, няўтульна на Зямлі?
На пустку прызямліўся так няўдала.
Мо ты чакаў вільготнае раллі.
Зямля ж пярхотнай сушшу напаткала.

Няўжо з нябёс, з міжзоркавых вышынь
Не бачыў ты, як чорная навала
Спаліла нас гарачынёй пустынь?..
Няўжо табе сузор'яў іншых мала?

А можа, гэта ў памяці тваёй
Хаваецца Зямлі пачатак быццам.
І ўсё ж жыццё не скончыцца на ёй,
Пакуль трымцяць карункавыя крылцы.

## ПАНДЭМІЯ

Яго хавалі у зачыненай труне.
Для справаздачы — плюс.
Ад чалавецтва — мінус...
А ноччу прымаркоцілася мне,
Як з-пад зямлі каранавірус вырас.
Атрутны пах. Раскошная лістота.
З нябёс — паліў бясконцае хлусні...
Якая прыцягальная істота!
Ты паспрабуй што іншае сасні.

А з досвіткам усё шчыльней аблога,
Ледзь замігцела кволае святло...
Ці то нябожчыка хавалі,
Ці то Бога.
Хто ведае, што ў той труне было...

* * *

Не пішацца.
Хто ведае чаму...
Не чуецца. Не бачыцца. Не дыхаецца...
Душа нібыта кінута ў турму

Слоў невыразных,
Дзе патроху нішчыцца.

Дзе думкі ўзяты на глухі запор.
Дзе сам сабе і вязень, і наглядчык.
Дзе, што ні моўлена, усё сабе ў дакор.
Дзе цішыня — і цэнзар, і дарадчык.

Адкуль,
З якіх невыказных вышынь
Раз у жыцці сыходзіць тое Слова,
Што не ўпадае ў забыцця смяротны вір,
У безупынную Часоў трапляе плынь,
Каб дакрануцца да жыцця другога?

Як ні ўслухоўвайся, адказу не чуваць...
Муры турмы яго трывала дбаюць.
Адно што кайданкамі слоў гуляць...
Ды словы ўжо даўно душы не маюць.

А ты, мая душа, што ты маўчыш?
Ці сілачкі тваёй адказ твой звыш??

Не пішацца.
Не пішацца.
Не піш...

*7 сакавіка 2021 г.*

## БЫЦЬ АЛЬБО НЕ БЫЦЬ

А мы ўжо там былі, дзе не былі.
І зноўку там, дзе не былі, мы будзем.
Няўжо ва ўлонні матухны-Зямлі
Мы назаўжды, дзе мы былі, забудзем?!
Няўжо ў Сусвету памяці няма?
Няўжо ў тумане забыцця збялелым

І мы, і наша матухна-Зямля
Ў Сусвеце згінем камянём змярцвелым?
Дык ці былі мы там, прыйшлі адкуль?
І там, куды пайсці наканавана?
Заўжды былі і будзем мы, пакуль
Крывавіцца Жыцця жывая рана...

* * *

*Уладзімеру Някляеву*

Вось і табе, стары, 75.
Пульсуе боль і КРЭВАточаць раны.
Чаго акром здароўя пажадаць?
Хай пішуцца і вершы, і раманы.
Хай доўжыцца жыццё, якое ёсць.
Што будзе ў іншым, дружа, невядома...
А быдла, як на ім паўстане поўсць,
У пекле хай гарыць Гэй Бэн Гінома.
Ў геене вогненнай няхай яно згарыць.
Ты ж, атрымаўшы Божае абранне,
Павінен шчэ бясконца доўга жыць
У стане неўміручага Кахання.

* * *

Пытаннем скончыцца жыццё
Ці ў рэшце рэшт паставіць клічнік,
А застанецца ўсё ж адно:
Акно,
Чырвонае лісцё
І гэты сонечны кастрычнік...

## ПРА «ЗАХОДНІКА»

У траў пажухлых перадзімні шок.
Няўмольны лёс пакінуў свой пакунак:
За польскім часам цёплы кажушок.
Вушанка — ад Саветаў падарунак...

## ПРА БАБРОЎ І ЛАЗНЮ

Хвіліны Часу, нібыта бабры,
Згрызаюць лазню над ракой старую...
Але не падуладны ім муры.
Таму і лазню, мабыць, ім дарую.

## ПРА ПАЦАЛУНАК

Хай вясна і не вельмі спяшаецца
Вызваляць ад зімовай нуды,
Ты заўваж з красавіцкае раніцы
Пацалунак зямлі і вады.

## ПРА ТЭСТ І ТОСТ

Жыццё — на доўгае сяброўства тэст.
Яно заўжды — сяброўства наша — з намі,
Выпрабаванне ці святочны фэст...
Яго не купіш ані ў якай краме.
Усмешка грае ці цячэ сляза,
Заўжды наш тост сяброўскі — толькі «ЗА!».

## ПРА МОМАНТЫ І МАМАНТАЎ

Калі надыдзе час жыццё пакінуць,
Што з момантаў ягоных прарасце?
Альбо наканавана ім загінуць,
Як мамантам у вечнай мерзлаце?..

## ПРА ПРЫКМЕТЫ

Хопіць давяраць прыкметам,
Троху шызанутым...
Хутка люты будзе летам,
Ну а лета — ў лютым.

## ПРА СУСТРЭЧУ

Было трошкі цеснавата,
Хоць канапа — не Парнас...
Мо сяброўства вінавата,
Што уціснуліся ў Час.

## ПРА САПРАЎДНЫХ

Паветра словамі калышучых
Зашмат з усіх бакоў паўстала —
Пра ўсё гаворачых і пішучых...
Сапраўдных мала.

## ПРА РУХІ

Белыя мухі, белыя мухі...
Самотнай душы патаемныя рухі.

## ПРА ПОЗНА І РАНА

Сябры, не будзем заракацца
І на хваробы наракаць.
Яшчэ нам рана — «Так трымацца!»
Яшчэ не позна — «Так трымаць!»

## ПРА СВЯТЛО І ЦЕНЬ

У вечары, уночы ці ад раніцы,
Калі ў вакно паўзе трывожны дзень,
Запалім свечкі ў знак нязгаснай Памяці.
Чым больш святла, тым карацейшы цень.

## ПРА ЖУРНАЛІСТЫКУ

Чым вымяраецца адлегласць да навінаў?
Не кіламетрамі, не важкасцю манет,
А вытрымкай да незлічоных кпінаў
Ды колькасцю спалёных цыгарэт.

## ПРА ГУК І ВЫСЬ

Куды падзеліся у вершах гук і высь?
Дзе счэпка думкі, пачуцця і рыфмы коўкай?
Што сёння вершам лічыцца, калісь
У лепшым выпадку лічылі замалёўкай.

## ПРА ЗАБОЙЦУ

Калі, крый Божа, ў яве ці нібыта
Сысці дзяржаве нашай у нябыт,
То ведайце: яна была забіта.
Хаця забойца скажа — суіцыд.

## ПРА АНТЫЦЕЛЫ

Аднекуль раптам прыляцела,
Што я на гэтым свеце госць,
Бо не знайшлося антыцелаў,
Хоць антыцела ўсё-ткі ёсць.

## ПРА ШЛЯХ

Я веру: мы ніколі ўжо не спынімся
І пройдзем шляхам непарушнай еднасці
Ад плошчы, што пад вежай Гедымінаса,
Да шматпакутнай плошчы Незалежнасці.

## ПРА ПРЫГАЖОСЦЬ

Калі з нябёсаў у маё жытло
Струмень бруіцца з поўні ртутны,
Ці жыватворчае, пытаюся, святло
У прыгажосці?
Альбо смак атрутны?..

## ПРА ЎЗРОСТ

Годзе нас ужо пужаць
Лічбамі узросту.
Ад яго ўжо не адняць...
Можна толькі дадаваць,
Кажучы папросту...

## ПА ПІВА І КАВУ

Калі нап’ешся піва зранку,
Дык ледзь дацягнешся да ганка...
А з філіжанкай добрай кавы
Лагодны будзеш і рухавы.

## ПРА АТЭІСТАЎ І ВЕРНІКАЎ

Здаўна у нас вядзецца звычай:
То пуга, то салодкі пернік.
Як атэіст, дык ваяўнічы.
Як дабрадзей, дык толькі вернік.

## ПРА ДЗЯДОЎ

Старымі сталі? Не бяды.
Аніякай крыўды.
Не зусім яшчэ дзяды.
Не дзяды, а дзіды.

*Посвящается моим родителям*
*Марии Вагановой и Давиду Пинхасику*

## ОТ АВТОРА

Где-то в конце 40-х — начале 50-х годов, восьми-девяти лет от роду, в дальнем углу выдвижного ящика родительского письменного стола я нашёл аккуратно завёрнутый в газету, перевязанный шнурком свёрток. Повинуясь неистребимому детскому любопытству, я развернул его. Это были письма отца с фронта маме в эвакуацию и мамы отцу на фронт. И эти письма стали для меня одним из самых важных тайных открытий, какие только возможны в детстве.

Разбирая после ухода родителей из жизни — отца в 1996 году, мамы в 2004-м — семейный архив, включая несколько альбомов фотографий, я с особой и потрясшей меня ясностью сделал ещё одно открытие: прошлое не исчезает. Оно, прошлое, живёт с нами в настоящем своей очень существенной частью. Буквально живёт, проявляя себя в новых подробностях, деталях, взаимосвязях, то ли полузабытых, то ли не имевших до поры никакого значения.

Из этого, почти через 70 лет, открытия, из ощущения, что прошлое не просто вспоминается, а живёт со мной, во мне, написались два стихотворения — «Бремя» и «Парад».

Так возникло желание создать свой «Семейный альбом», собрать под его обложкой всю большую белорусско-еврейскую Семью, незримо связанную с историей страны, канувшей в Лету, с 20-м веком, веком-волкодавом, по Мандельштаму, хватающим за горло и наш 21-й век.

Но началось, думаю, с того свёртка, найденного в детстве в дальнем углу стола, с тех почти трёх сотен писем 1941–1945 годов...

## БРЕМЯ
## (1941–2016)

—...Ну, здравствуй, мама,
Мне — 75...
Ты помнишь, я спросил: «Где ж ночевали?»
— Во ржи, — сказала ты, — мы так устали...
Уж не придётся ли во ржи рожать?!
— Но я тебя не сильно беспокоил?
Нести такое бремя тяжело...
—Ты до сих пор, сыночек, не усвоил,
Что бремя лёгкое, когда оно своё...
— Но ведь тебе, наверно, было страшно!
Тебя со мной сто раз могли убить...
— Ты знаешь, сын, не так уж это важно.
Страшней рожать, чем умирать и жить...
Я так боялась, каждое мгновенье,
Во ржи скрывались мы или в лесу,
Что я тебя, мой сын, до дня рожденья,
До жизни я тебя не донесу...
И что же, если вдруг жива останусь,
Мне скажет твой страдающий отец?!
Твоя жена и дочь твоя — что скажут?!
Что скажет внучка? Правнук, наконец?!
...Так мы с тобой добрались до Казани.
Совсем не ближний, как ты знаешь, свет.
А там и ты осенним утром ранним
Явился в этот мир.
Другого нет...
И как тебе в твои 75?
Тебя твоё обременяет время?
Я слышала, война идёт опять.
И снова смерть в своё вступила стремя...
— Да, мама, время подводить итог.
Но до сих пор тебя не беспокоил.

Казалось мне, что той войны урок
Несчастный мир давным-давно усвоил.
Но вновь со всех сторон рычит зверьё.
Вновь чья-то мать своё спасает бремя..
Нет, не легко тащить, хоть и своё,
Своё тащить через чужое время...
Но ты не думай, я его тащу,
Хотя оно жестоко может ранить...
Пусть нелегко, но я не прекращу
Тащить свою и нашу, мама, Память...

## ПАРАД

46-й... Отец пришёл с войны.
Кожанка, кобура и портупея...
Небритая щека. Глаза еврея,
О чём соседи осведомлены...

46-й... Отец счастливо молод.
Все живы: мама, сёстры, сын, жена...
Пусть за окном фанерным лютый холод.
Какое счастье! Кончилась война...

46-й... Отец принёс дрова,
Развёл огонь. Как горяча буржуйка!
И как уютна толстая тужурка,
В которой он вернулся со двора...

46-й... Отец не знал меня.
«Мой папка» — подпись под моим же фото,
Где я держу его, и он — на фото...
О, Боже, это он? И это я?

46-й... Отец сынишке рад.
Ноябрь. Листопад. Число 7-е.
Мне пять уже.

На праздничный парад с отцом идём.
Я на руках.
Нас двое...

## БОЛЬШАЯ МЕЧТА

Мой дядя Лазарь, старший брат отца,
Был революций пламенный участник.
К Большим Событиям мой дядя был причастен.
К Большой Мечте. До самого конца...
Он был совсем простой еврейский мальчик.
Ему казалось: вот она, судьба...
Отец — на скотобойне, мама — прачка.
И в молотьбу ввязалась голытьба.
В 17-м ему 17 лет.
В 37-м оборвалась орбита.
НКВД не дрогнул пистолет.
Вот так его Мечта была убита.
Жена и дети — Алла и Марат.
Ей — Колыма. Им — детский дом и гетто...
Мечта! Она сметала всех подряд.
Кого куда. Кого туда. Кого-то где-то...
И если кто-то в судорогах века
Большой Мечты опять услышит зов,
Про дядю моего, про человека
Пускай запомнит эту пару слов:
Он так хотел, чтоб сказка стала былью.
И вместо сердца — пламенный мотор.
А стал мой дядя лагерною пылью.
Першинкой в горле...
Выстрелом в упор...

## ПАРОМ

*1959 год. Мне 18, маме 51. Она впервые привезла меня на свою родину в местечко Луначарское, до революции — Микалаёва, на Западной Двине, по которой с 1921 по 1939 год проходила советско-польская граница.*

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Течение сносило нас на запад..
Она смотрела вдаль из-под руки.
Туда, откуда доносился запах
Покинутого много лет назад,
Казалось, навсегда, родного дома...

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Река играла клочьями тумана.
О, как те годы были далеки,
Где память с неизбежностью тарана,
Рождала звук, похожий на раскат
С крутых небес низвергнутого грома...

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Едва доплыв до века середины,
Мы обернулись. Наши старики
Стояли, будто слеплены из глины.
Дед поднял руку, будто звал назад.
Старуха тронула седых волос солому...

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Я их не знал — ни бабушку, ни деда...
Ни горсточки их пепельной муки.
Ни косточки, ни камешка, ни следа...
Лишь только войн и революций ад.
Лишь только гарь Гоморры и Содома.

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки
До берега, где режут камни пилы.
О, как те камни будут велики
На месте от затерянной могилы
Среди чужих незнаемых утрат,
Взывающих к печали невесомо...

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Волна в паром неутолимо билась.
Но, всем речным законам вопреки,
Река, казалось, вдруг остановилась.
Остановился материнский взгляд
На грани исторического взлома...

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома.

Мы с мамой плыли поперёк реки.
Пересекали памяти границу.
Смотрели в спину красные штыки,
И польские сверкали в наши лица.

Скрипел струной натянутый канат
Под тяжестью ползущего парома...

А где-то в небесах лупил в набат
Двадцатый век с улыбкой костолома...

## КИНО 49-ГО ГОДА

Я помню фильм «Падение Берлина».
Кинотеатр «Первый». Первый ряд.
Над головою луч мерцает пыльный,
И слышно, как стрекочет аппарат.

Горят хлеба, и мчат мотоциклисты.
И флаг со свастикой накрыл весь белый свет...
И мама шепчет: «Сволочи... Фашисты...»
Но почему у флага красный цвет?
Ведь как повяжешь пионерский галстук,
Нам говорили, береги его...
Он с нашим знаменем, таким же красным,
Был, есть и будет цвета одного...
А кто ж ещё в отряде знамя носит?!
Кто каждым утром солнечным горнист?!
Я так гордился этим! И вопрос тот
Остался без ответа: «Кто — фашист?»

Фашист! Обидней не было ругательств.
Чуть что не так, «фашист!» — срывалось с губ...
Без всяких чрезвычайных обстоятельств,
Воспитан ты иль по-пацански груб.

И только конопатый рыжий Оська,
По дворовому прозвищу Авоська,
Держался в стороне от наших игр
И скрипку запиликивал до дыр.

Авоська-Оська! Дружит сам с собой.
У нас — штабы и полубоксом стрижка...
И с улицей Толстого вечный бой.
А Оська что? Очки, смычок и скрипка...

Однажды, помню, наши бомбовозы
Летели краем неба и земли...
Так, нарастая, громыхают грозы
За горизонтом, где-то там, вдали...
И в этот звук — густой, надрывный, длинный —
Вот-вот вонзится страшный бомбы свист...
Как в том кино, в «Падении Берлина»,
С вопросом мимолётным: «Кто фашист?»...
Но вместо свиста я услышал звук.
Какой-то звук, протяжный и скрипучий...
В распахнутом окне он как бы вдруг
Возник. Там Оська скрипку мучал.
— Кончай скрипеть, иди сюда, Авоська.
Смотри, фашист, как на Берлин летят...
— Ах, я фашист?!
Удар. И кровь из носа.
И ненавидящий фашистов Оськин взгляд.

...Я помню фильм «Падение Берлина».
Рёв бомбовозов. Острый кулачок.
Скрипучий помню и неутомимый,
Упрямый Оськи рыжего смычок...

## СВЯЗНАЯ

*Моей сестре Вере*

Её распяли на стене сарая
В глухих задворках узденской тюрьмы...
Она была у партизан связная.
Её могила — достоянье тьмы.

Учительница в дальней сельской школе.
Связная дат, эпох, событий, эр...
Явилась в этот мир по Божьей воле
Для жизни в Белорусской ССР...

Казалось, этой жизни нет примера!
Казалось, эта жизнь — сама пример.
Так думала учительница Вера
О жизни в Белорусской ССР...

Казалось, эта жизнь как свет в окошке
Для всех, кто, верой в Бога задурён,
Столетьями тянул свой след за сошкой
И за костлявым, в нищете, конём...

Казалось ей: мы новый мир построим.
Кто был никем, казалось, станет всем.
И с новой верой монолитным строем
Пойдём в коммуну... Но вопрос: «Зачем?»

Ни днём, ни ночью никого не мучил.
В строю такой вопрос не задают.
Ведь для того Историю мы учим,
Чтоб утвердить коммуну там и тут...

И вот она — колхозная деревня,
Любимый муж, дочурка, старики...
Волна Истории подняла вдруг на гребень
И бросила, той жизни вопреки,

О землю, захлебнувшуюся кровью.
И только Верой преданный Иисус
За всем, что ей казалось сладкой новью,
Распятую провидел Беларусь.
...Я в детстве часто слышал слово «вера».
О том, что Веры в жизни больше нет.
Но почему-то слышу запах серы,
Когда смотрюсь в единственный портрет,
Который долго провисел в музее —
В заброшенном Историей углу...
И чувствую, как, дьявольски борзея,
История опять нашла иглу,
Чтобы опять вогнать её под сердце.
И гвоздь — в открытую ладонь страны.
Скажите, и сегодня вы не верите
В убийственные игры сатаны?!
Пока живём. Но серы вонь не тает.
Как ядовита, как страшна она,
Когда российский поп благословляет
Российскую ракету «Сатана»...

...Её распяли на стене сарая
В глухих задворках узденской тюрьмы.
Она была у партизан связная.
Святой она вернулась к нам из тьмы.

## ПЕТЛЯ

Мой брат, сын тёти Нади, Николай
Повесился в общественной уборной.
После борьбы с самим собой упорной,
Под новостей ТВ животный лай
Словно с цепи сорвавшихся собак,
Грызущих плоть и в клочья рвущих душу...

Да, он всего лишь новости послушал,
Увидев перед Белым домом танк...

Октябрь был. Год 93-й.
Но всплыл из памяти тот 45-й год.
На грани жизни. На пороге смерти.
И перекошенный от боли чёрный рот...

Я помню нарисованный им танк.
Зелёный, со звездой на круглой башне...
Брат каждый божий день, с утра пораньше
Сдирал повязки с обожжённых ран...

После войны — каспийских далей близь...
Он стал на Нефтяных Камнях пожарным.
Огонь для брата моего стал главным
Врагом на всю оставшуюся жизнь.
Не счесть спасённых им и тел, и душ,
Когда, как танк в бою, та нефть горела...
Кому она тогда карманы грела
Фонтаном, вязкой слизью чёрных луж?

Но каждый год, не поздно и не рано,
Как только гриб из-под земли полез,
Он ехал к маме, в белорусский лес —
Повязкой на оставшуюся рану.
Родной земле свою вверяя душу,
Твердя любимый стих про родны кут...
Освобождался от житейских пут,
Не зная, что петля его задушит.
Он тяжело переживал распад
СССР — в несчастье личной драмы.
Ему казалось: на могилу мамы
Дороги нет уже, как было год назад.
Ему казалось: оборвалась связь
С родной землёй, перевязавшей рану...

Он привязал себя к телеэкрану,
Надеясь — не совсем оборвалась.
Но вышла связь не с будущим, а с прошлым.
Вспять повернул экран теченье лет.
Он понял вдруг, что будущего нет.
А прошлое увидел в землю вросшим...
Но за времён неисчислимой далью
Прах полыхнёт горячею золой...

Мы думали: история — спиралью.
А вышло — удушающей петлёй.

## РОЯЛЬ

> При бомбардировке г. Минска 25 июня 1941 года
> сгорел дом и всё имущество...
>
> *Из Акта для представления в Государственную*
> *Чрезвычайную комиссию, 21 марта 1945 г.*

Он появился ниоткуда.
С той запредельной стороны,
Которая веленьем чуда
Его спасала от войны.

За годы от начала века
Под пальцами которых рук
Его натруженная дека
Могла издать предсмертный звук?

Быть может, некий группенфюрер —
Гестаповец и музыкант —
Глушил расправ безумный зуммер
Мольбой бетховенских сонат...

Или в каком-нибудь борделе,
Пока не обратились в тлен,

Под мой рояль Soldaten пели
«Лили Марлен»... «Лили Марлен...»

В моём архиве есть бумага
С печатью, под названьем «Акт».
Сороковых смертельных сага.
Год 41-й... Бомбы... Ад...

Пред этим светом не повинно,
Оно осталось в свете том
Струной звенящей — пианино —
И с развороченным нутром...

Живёт во мне подарком Бога,
Под плач оборванной струны,
Во чреве матери дорога
Во чрево вздыбленной страны...

Теперь я понимаю маму,
Пронёсшую меня сквозь ад...
Её пожизненную драму
На входе в отворённый склад
Вещей, захваченных в трофеи,
Которых никому не жаль...
И кладовщица, словно фея,
С вопросом: «Шуба иль рояль?»

...Ах, мама! Ты не знала, мама,
Когда тащили в дом его,
Что он — этюды Черни, гаммы —
Могильщик детства моего.

Тебе, наверное, казалось...
Но оставалось лишь мечтать.
Я помню, мама, твою жалость,
Что мне «Рахманиным» не стать...

Но до сих пор не понимаю,
Хотя уже и сам старик,
Зачем его всю жизнь таскаю,
Как ту игрушку-грузовик,
С одной квартиры на другую...
Ведь разучился я играть
И, тронув клавишу живую,
Живую ноту извлекать.

Конечно, он — семьи преданье,
Дитя спасенья своего.
Глухие звуки мирозданья
Сокрыты в памяти его.
Молчит рояль из ниоткуда.
Молчит, обиду затая...

Но оба живы мы, покуда
Мы оба живы.
Он и я.

## ЖИВОЙ УГОЛОК

Портрет висел над клетками с ежами,
Ужами, кроликом и парой черепах...
Казалось мне, что он следил за нами,
Рождая в пионерском сердце страх.

От взгляда из-под стёклышек пенсне,
От глаз его холодных и навыкате
Не спрятаться мне было ни во сне,
Ни в уголке — живых существ обители.

Вожатый наш, студент-биолог Саня
Кормить ежей и кролика учил.
«Когда, — сказал, — ушёл товарищ Сталин,
То Берии державу поручил...»

Он в партизанах был жестоко ранен,
Вожатый наш, и ногу волочил...

...Июнь... От века год 53-й...
И гром с небес... И детской веры крах...
Не знал товарищ Сталин, что Лаврентий
Шпион английский и народа враг.

О, как мы изодрали тот портрет!
Не будет больше он следить за нами
Удавьим взглядом — был, да больше нет! —
И спичками прожжёнными зрачками...

Вжал уши кролик, и свернулся ёж,
Втянули головы под панцирь черепахи...
И выжигались ненавистью страхи
У Сашек, Вовок, Витек и Серёж.

И долго мы смотрели Сане вслед,
Когда, сказав: «Кормить питомцев надо»,
Он, отобрав изодранный портрет,
Хромая, нёс на свалку, где ограда.

И не было портрета ненавистнее,
Чем тот, который Саня поволок...
А с нами оставался наш единственный.
Ещё живой, на годы, уголок.

## СТАРЫЕ ПЕСНИ

Когда не сплю я, памятью ранимый,
Напевом давним мой ночной покой
Встревожен — «то берёзка, то рябина...»,
Ещё и «куст ракиты над рекой...»

А то, шагая в ногу и задорно,
Со всеми вместе открывая рот,
Пою, как «по долинам и по взгорьям»
Всё шла и «шла дивизия вперёд...»

И с поворотом головы неловким
С запáсного срывается пути
«Наш бронепоезд...» с песней про Каховку,
Что пулею горячею летит.

Давно истлели беленькие кости.
Так почему же из ночных пещер
Вползает в сон, как «на Дону», «...в Замостье»
Наш «Ворошилов... красный офицер»
Кровь проливает «за СССР»?

Ищу ответ, чем вызван этот бред.
СССР и песни те — все прахом.
Неужто через семь десятков лет
Проснувшимся в душе ползучим страхом?

Я знаю, чем встревожен мой покой,
Когда не сплю я, памятью ранимый:
Боюсь за Беларусь, за Украину...
Ну, и за куст ракиты над рекой.

## ПО ПЕРВОМУ ЛЬДУ

### 1947-й…

В подъезде пахнет щами и духами,
Хоть сквозняки гуляют напролёт.
А я стучу по лестнице коньками,
Спешу во двор на первый тонкий лёд.
Мне шесть уже. В шубейке, что на вырост
Мне перешила мама из своей,
Спешу на лёд, который, как папирус,
Трещит и рвётся.
Но скорей, скорей!
Скорей его попробовать коньками!
Пусть изо рта клубится лёгкий пар...
Я расскажу потом любимой маме,
Как одолел, хоть яма там на яме,
Покрытый льдом разбитый тротуар.
И пусть завидует дворовый кореш Яшка,
Пусть смотрит, как скользят под мах руки,
Верёвками и толстой деревяшкой
Прикрученные к валенкам коньки!
Вот оттолкнулся. Первый взят разгон.
Ещё толчок!
Скольжу что было сил...
Как радостен конька весёлый звон!..
Ах, Яшка!
Ну, зачем смеялся он,
Когда я всё же в яму угодил?!

### …2017-й

Уложен новой плиткой тротуар.
Кружит снежок.
Лежит ледок с мороза.

Песок по льду, чтоб не страдала поза.
Но так же изо рта клубится пар.
Всё так же пахнет щами и духами
Подъезд.
Всё тот же двор.
Лишь малым стал.
Вот на каток спешит малыш с коньками.
Смотри, малыш, не упади на яме...

Как жалко, что моей любимой маме
Я ничего тогда не рассказал...

## КОСТЮМ ИЗ ШЕВИОТА

В шкафу висит костюм из шевиота.
Он сшит по моде предвоенных лет.
Потёрт пиджак.
Чуть слышный запах пота.
И орденских колодок тёмный след.

Его отцу купила баба Гита
За день или за два до ТОЙ войны.

Ах, баба Гита, ты была б убита,
Когда б не потащилась вглубь страны.

Тебя бы тоже поджидало гетто,
Сыпучих ям неотвратимый ад...

На полстраны отцовский голос: «Где ты-ы-ы?»
Звучал не дни, а месяцы подряд...

Где ты теперь, моя родная мама?!
Где ты, жена?!
Где не рождённый сын?!

Где сёстры?
Дети Эммы и Абрама?

О, голоса воюющих мужчин!

Когда ж донёсся из бездонной ямы
Ночей бессонных и тяжёлых дум
На идише далёкий голос мамы,
Отец услышал сагу про костюм.

«Из Минска уходили мы, в чём были... —
Так начинался горестный рассказ. —
Свистели бомбы, и сирены выли...
Мы ничего не брали про запас...
Взяла я только твой костюм, сынок.
Ты знаешь, как меня ругала Сонька,
Твоя неугомонная сестрёнка?!
Какой теперь, мол, от костюма прок,
К тому ж в пути не нужен лишний груз...»

Увидев бледных строчек почерк ломкий,
Отец представил, как бредёт с котомкой
Старуха-мама через весь Союз.

Он, обжигаясь, пальцем пригасил
Фитиль коптилки, что чадила горько.
На донышке плескался керосин...
Лишь одного у ночи он просил:
Чтоб до утра дожить хватило сил...
И расстегнул на шее гимнастёрку.

...Когда в ночи побаливает сердце,
От суеты ничтожных дел устав,
Я вспоминаю наш семейный шкаф
И осторожно открываю дверцу.

И вижу там костюм из шевиота,
Что сшит по моде предвоенных лет.

Потёрт пиджак.
Чуть слышный запах пота.
И орденских колодок тёмный след.

## СТРАНА СЕСТРИНСКОГО УХОДА

Сестра ушла из жизни в январе.
В 10-й день, в 10-й год от века...
И на продавленной тахте, как на одре,
Лежал сухой остаток человека.

Два белых ангела за письменным столом,
Достав из сумочек какие-то тетради,
Пытались склеить, на сестру не глядя,
Её угасшей жизни тихий слом.

Пришёл розовощёкий капитан
Милиции и, не стащив фуражку,
Спросил: «Буянила?» И дал свою отмашку
Сестре на путь в небесный караван.

---

«...Вы развратите всех моих сестёр!» —
Кричала зав. сердечным отделением.
В ответ на просьбу продолжать лечение
Девятым валом нарастал отпор.

«Вы что, не видите? Она неизлечима!
Ей уготован скорый сердца срыв...»

Но человек ведь! Господи, помилуй,
Покуда он неизлечимо жив...

«...У нас больница не сестринского ухода.
Мы никого не провожаем в дальний путь...»

ся ўсім сваім смяротным цяжарам выбух Зямлі. З той, аднак, розніцай, што апошні дзень Пампеі пакінуў нашчадкам замест костачак пустасць...

Падлетак бярэ ў рукі чэрап, кладзе яго ў драўляную, з габляваных дошак, труну, прыстасоўвае да іншых костачак, каб жаўнер пачуваўся ў труне чалавекам. І мімаволі гладзіць яго, хочацца сказаць, па галоўцы. Счышчае рэшткі зямлі, нібыта намагаецца супакоіць, суцішыць не пазбыты ад вайны боль...

## НЕМАТА

1961 год, Кіеў, Дарніца, спякотны жнівень, насычаны дзяруча-жалезістым пахам пылу і ліцейкі з вагонабудаўнічага завода. Я ратуюся ад спякоты ў прахалоднай зале кінатэатра, дзе гляджу «Голый остров» — нязвыклы для савецкага гледача японскі фільм, аб якім пасля Маскоўскага кінафэсту, дзе ён узяў Вялікі прыз, шмат гаворкі. Хвіліна за хвілінай на экране дзеецца адно і тое ж — бацька, маці і два іхнія сыны, адзіныя жыхары маленькай выспы на моры, маўкліва, быццам нямыя, цягаюць угару, на гарод сярод каменняў, з якога жывуць, прэсную ваду... Аднойчы жанчына незнарок пралівае вядро вады, муж дае ёй аплявуху... Недзе праз паўгадзіны пачынаюць глухавата ляскаць сядзенні крэсел, і я застаюся ў агромністай зале ці не адзін, дачакаўшыся моманту, калі раптоўна захворвае і памірае малодшы сын, і маці ў роспачы выплюхвае ваду на каменні... А потым зноў цягне ўгару поўныя вёдры...

## МІМА ТАНКА

Нарач... На ўзгорку, пад сонейкам, тры хаціны — першае, што бачу, прачнуўшыся, праз акенца Мацеевай хаты на ўскрайку Купы.

Раз на тыдзень я саджуся на Мацееў ровар са з’езджанымі тоўстымі коламі, каб перціся на біястанцыю па хлеб міма трох хацінаў. Па дарозе ўглядаюся ў жыццё за плотам. Агульным, паміж хатамі плота няма. Вось Танк, нахіліўшыся, фарбуе

дрэўцы вапнай, Куляшоў чытае на лаўцы кніжку, прытрымліваючы старонкі ад ветру, а сівы Лынькоў у цяльняшцы рамантуе лодачны рухавік...

Я так прагнуў прачытаць Танку ягоны верш пра Нарач, дзеля чаго вывучыў на памяць: «Люблю тваё, Нарач, затокі і тоні...»

Не атрымалася... Не адважыўся... Толькі міма...

## «МІНІСТЭРСКАЯ ДРЭНЬ»

...Калі чую пра «народ» ад уладальнікаў шыкоўных катэджаў вакол менскага праспекта Пераможцаў, згадваю цётку з Гарадзішчаў, што непадалёк ад тагачасных, у 70-х, урадавых дач. Ці не адна з той вёскі яна трымала карову. Але набыць у яе малака было вельмі цяжка, бо яна размяркоўвала пакупнікоў па адным крытэрыі: доступе да кілбаснага дэфіцыту. Пры гэтым вызначала іх статус адзіным выразам — «міністэрская дрэнь».

Вельмі дакладнае вызначэнне! Пры ўсякай уладзе ёсць неўміручы пласт чынавенства, заклапочанага толькі тым, як захаваць доступ да «карыта» ды й выцягнуць з народнай кішэні апошнюю капейчыну, прываблiваючы пернікам «светлай будучыні»...

## «КАНЕЦ САВЕЦКАГА САЮЗА»

Як толькі чую пра небяспечныя гульні на беларуска-польскай мяжы — ці то стварэнне новай «жалезнай заслоны», альбо штучных дзірак для нелегальных мігрантаў, адразу згадваю бабіна лета 1986 года і вандроўку ў Прагу. Праз Польшчу, зразумела, ехаць на аўто было б значна бліжэй. Але мяжа з Польшчай была зачынена Масквой, якая на дух не цярпела дух «Салідарнасці». Давялося ехаць уздоўж мяжы да Ужгарада, а там праз Славаччыну ў Прагу. Не шкадую, бо шмат цікавага пабачылі з жонкай на тым шляху.

Цікавае здарылася і па вяртанні. Недзе за Ковелем, у прыцемках, заўважыў нацягнуты над шашой дрот з ненавісным усім кіроўцам знакам «кирпич». Прыпыніўся і... паехаў далей. Мо таму, што нейкім самаробным выглядаў гэты злавесны «кирпич». Праз колькі кіламетраў упёрся ў вялізарныя, наглуха зачыненыя жалезныя вароты з чырвонымі па зялёным зоркамі. Заглушыў рухавік, адчыніў вакно... Ціха сеецца дробны дожджык, троху разгубленыя невядомасцю, куды рухацца далей, удыхаем вільготны водар восені... Раптам бачыцца ў прыцемку нейкая постаць у брызентавым плашчы з капюшонам, з паўнюткім вядром. «Не падкажаце, — крычу, — куды гэта я заехаў?» — «Куды, куды... — чуецца незадаволены водгук. — У канец Савецкага Саюза, вось куды...»

А праз пяць гадоў Савецкі Саюз сапраўды скончыўся.

## НАВІНА, ШТО ВЫМАГАЛА ЦІШЫНІ

25 жніўня 1991 года, з Нью-Ёрка рухаемся ў Балтымар. У аўтобусе журналісты з Масквы, з Украіны. З Беларусі я адзін. Раптам аднекуль з'яўляецца дзіўнаватая слухаўка. «Спадарожнікавая, — ганарліва паведамляе Гліб, — можна паразмаўляць з любой кропкай планеты».

Гліб — палкоўнік ЦРУ, прафесар геаграфіі, каранямі з Валыні... З невядома скуль жалем спявае пра «сотню юных бойцов»...

Слухаўка нарэшце трапляе да мяне: «На, тэлефануй жонцы...» Але тэлефаную Бураўкіну, прадстаўніку Беларусі ў ААН. Генадзь Мікалаевіч здзіўляецца, моўчкі слухае, як весела мы рухаемся ў Балтымар, і раптам пытаецца: «Ды ты ці ведаеш навіну?!»

Праз хвіліну я крычу: «Ціха! Ціха! Беларусь абвясціла незалежнасць!»

І сталася ціха...

## НЕСПАСЦІЖНАЯ ТАЯМНІЦА

У вёсцы, дзе калісьці настаўнічаў, узвышаўся над соснамі драўляны касцёл.

Выхаваны атэістам, я тым не менш любіў прыходзіць у касцёл, дыхаць мядовым паветрам, што сыходзіла ад цёплых, прылашчаных сонечным промнем сценаў...

Аднойчы стары ксёндз дазволіў узяць некалькі акордаў на сіплаватым аргане...

А ў траўні, калі барада, якую адрошчваў, дасягнула бачных памераў, прыслужніца ксяндза крываножка Тэкля, кінуўшы пасвіць статак гусей, пабегла за мной, кульгаючы, пагражаючы дубцом і лямантуючы: «Маска-аль!»

Два гукі чую праз паўстагоддзя: таго ляманту і таго аргана. І думаю, што з усіх пытанняў, якімі заклапочаны людзі, адно назаўжды застанецца неспасціжнай розумам таямніцай: скуль дадзена чалавеку музыка?

Кім і адкуль?..

## ПАРАДНЫ РАЗЛІК

У знаёмай сям'і вырашалі маральную праблему: ці ўдзельнічаць у парадзе 9 Траўня дачушцы-школьніцы, якая наважылася паступаць ў гуманітарную ВНУ. Справа ў тым, што з-за відавочнай няздольнасці да матэматыкі сярэдні бал пагражаў быць значна ніжэйшым за пажаданы. Але гэта паўбяды. Бяда ж у тым, што дзяўчынка цудоўна танчыць. І ёй прапанавалі разам з іншымі дзяўчынкамі паскакаць перад трыбунамі «Лявоніху». А за тое паабяцалі «дзясятку» па матэматыцы...

З аднаго боку... З іншага...

Праз маральныя пакуты дзяўчынка знайшла трэці бок:

— ...Калі б не мана, дык нічога ж дрэннага ў тым, каб паскакаць на Дзень Перамогі «Лявоніху», няма?

— Так, няма, — адказаў я. — ...мусіць, няма...

## ПЕРАГРУЗ

1986-ы, снежань, Масква, мінус 27... Збіраюся ляцець у В’етнам, у тропікі... Кінуты ў рэдакцыі кажух, зімовыя боты... У «рафіку», які ператварыўся ў сапраўдны лядоўнік, тры гадзіны матляемся па Маскве, збіраючы дэлегацыю чыгуначнікаў, што таксама мелася ляцець у В’етнам. Мо яно было б троху хутчэй, каб не заплечнікі з прасамі. Нехта з бывалых людзей параіў прыхапіць як мага больш прасаў — найлепшы падарунак, маўляў, альбо якісь гешэфт... Адзін за адным чальцы дэлегацыі цягаюць тыя цяжкаважныя заплечнікі з паверхаў старых маскоўскіх дамоў. Ажно даверху...

У самалёце сусед, дасведчана: «Надзейны самалёт... толькі адзін разбіўся... перагруз...» Азіраюся. Спадарожнікаў няма.

Потым даведаўся: не пусцілі. З-за празмернай вагі багажу.

Перагруз...

## ПЯТРО І ГАННА

1959-ы... Другі курс гістфака... Пад халодным дажджом поркаемся ў пошуку падгнілых бульбін у гразкіх баразнах. Да хаты, дзе начуем, дабіраемся ледзь жывыя. Гаспадар, Пятро, здаецца, налівае ў жалезную конаўку, адну на трох, пякучай каламутнай вадкасці, кожнаму па глытку, а Ганна, памятаю дакладна, ладзіць яечню з леташняй скваркай... Цяпло бяжыць па сасудах, і, павячэраўшы, мы адразу валімся на шырокі сяннік, раскладзены па падлозе. Хата, аб адным пакоі, яшчэ будуецца. Ні ложкаў, ні канапаў — толькі печ ды падлога.

Пятро, Ганна... Гадоў недзе за 70. Але кожную ноч толькі і чуецца з печы валтузня і бясконцае: «Ды адчапіся ты... хлопцаў пабудзіш...»

Ага, пабудзіш...

## РУКІ ДЗЕДА

1943-і. Мяне, двухгадовага, маці прывезла з эвакуацыі ў Маскву. І, падаўшыся бліжэй да Беларусі, пакінула на сваю сястру, цётку Надзею. Аднойчы цётка гуляла са мной ля гатэля «Якорь». Стаміўшыся, пасадзіла на высокі парапет. Але, відаць, жвавенькі быў хлопчык. З'ехаў з парапета і быў падхоплены з лёту нейкім дзядком. «Куды глядзіш, старая варона?! Ледзь дзіця не загубіла...» А «старая варона», з яе слоў, ажно разявіла рот, гледзячы на дзеда і ордэн з-пад расхінутага кажуха...

Ордэн ордэнам, але ж і сёння мне зусім не цяжка ўявіць сабе, нават адчуць рукі дзеда Талаша.

Уратаваў ад калецтва, а мо яшчэ ад чаго горшага...

## ПРА РАДЫЁ І ЦУКЕРКІ

1953 год, Нарач, вёска Купа (цяпер ад яе засталася толькі кавярня з гэтай назвай), якраз там, дзе гэтая кавярня, хата Мацея Магільніцкага, дзе бацькі здымаюць пакойчык на лета. Наводдаль, дзе дарога разыходзіцца на два напрамкі — у вёску направа, на чыгуначную станцыю і далей уздоўж возера — налева, стаіць хата, якую здымае Максім Лужанін. Мацей ужо запрог каня, і мы патроху сунемся ў бок Урлікаў па сена. Насустрач з хаты Лужаніна выплывае, быццам пава, чорнавалосая, вельмі падобная на цыганку, бучная жанчына ў казачным, нібыта з «Тысячы і адной ночы», доўгім, да зямлі, чырвоным халаце з нейкімі залатымі птушкамі па ўсёй тканіне і з вялікім лазневым ручніком вакол шыі.

— Добрай раніцы, пані! — схіляе галаву Мацей. — Вада шчэ, мусіць, зімнаватая...

Жанчына велічна, аднак моўчкі схіляе галаву ў адказ.

Мацей моцна тузае лейцы: «Но, пайшоў...»

Варунічка, трохгадовая дачушка Мацея, хапаецца за парэнчы калёс і раптам кажа:

— А ў горадзе па радыё пяюць і цукеркі ядуць.

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ

Чытаю пра рэканструкцыю падзей Першай сусветнай вайны пад Смаргонню: «...За полчаса зрители... увидели...» Дарослыя пры тым «плакали», а «дети просили больше не стрелять»...

Данбас. Два хлопчыкі, гадоў мо дзевяць-дзесяць, з драўлянымі «калашамі»...

Адзін хутка прамільгнуў, мусіць, недзе па-за кадрам абраў зручную пазіцыю. Камера засяродзілася на другім. Ён так натуральна, так прафесійна то хаваўся за выступам паўразваленай сцяны, то высоўваўся на хвіліну, каб хуценька выпусціць у «ворага» смяротную чаргу...

Шмат аб чым дзеці просяць дарослых на сапраўднай вайне — піць... есці... не даць памерці... не паміраць... Але аб тым, каб не стралялі, не просяць.

Бо якая ж гэта вайна, калі не страляць?!

## САКРЭТ

Аднойчы ў дзяцінстве матуля павяла мяне пагуляць у цэнтр Мінска, у парк, бо далей за свой двор на Маскоўскай я мала дзе быў. Я бадзёра крочыў побач, пакуль не ўбачыў сярод крушняў будынак казачнай прыгажосці. Нейкі мужчына ў прапыленых ботах, шэрым шынялі, з рэчмяшком за плячыма глядзеў, узняўшы галаву, на калоны і раптам спыніў нас: «Прабачце, мадамачка, які гэта тэатр?» Матчын твар адразу набыў стрыманую пільнасць: «Гэта адміністрацыйны будынак». — «А-а-а...» — з паразуменнем прамовіў мужчына, а я тузануў маці за руку: «Што гэта, што?» — «Сакрэт».

І сёння на галоўным уваходзе ў таямнічы «адміністрацыйны будынак», то бок КДБ, адпаведнай шыльды няма...

## САПРАЎДНЫ ПАЛКОЎНІК

13 студзеня 1991 года, Масква. Знясілены клопатамі, валюся на гатэльны ложак, уключаю тэлевізар. Шалёна, бы дагістарычная пачвара, круціць гарматай танк, жаўнер крышыць натоўп аўтаматам... Вядучы праграмы «Время» зняпраўджвае чуткі пра нейкага палкоўніка Т., каторы нібыта заклікаў вайскоўцаў вярнуцца ў казармы: «Па афіцыйнай інфармацыі, такога афіцэра ў Вільнюскім гарнізоне няма...»

Травень. Гасцюю пад Мінскам у сяброў. «Валодзя», — працягнуў руку невысокі, з адкрытым тварам чалавек...

...Калі вакол тэлевежы пачалася страляніна, палкоўнік Т. пайшоў на Літоўскае радыё. Хутка пра заклік паведамляў увесь свет. Акрамя Масквы: «...няма»...

Быў і ёсць — расейскі хлопчык з рэпрэсаванай сям'і, былы савецкі палкоўнік, што «дэзерціраваў» з СССР разам з Літвой...

## СПАЛОХ

...Першы сапраўдны спалох у сваім дзіцячым жыцці я зведаў увосень 1952-га ў калідоры Опернага тэатра, па якім, нібыта па коле, мы, вучні музычнай школы, гойсалі ў перапынках паміж рэпетыцыямі хору. Рыхтавалася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. І якіх толькі артыстаў не сустракалі мы ў тым калідоры! У грыме і без...

Аднойчы я раптам уткнуўся ў чыйсьці шорсткі жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін. «Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?» — Сталін ласкава паклаў на маю стрыжаную галаву цёплую далонь. Супакоены, я зноў падняў вочы. У вусах — усё тая ж спагадлівая ўсмешка. Але погляд жоўты, рысіны... «Правільна, хлопчык. Баісь...»

Увайшоў у ролю...

## ТРЭМАР

Я бачыў яго тройчы.

Першы раз — калі ляцелі ў Зону. Яшчэ ў верталёце заўважыў ягоныя дрыжачыя рукі... Ля хаты, пад страху зарослай чартапалохам, ён доўга намагаўся расшпіліць шырынку — рукі трэсліся ў дробных дрыжыках...

Другі раз — назаўтра, калі ён прамаўляў нешта няўцямнае перад так званым партгасактывам. У нейкі момант ледзь не ўварваўся ў пакойчык за сцэнай, дзе я, стомлены нудотай, курыў. Папрасіў цыгарэту. Ніяк не мог уваткнуцца ў агеньчык запалкі...

Трэці раз — у тэлевізары. Прэс-канферэнцыя ГКЧП. Не ведае, куды схаваць рукі...

Калі сцвярджаюць, што магчыма было утрымаць СССР, заўжды згадваю дрыжачыя рукі Янаева. І хваробу трэмар.

Невылечную хваробу імперыі.

## «ТЫ ЗАБІТЫ! УСТАВАЙ!»

— Ты забіты! Падай! Падай!

Воўка хістаецца, чапляецца за рыштаванне на другім паверсе будоўлі, аддзірае дошку і разам з ёю нязграбна чмякаецца на кучу пяску... Я радасна падскокваю да яго. І раптам заўважаю, як з-пад скроні па шчацэ цячэ кроў. Вочы заплюшчаны, не рухаецца. Адкідваю драўлянае ружжо, штурхаю ў грудзі: «Уставай! Уставай!»

1947 год, нам па шэсць, мы гуляем у вайну. Колькі моцы, трасу яго за плячо. Ён расплюшчвае вочы: «Я ж забіты...»

Праз дваццаць гадоў Воўка памёр. Рак. Але і сёння бачу, як па ягоным твары цячэ кроў — кроў айчыннай гісторыі.

І штурхаю яго ў грудзі, трасу за плячо: «Уставай!»

## БАЯЗЛІВЕЦ

Аднойчы, дзесьці напрыканцы 70-х, калі гасцяваў у бацькоў на лецішчы, сустрэўся нам з матуляй чалавек з пазнавальнай па тых часах т. зв. наменклатурнай знешнасцю. Не тое каб было ў ёй нешта асабліва прыкметнае, акрамя галавы, пагаленай «пад Катоўскага», і піжамных нагавіцаў, што засталіся, мусіць, ад папулярнага сярод наменклатуры 50-х гадоў адзення падчас адпачынку на сочынскім ці крымскім узбярэжжы. Збочыўшы са сцежкі, ён павітаўся, неяк крывавата ўсміхнуўся і спытаў: «Сын?» Я прыпыніўся, але матуля, не адказаўшы на вітанне, падхапіла мяне пад руку:

— Пойдзем, пойдзем...

— Хто гэта? І чаму ты не адказала на вітанне? — здзівіўся я.

— Так, сусед...

Аказалася, што ён гаспадар лецішча ад бацькоўскага праз адно. Але чамусьці ніколі яго не сустракаў.

І вось сядзім мы з матуляй на лаўцы каля хаты, і, слова за словам, выцягваю з яе тлумачэнне, пашто яна не павіталася з суседам, ды яшчэ ў адказ. Да вайны — нейкі дробны чыноўнік ва ўрадзе, напісаў на матулю данос за крытычную зацемку пра «Дынама», любімую каманду Цанавы, у газеце, дзе яна працавала. Вядома, што пагражала, але выратаваў Пінск, куды ў верасні 1939-га матуля, кінуўшы дачку-школьніцу на сяброў, пайшла з войскам ствараць «Палескую праўду», і гісторыя з «Дынама» недзе пахавалася.

«Сусед» ізноў з'явіўся ў яе жыцці ў чэрвені 1944-га, у Навабеліцы пад Гомелем, і зноў нейкім дробным чыноўнікам ва ўрадзе. Немцы бамбавалі Навабеліцу, дзе ўрад чакаў вызвалення Мінска, нехта параіў ратавацца ў полі, ды яшчэ стоячы, маўляў, не так рызыкоўна.

— Бачыў бы ты, як ён енчыў, наўпрост плакаў, кідаўся на зямлю, хапаўся за людзей, за вопратку, хаця бомбы падалі даволі далёка... Ведаеш, данос я даравала б, але баязлівасць... Ваяваў? Да ты што, адседзеўся ў тыле... Не, не магу.

...Раптам пачуўся нейкі гук, нібыта нехта раскалоў палена. Размова спынілася. А праз колькі хвілінаў з невыносным выццём сірэны да лецішча суседа прымчалася «хуткая дапамога»...

Увечары стала вядома, што адбылося. Сусед, адпачываючы пасля абеду, гушкаўся ў гамаку і зваліўся з яго галавой аб камень. Як гавораць у такіх выпадках, смерць надышла адразу.

Апошняе, што кінулася ў вочы, — галава, паголеная «пад Катоўскага», з плямамі крыві, і піжамныя нагавіцы з-пад коўдры...

## У ЦЫРКУ ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Сланоў вядуць з Таварнай станцыі па Маскоўскай. Яны плывуць паміж крушняў, нібы аэрастаты. Палахліва спыняюцца перад Заходнім мостам, уздымаюць хобаты, трывожна трубяць...

Сланоў вядуць у цырк-шапіто, у парк Горкага, дзе ўжо нацягнуты цёмна-шэры купал.

— ...Дзядзечка, правядзіце...

І вось ужо сядзіш побач з «татам» і забываешся на ўсё.

...Аркестр грае вальсы, сланы танчаць, круцяць хобатамі і раскланьваюцца. Паміж імі лётае чалавечак, ляскае па хобатах, частуе цукрам... Раптам цішыня, нарастае барабанны дробат... Чалавечак кладзецца пад самага вялікага слана, каб усе думалі, што слон вось-вось яго расплюшчыць. Слон павольна апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй...

Але чамусьці шкада слана, а не таго чалавечка...

## УСЁ ДЛЯ НАРОДА

1953 год. Над Нараччу толькі чайкі. Ні качак, ні лебедзяў — ім ежы няма. Бацька кліча мяне разам ссоўваць човен у ваду. Уваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць бурунчыкамі пяску. Яшчэ, яшчэ... «Крынічкі», — тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду драўляным каўшом, што ляжыць на дне чоўна, і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўш мне...

2015 год. Над Нараччу шэрая вільгаць. Да дрэва, якраз на тым месцы, дзе мы з бацькам ссоўвалі човен, прышпіле-

на аб'ява аб забароне купацца з-за нейкай нябачнай брыдоты, на якую хвараюць качкі, лебедзі... Вунь колькі іх пасецца ўздоўж берага!

...На адным з журналісцкіх семінараў галоўны рэдактар якойсьці з абласных «праўд» праліў слязу па Байкале — маўляў, гіне такі цуд. Я нагадаў пра Нарач. «А што Нарач?! — ускінуўся калега. — Там такі курорт пабудавалі! Усё для народа!»...

## УЧЫНАК

1951 год. Набліжаўся прыём у піянеры, хацелася здзейсніць нейкі «цімураўскі», з вядомай кніжкі Аркадзя Гайдара, учынак.

І вось пашанцавала: па дарозе ў школу ўбачыў сляпога. Імжэў лістападаўскі дождж, сляпы напружана рухаўся па вузкім ходніку Нямігі, пастукваючы палачкай па баках. Я дагнаў яго, учапіўся ў вільготны рукаў чорнага паліто...

Ледзь дачакаўся пачатку ўрока і, ускочыўшы з парты, закрычаў: «Фрума Ізральеўна! Фрума Ізральеўна! Я дапамог сляпому!» — «Малайчына, — ухваліла Фрума Ізральеўна. І паморшчылася: — Толькі навошта так голасна?!»

...Мая першая настаўніца па-геройску змагалася з нацыстамі, у яе было шмат баявых медалёў і ордэн. Але я даведаўся пра тое толькі праз шэсцьдзясят гадоў, калі выпадкова пазнаёміўся і пасябраваў з яе сынам...

## ЦЁМНЫЯ ВОКНЫ

Я ўбачыў іх зусім выпадкова, калі на праспекце Незалежнасці ў чаканні зялёнага святла на святлафоры немаведама чаму ўзняў вочы ўгору. Зіхацелі ліхтары, бруілася падсвечанае паветра... Толькі не свяцілася цёплым хатнім агеньчыкам аніводнае акно ў дамах па абодва бакі праспекта, што праўда, чамусьці на двух ці трох апошніх паверхах...

З таго даволі даўняга часу кожны раз, калі позна ўвечары рухаюся ўздоўж праспекта, углядаюся ў тыя вокны.

Але святла там няма.

Чаму так? Хто ведае. Мо жыхары сышлі ў нябыт ці з’ехалі кудысьці далёка...

...Няма пераліку тым, хто ў розныя часы па розных разбуральных абставінах знік з твару менскай зямлі, пакінуўшы цёмныя вокны...

## ЧАЛАВЕК З ЖАЛЕЗАМ

Упершыню ўбачыў яго ў сакавіку — па завулку, вакол каторага лепяцца гаражы, ішла... чыгунная ванна. Зробіць два крокі, прыпыніцца і зноў валюхаецца па калдобінах...

У снежні, калі на горад абрынулася пакрыўджаная працяглай адлігай зіма, заўважыў, як ён адважна піхае праз вуліцу, упоперак руху, старую лядоўню — рэшту чыёйсьці хатняй мадэрнізацыі... Раптам паваліўся, не ўтрымаўшыся на слізгаце. Я падбег, працягнуў руку, ён — сваю: «Бедны Юрык...»

Увечары з тэлевізара пачулася, як галоўны начальнік распякае ўрад, пагражае кратамі за жалеза, што ржавее па заводскіх дварах...

Не дарэмна, аднак, працуюць на Беларусі пункты прыёму металалому. Чакаюць, калі «бедныя Юрыкі» пацягнуць нарэшце жалезныя краты.

## ШКАРПЭТКІ ДЛЯ ГАЛОЎНАГА

Пачатак 90-х. Галоўны рэдактар буйной маскоўскай газеты заўважае на шкарпэтках чальцоў рэдкалегіі дзіркі. Згадвае, што найлепшыя ў былым СССР шкарпэткі рабіў віцебскі «КІМ»...

Аднак паспрабуй прывезці іх у Маскву, калі забараняецца вывозіць з Беларусі амаль усё. Мяжы, вядома, з Расіяй няма. Але куды схавацца ад патрулёў, што прагульваюцца ўздоўж цягнікоў і пільна сочаць за кожным?..

...Ноч, бясконцы снег, слізкая, ад самага Віцебска, шаша; палюбоўніца адказнага сакратара скурчылася ззаду карпунктаўскай «Волгі» пад вялізнымі скрынямі са шкарпэткамі; сакратар хвалюецца, ці абмінем патруль...

Дзе тая найвялікшая ў свеце газета? Дзе тыя шкарпэткі? Адно што даношвае мо былы галоўны, бо прыдбаў цэлую скрыню.

Назапашваў на гады.

## БАЦЬКАЎ ЮБІЛЕЙ

Хтосьці, гледзячы сёння ў акно ці коўзаючыся паміж сумётамі, лічыць, што такая заХАЎЕРвіруха — з'ява адносна новая на Беларусі. А я згадваю сакавік 1964 года, дакладней надвячорак 21 сакавіка. 7 кіламетраў да Опсы са сваіх Далёкіх, дзе настаўнічаў, дабіраўся пешшу мо гадзіны са тры, ужо амаль па цаліне, у якую ператварыўся прасёлачны шлях. Праз Опсу ішоў аўтобус з Браслава на Мінск, дзе мяне чакалі бацькі на татаў 50-гадовы юбілей, што меўся адбыцца якраз 21-га. Па маіх падліках і раскладзе аўтобусаў павінен быў паспець. Надзіва, аўтобус з'явіўся ў Опсе своечасова.

Пакуль ехалі на Відзы, і далей, на Камаі, у невялікі ПАЗік набілася жанчын, у асноўным сталага ўзросту, што вярталіся з вёсак, дзе яшчэ працавалі касцёлы, — было каталіцкае свята. Між тым, завіруха ўзмацнілася, снег заляпляў шкло, фары... І ў рэшце рэшт канчаткова пахаваў шашу... Спыніліся. Кіроўца, таксама немалады, выйшаў, за ім я. Іншых мужыкоў у аўтобусе не было. Паглядзеў, пачухаў патыліцу... Адно выйсце — развярнуцца і па ўласнай каляіне вяртацца ў Камаі, пакуль яе яшчэ не засыпала. Але як? Зімовых колаў тады не было... Юзаў, юзаў... Беспаспяхова. Аўтобус адразу зносіла ў кювет... «Жанчынкі, дапамажыце!»... І «жанчынкі», мо з які дзясятак, паўсталі абапал, узяліся і паціху, патроху развярнулі і паставілі аўтобус на ўласную каляіну... Вось такое МНС... Праз нейкі час «жанчынкі» павыходзілі ў Камаях. І мы засталіся ў аўтобусе ўдвух...

Ужо і не памятаю, якімі шляхамі даехалі да Мінска. Памятаю толькі рыжыя валасы на руках кіроўцы і як усю ноч распавядаў яму розныя байкі. «Давай, давай, не маўчы...»

Прыехалі а пятай гадзіне раніцы. Госці, запрошаныя на вечарыну, ужо разышліся. Але бацька не спаў. Чакаў...

*Штогод 8 снежня надыходзяць чарговыя ўгодкі Белавежскіх дамоваў. То бок канчатковага, як лічыцца, распаду СССР. Але пытанне — ці канчатковага? — застаецца дасюль. Сёння асаблівую вастрыню надае яму Украіна.*

*Не трэба вялікага напружвання інтэлекту, каб зразумець, што ўкраінскія падзеі адбываюцца ў рэчышчы распаду савецкай імперыі. І таму выходзяць далёка не толькі за геаграфічныя межы Украіны, але і за межы таго часу, калі нібыта канчатковa сканаў СССР.*

*На жаль, асэнсаванне распаду СССР, нават грунтоўнае, так і не пазбавілася прымітыўных эмоцый — ці то ўхвалення, ці то шкадавання, ці то наўпрост агрэсіўнага абвінавачвання трох «разбуральнікаў». Так ці інакш, у масавай свядомасці і, адпаведна, у афіцыйных СМІ, а мо і наадварот, прычыны і наступствы «найвялікшай», па Пуціну, «геапалітычнай катастрофы ХХ стагоддзя» зводзяцца да высновы, што «не ўсё было дрэнна ў Савецкім Саюзе». І да бясконцага суму.*

*Моладзь увогуле мала што ведае пра тое жыццё.*

*З якіх палітычных прыярытэтаў узнік пуцінскі тэзіс пра катастрофу, добра вядома — імперская палітыка, як ні фарбуй яе, патрабуе абгрунтавання.*

*Насамрэч катастрафічным было само існаванне СССР.*

*Доказы гэтай катастрафічнасці незлічоныя. Да ўсіх вядомых накшталт ГУЛАГу, Галадамору, найкрывавейшай у гісторыі чалавецтва вайны, да якой СССР прыклаў і свае намаганні, крывадушнай ідэалогіі і пабудаванай на касцях эканомікі з яе разбураючым мараль дэфіцытам усяго дадам толькі тое, што катастрафічнасць малазаўважна месцілася па завуголлях псіхікі ці не кожнага чалавека.*

*Як землятрусу ці іншым прыродным катастрофам папярэднічаюць незвычайныя, малазразумелыя паводзіны розных жывых істот, так і ў чалавечым асяроддзі, у чалавечых паводзінах*

*прадчуваецца насяваючая катастрофа. Ніхто не ведае, калі яна грымне. Але грымне непазбежна.*

*Яно так: глабальныя тэктанічныя зрухі паступова выспяваюць на так званым мікраўзроўні. Найперш у адносінах паміж людзьмі. То бок маюць выразны маральны выток.*

*З гэтага гледзішча прапаную чытачам, асабліва маладым, некалькі гісторый, што адбываліся пад час існавання СССР. І заадно самім вырашыць, ці сапраўды ён канчаткова сканаў. На мікраўзроўні...*

# ЗАБОЙСТВА Ў ГОРАДЗЕ СВЕТЛЫМ

...І вось яны пайшлі ад вакзала напрасткі ў лес.

Дарога была знаёмая, і лес, што патанаў у чэрвеньскім змроку, не пужаў: за соснамі мігцелі агні ў дамах новага мікраараёна, недзе грала музыка, а непадалёк усхліпвала рака, якая ўгадвалася па космах туману і асвяжаючай прахалодзе начной расы. Агні ў дамах, праўда, хутка гаслі — набліжалася поўнач і горад стомлена адыходзіў да сну.

Ішлі ўтраіх. Наперадзе Аляксандр Качароўскі*, за ім ягоная бабуля, таксама Аляксандра, толькі Сцяпанаўна, услед, па хваістай абочыне, каб не запэцкаць у вільготным пяску новенькія красоўкі, знаёмы Аляксандра Алег Пацапчук. Адну бабуліну кашолку нес Аляксандр, другую яна сама. Хаця ён і намагаўся дапамагчы, не аддала. Ці ж мала ў старасці сваіх нетлумачальных дзівацтваў?

— ...Ой, унучак, мяне нехта стукнуў!

Аляксандр павярнуўся, убачыў бабулю, якая ледзь узнімалася з зямлі, постаць Алега, што застыла ці то ў разгубленасці, ці то ў чаканні... І раптам высока падскочыў, выкінуўшы ўперад нагу...

Такая ў іх была дамова — першы б’е Алег...

Потым на допытах кожны з іх намагаўся як мага дакладней намаляваць карціну злачынства: хто, колькі і чым нанёс удараў, як закрычала бабуля «немым голасам», як цягнулі яе, ужо нежывую, спачатку па дарозе, потым праз лес, змінаючы кусты і здзіраючы малады мох, да ракі, пакідаючы сляды, адпачываючы ад нечаканага цяжару бабулінага цела, пакуль нарэшце не натыкнуліся на адчынены залеўны калодзеж на беразе...

Паспешлівага спалоху, аднак, у іх дзеяннях не было. Перш чым кінуць ахвяру ў калодзеж, спрабавалі абшукаць яе, гэта аказалася цяжка і стомна, яны нічога не знайшлі і засяродзіліся на змесціве кашолак. Там былі кофтачка, шарсцяная хустка, мяшочак з пернікамі, пара бутэлек з-пад малака, старая скураная сумачка, а ў ёй кавалачкі паперак з нумарамі тэлефонаў,

---

* Прозвішчы змененыя.

адрасамі і перавязаны шнурком скрутак. Развязалі, знайшлі пашпарт, нейкія даведкі з пячаткамі, медаль. «На тым медалі, — паказваў на дапросе Алег, — была выяўлена жанчына з маленькім дзіцём на руках. І яшчэ зорка».

Пашпарт яны спалілі — жменька попелу, добра што ноч і раніца былі без ветру, засталася на беразе. А медаль Алег кінуў у раку.

Гэта быў медаль «Мацярынская слава» — шасцёра дзяцей нарадзіла і выгадавала Аляксандра Сцяпанаўна. Пяцёра сыноў, дачка, у кожнага свае дзеці, то бок унукі, і сярод іх Аляксандр, Саша, Сашачка, яе радасць, яе крывінка...

Яе кроў.

Плямы крыві на джынсах, на кашулі знайшла маці Аляксандра Ганна. Пакуль сын адсыпаўся, яна старанна адмывала іх, ліхаманкава прыдумляючы выратавальнае для яго алібі. Нешта падказвала ёй, што Аляксандр, які з'явіўся ў хаце пад самую раніцу, замешаны ў нейкім злачынстве, страшным на гэты раз. А калі назаўтра ў горадзе стала вядома, каго знайшлі ў калодзежы на беразе, яна ўжо не сумнявалася, чыю кроў намагалася беспаспяхова адмыць. Пагроза сына забіць бабулю здавалася ёй пустой балбатнёй і глупствам, Ганна так і гаварыла яму: «Не рабі гэтае глупства». І вось зараз яна набыла відавочны, жудасны ў сваіх рэальных падрабязнасцях, абрыс.

Прайшоў дзень, ноч, яшчэ дзень. Аляксандр некуды сыходзіў, вяртаўся, а ўвечары другога дня зачыніўся ў спальні і моўчкі ўперыўся ў столь. З Бабруйска, атрымаўшы тэлеграму «памерла мама», прыехалі ўжо Васіль і Аляксандр, з Брэста — Георгій. Сабраліся спачатку ў Анатоля, мужа Ганны, потым пайшлі да Надзеі, дзе ўжо стаяла труна, пасля на вакзал сустракаць старэйшага брата Міхаіла — яго аднаго занесла ў далячынь, ажно ў горад Уральск. Міхаіл прыехаў уночы, а пасярод яе ў кватэры следчага пракуратуры Русіновіча прагучэў званок.

Два дні Русіновіч і міліцыя працавалі без адпачынку. Ужо была зроблена ўся папярэдняя работа, ужо былі дапытаны першыя падазроныя, але ніхто з іх Аляксандру Сцяпанаўну не ведаў, і сцежкі іх у тую ноч нідзе не перасякаліся. Дапрасіў

Русіновіч і Надзею. Так, адносіны з маці былі дрэнныя, яна сышла з дому, бадзялася па горадзе, часцяком бачылі яе ў лесе, збірала бутэлькі, начавала дзе прыйдзецца — на вакзале, ля крамы, у знаёмых бабулек... Русіновіч знайшоў і гэтых бабулек. Яны плакалі ўголас, шкадавалі забітую, згадвалі, як яна скардзілася на дзяцей, на дачку, што выгнала яе і пагражала падпаіць кагосьці, каб яе забілі. Вось і хавалася, усё больш па лясных сцежках хадзіла, прыгаворвала «прыйшоў май — і пад кусцікам рай»... Але веры ва ўладкаванне свайго жыцця не губляла, маўляў, да халадоў даб'ецца ў гарсавета кватэры — і разгортвала скруткі, паказвала свой медаль, медалі мужа за Кёнігсберг і Берлін, даведку ваенкамата пра тое, што муж яе ваяваў і памёр ад ранаў у 1954 годзе, бедавала, што знікла ягонае пасведчанне інваліда першай групы, і ўпэўнівала, што яго скрала дачка, каб атрымаць кватэру...

Напрыканцы другога дня Русіновіч зайшоў у тупік. Не тое каб ён не ведаў, што рабіць далей, але версіі, што маглі б так ці гэтак тлумачыць падобныя злачынствы, патаналі ў шмат якіх пабочных, на першы погляд, падрабязнасцях. Крадзеж? Але яго не было, у вопратцы забітай знайшлі прышпіленыя ў розных месцах кашалькі з грашыма. Нечае п'янае вар'яцтва? Наўрад ці, слядоў жывёльнага гвалту не выяўлена, а час забойства быў дастаткова познім, каб старая магла збіраць бутэлькі ў лесе і натыкнуцца на п'яную кампанію... Збірала бутэлькі? Тут нешта ёсць. З таго часу, як узнялі іх цану, збіранне пустых бутэлек у горадзе, асабліва ў лесе, у зоне адпачынку, набыло пагражаючыя памеры. Займаліся гэтым промыслам найперш п'янюжкі, але было і шмат пажылых людзей. Асабліва завіхаліся бабулькі, абыходзячы прымятыя летнімі вечарамі паляны, кусты... Што праўда, закона, каб забараняў збіраць пустыя бутэлькі, няма, з практычнага пункту гледжання ёсць у гэтым занятку нават нешта карыснае — і лес чысцейшым становіцца, і якое-ніякое дабро не прападае. Але ж дабро дармавое, усялякі спосаб пажывіцца дармаўшчынай грамадская мараль лічыць ганебным, вакол дармаўшчыны атмасфера, як правіла, напаленая... Вось і з бутэлькамі да чаго дайшло — лес на дзялянкі падзялілі, крый божа якому зборшчыку ў

чужыя ўладанні залезці! Русіновіч ужо сутыкаўся з бойкамі, што ўзнікалі на «бутэлькавай» глебе, і версія пра помсту з боку «канкурэнтаў» падавалася яму больш-менш імавернай. Бянтэжылі, праўда, сляды красовак — абутак маладзёжны, спартовы. Але маглі ж і згадзіць...

Ён зразумеў, што калі не засне, працаваць заўтра не здолее. І вось на табе, сярод ночы — званок.

Званілі з міліцыі, прасілі тэрмінова прыехаць. Ля міліцыі стаяла група людзей — некалькі мужчын, жанчына. Ён прайшоў міма.

У дзяжурцы ўбачыў высокага, з круглым тварам, хлопца. Дзяжурны неўразумела развёў рукамі: «Вось, унук з'явіўся, гаворыць, што забіў»...

Русіновіч стомлена апусціўся на крэсла, падсунуў Аляксандру паперу, ручку. Пакуль той пісаў, глядзеў на яго, яшчэ дрэнна разумеючы, што адбываецца. Успомніў раптам вартаўніцу прывакзальнага магазіна, у якой час ад часу начавала Аляксандра Сцяпанаўна, і яе словы: «Гэта маглі зрабіць толькі яе дзеці...»

Ён ужо зразумеў, хто стаіць ля міліцыі, але аніякага жадання зараз жа размаўляць з імі не было. Ён не верыў, палохаўся верыць. Здавалася, павінна было прыйсці пачуццё прафесійнай палёгкі, аднак не прыходзіла. Не таму, што злачынец з'явіўся сам і, па ўсяму, піша праўду. Менш за ўсё ён думаў пра свой прэстыж, менш за ўсё папракаў сябе за нездагадлівасць, бо ланцужок фактаў няўмольна вёў да сям'і. Але ён адводзіў гэты ланцужок убок, прапрацоўваючы *нармальныя* версіі. Пазней, у размове, ён прызнаваўся, што не мог, не хацеў, нават не жадаў «так жорстка мысліць». А зараз, гледзячы на забойцу, успомніў сваё дзяцінства, юнацтва, удовіныя слёзы маці... Спытаў у сябе: а ці ж лёгкім было дзяцінства тых, хто стаіць зараз на вуліцы? Саракавыя, пяцідзясятыя, безбацькоўшчына, голад... Ён падумаў, што іхняя маці амаль усё жыццё пражыла ў вёсцы, і гэта сталася для яго раптам шматвызначальным — на вёску тых гадоў ён яшчэ не забыўся. Вось і Надзея, падумаў, нарадзілася ў 46-м. Выходзіць, праз год, як бацька вярнуўся з вайны...

Русіновіч злавіў сябе на тым, што зусім не думае пра матывы забойства, быццам гэта было ўжо неістотна. Перад вачыма зноў і зноў узнікала старая, і ўсё, што ён паспеў зазнаць пра яе, вяло да пытання не пра матывы забойства — пра матывы яе дзіўнаватага ладу жыцця. Як жа так, думаў ён, шасцёра дзяцей і... бутэлькі, вакзальная лава, выпадковыя прыстанкі... І пры чым тут унук?

Увага яго зноў перакінулася на Качароўскага. Той пісаў засяроджана, не спыняючыся, мусіць, ужо пераадолеў хваляванне, і на ягоным твары прамільгнуў адбітак нейкай усвядомленай невінаватасці. Дапісаў, адкінуўся ў крэсле. Русіновіч працягваў глядзець на яго, шукаючы ў адказ хаця б цень раскаяння, ці страху, ці пакорлівай гатоўнасці да пакарання, аднак нічога, акрамя безуважнасці, не ўбачыў...

«Я, Качароўскі Аляксандр Анатольевіч, 1964 года нараджэння, слесар...»

...З Пацапчуком яны дамовіліся тыдні за два да трагічнай начы. Сяброўства, нават блізкага знаёмства паміж імі не было — так, мільгаценне твараў на дыскатэках, у вулічных кампаніях, пляжным гультайстве. Дзённымі сваімі заняткамі і ўвогуле не абмяжоўваліся: Качароўскі працаваў на заводзе, вакол каторага ўзнік Светлагорск, Пацапчук, на два гады малодшы, вучыўся ў ПТВ. Такім чынам, у іх сустрэчы і змове пераважваў элемент выпадковасці. Але было і нешта злавесна заканамернае ў тым, што выбар Качароўскага для выканання сваёй задумы аказаўся беспамылковым. Што?

Трэба, вядома, ведаць самога Качароўскага і абставіны ягонага жыцця, каб адказаць на гэта пытанне. Да пэўнага часу постаць яго паўстае ў нейкім плоскасным выяўленні. Школа, завод, вячэрні тэхнікум... Ніколі нічым не хварэў, займаўся спортам, дзядзька Георгій, распавядаючы пра пляменніка і свае адносіны з ім, толькі і здолеў выказацца такім чынам, што «заўсёды захапляўся тым, які ён высокі, плячысты, і больш нічога».

Паступова, аднак, вобраз Качароўскага набывае глыбіню і аб'ём. Высвятляецца, што злачынства сваё Качароўскі здзейсніў, як толькі адбыў пакаранне за крадзеж у цягніку.

У суседнім Жлобіне на яго заведзена крымінальная справа за ўдзел у збіцці чалавека. Следства, аднак, тамтэйшая міліцыя вядзе марудна, хаця размова ідзе пра злоснае хуліганства. Усплыла раптам і гісторыя з угонам машыны. Яе, бацькоўскую, па заяве Ганны міліцыя шукала некалькі дзён, вытрымліваючы бескапрамісную патрабавальнасць пацярпеўшай і зневажальныя пагрозы знайсці на яе, міліцыю, управу... Разбітыя «Жыгулі», аднак, хутка былі знойдзены, высветлілася, што гэта справа рук сына, гісторыя заглухла, і сын быў дараваны...

Потым з'яўляюцца характарыстыкі. Школа сцвярджае, што Качароўскі «...вызначаўся ўпартым і грубым характарам. Блізкіх сяброў не меў, бо часцяком ашукваў аднакласнікаў. Запальчывы, недысцыплінаваны. Некалькі разоў быў выкрыты ў дробных крадзяжах. Захапляўся роварным спортам, актыўна ўдзельнічаў у спартовых спаборніцтвах...» Тэхнікум характарызуе не столькі Качароўскага, колькі ягоную маці Ганну, якая «выпрошвала ў настаўнікаў адзнакі, нават пагражала ім...» Заводскія «разумнікі» наогул прапануюць паразважаць над сумяшчальнасцю несумяшчальнага: «...да выканання сваіх працоўных абавязкаў ставіўся добра, хаця меліся выпадкі парушэнняў працоўнай дысцыпліны»...

Нагод спыніць Качароўскага і людзей, якія здолелі б гэта зрабіць, было, як бачна, звышдастаткова. Але вось што цікава: ён ніколі не быў у спісе так званых «цяжкіх». Нехта ўмела дапамагаў яму пазбягаць ускладненняў, ствараў у вачах людзей навокал і яго самога ўражанне знешне шчаслівай плыні жыцця. Зрэшты, вядома хто — маці. Ва ўсіх сутыкненнях Качароўскага з грамадствам, быў гэта школьны, студэнцкі альбо працоўны калектыў, паміж імі паўставала постаць маці, змякчаючы канфлікты, пазбаўляючы іх у свядомасці сына сапраўднай вастрыні і небяспекі, нараджаючы ў ім адчуванне не толькі беспакаранасці, але і нейкай правамернасці, натуральнасці антыграмадскіх паводзінаў.

Але гэта заступніцтва было прадыктавана не толькі сляпой любоўю да сына. У сям'і панаваў культ рэчаў, культ матэрыяльнага дабрабыту, і ён, па ўпэўненасці Качароўскай, даваў сыну непараўнальную перавагу над тымі, хто кіраваўся ў

жыцці іншымі каштоўнасцямі. На фоне няўдалага сямейнага жыцця (з Анатолем, які часта і надоўга з'язджаў на Поўнач, Ганна разышлася, працягваючы, зрэшты, сумеснае пражыванне, і адзінай сувяззю, на якой яно трымалася, былі вялікія заробкі былога мужа) эгаізм, што быў унушаны Качароўскаму, ператварыўся ў ягоным разуменні ў адзіны спосаб самасцвярджэння. Эгаізм, што быў даведзены да паталогіі.

Паталогіі, зрэшты, псіхічнай у тым ліку, медыцынская экспертыза ў Качароўскім не знайшла. Але выснову зрабіла паказальную: «Запас ведаў ніжэйшы за атрыманую адукацыю, аднак добра разбіраецца ў практычных пытаннях».

Я не ведаю, якія пытанні задавалі Качароўскаму эксперты, але ягонае злачынства было прадыктавана меркаваннем менавіта практычным. І здзейснена, ад задумы да зыходу, цвяроза, разважліва, з ашаламлянай жорсткасцю не толькі дзеянняў, але і матываў.

Першай пра гэтыя матывы зазнала маці, другім Пацапчук, трэцім — Русіновіч. Маці, нагадаю, «забараніла забіваць бабулю» — такое яе паказанне на допросе. Пацапчук... У таго былі свае матывы, пра іх трохі пазней. Русіновіч жа, прачытаўшы «забіць бабулю мяне вымусіла вялікая ганьба», спатыкнуўся, перачытаў ізноў і паставіў побач вялікі пытальнік. Ён зразумеў раптам, што *раскрыць* злачынства будзе зашмат цяжэй, чым здавалася, калі ён, чытаючы прызнанні Качароўскага, адзначаў супадзенне ўжо сабраных доказаў, месца і часу забойства.

Ганьба?

Выбар Пацапчука ў кампаньёны быў, паўтаруся, прадвызначаны цвярозым разлікам. Качароўскі ведаў, што той займаецца каратэ, і меркаваў, што аднаго ўдару будзе дастаткова. Заставалася толькі дамовіцца. «Дваццацьпятную дасі?» — запытаўся Пацапчук.

«Мне патрэбны былі грошы, каб набыць пратэін, бо ён садзейнічае росту мышцаў, а я займаюся культурызмам...»

Ён усё ж паспеў да арышту прыдбаць бутлю чорнай вадкасці, што ўжываецца, паміж іншым, для адкорму скаціны...

Трэба казаць пра пажыўнае асяроддзе, у якім гадаваўся Пацапчук. Пра ягоную маці, прыбіральшчыцу, што не шка-

давала для адзінага сына нічога, абы ён быў сыты, абуты, апрануты па модзе — «чым мы горшыя за іншых?» — і бесклапотны. Так і не зразумеўшай, што сталася з ім. Трэба казаць і пра Богуша, майстра працоўнага навучання СПТВ у Жлобіне, куды Пацапчук патрапіў пасля школы. Навучанне давалася цяжка, ён папрасіўся ў групу да Богуша, бо той — былы спартовец. Богуш напісаў яму характарыстыку, з палёгкай уздыхнуў, калі Пацапчук вырашыў перавесціся ў СПТВ у родны Светлагорск. Вось яна: «Палітычна граматны, фізічна здаровы, рэгулярна сочыць за сваім знешнім выглядам. Мае пропускі заняткаў па ўважлівых прычынах, сярод таварышаў карыстаецца аўтарытэтам... Акрамя таго, вывучыў факультатыўны курс па этыцы...»

Іншая характарыстыка даслана з горада Ж. у адказ на запыт Русіновіча: «...меў цягу да маральна заганных учынкаў: пракалоў вуха і ўставіў завушніцу, адпрацоўваў прыёмы каратэ ў лесе да крыві на руках, падгольваў скроні падобна на панкаў...»

Яны ездзілі на вакзал некалькі дзён. То не заспявалі бабулю, то людзей у зале чакання было зашмат. Нарэшце заспелі, Качароўскі ўгаварыў яе пайсці начаваць дадому, узяў кашолку, і яны рушылі ад вакзала наўпраснкі ў лес...

Ганьба...

...Вёска П. месціцца ў зоне прыцягнення двух гарадоў — Бабруйска і Светлагорска. Туды ў асноўным і цягнуліся, падрастаючы, дзеці Аляксандры Сцяпанаўны Качароўскай. Скончыўшы школу, яны пакідалі родныя мясціны ў пошуках надзейнай справы, прыстойных заробкаў і добра наладжанага побыту. Слесар, токар, электрык, механік, круцільшчыца — кожнаму знайшоўся ў іх гарадскім жыцці занятак па душы. Пастурова абзаводзіліся сем'ямі, час ад часу наведвалі матулю. Тая ўвіхалася па гаспадарцы, прывячала гасцей, радавалася ўнукам. Некаторыя заставаліся ў вёсцы надоўга, набіраліся моцы і здароўя на свежым паветры і сырадоі. Сямейнае дрэва разрасталася, моцнымі здаваліся карані і ствол, а маладыя парасткі абяцалі ў будучыні цяністую крону, тую самую ласку, якая і ёсць суцяшэнне старасці, яе спакой і ціхая радасць.

У Бабруйску і Светлагорску, пра Уральск і казаць няма чаго, матуля бывала зрэдку — дзеці калі і запрашалі яе, то збольшага па неабходнасці, зноўку ж, за ўнукамі прыглядзець. Але і сама не вельмі любіла гасцяваць у дзяцей — і гаспадарку пакідаць няма на каго, і не спадабалася ёй гарадское жыццё: заўважала, што не ўсё добра ў сыноўніх і дачушкінай сем'ях. Анатоль п'е і гойсае па белым свеце, у Георгія ад жонкі шалапутнай жыццё неспакойнае, і Надзея вось з мужам разышлася... Здавалася ёй, што дзеці мала пра сваё будучае клапоцяцца, хмурнела і раздражнялася ад дробязей, падбірала ўсялякую кінутую дзецьмі скарынку хлеба, анучку, бурчала, калі чайнік на газе перастоіць і святло паліцца дарэмна. Не разумела, як гэта можна так не па-гаспадарску дабро марнатравіць, і паціху, капейчына да капейчыны, рубель да рубля, назапашвала на іх, дзяцей, чорны дзень...

Потым, на дапросе, Георгій у асуджэнне скажа, што маці была «эканомная». Надзея ўдакладніць: «прагная...»

З вёскі да сябе ў Светлагорск Надзея забрала маці ўвосень 1980-га. І раней матуля жыла ў яе даўжэй, чым у братоў: глядзела ўнука, пакуль дачка хадзіла на працу, у вячэрнюю школу, да сяброў і сяброўак. Надзея цярпліва зносіла яе «дзіўнаватасці», бурчанне і незадаволенасці. Потым маці з'ехала. І вось па настойлівым патрабаванні дачкі вярнулася. Назусім: на заводзе, дзе працавала Надзея, падышла чарга на кватэру, з маласямейкі ў аднапакаёўку не хацелася, і яна прапісала ў сябе маці...

У новай кватэры і жыццё пайшло па-новаму.

Ужо не Надзея да сяброў і сяброўак, а яны зачасцілі да яе. Старая перашкаджала, раздражняла, успыхвалі сваркі — што праўда, характар старой ад рэзкіх пераменаў у жыцці стаўся нецярпімым. Надзея, зрэшты, і не збіралася цярпець — слоў не выбірала, пагроз не шкадавала...

Прасвет з'явіўся, калі Георгій забраў маці да сябе ў Бабруйск: да таго часу ён развёўся з жонкай, дзеці заставаліся без нагляду... Забраў, здавалася, назаўсёды, нават выпісаў маці з новай кватэры ў Светлагорску. Халасцяком, аднак, пабыў не больш за год — наперадзе замаячыла іншае жыццё, ён

сабраў дзяцей, новую жонку і, пасядзеўшы на дарожку, з'ехаў у Брэст. А маці ўсё з тымі ж кашолкамі — свая ноша не цяжкая — вярнуў да Надзеі...

Следста і суд удакладнялі, ці выганяла яе Надзея з хаты, ці тая сышла сама. Не, не выганяла, сама сышла.

Калі-нікалі, наязджаючы ў Светлагорск, яе прыводзіў да сябе Анатоль. Ганна скандаліла, а калі пасля чарговага начлега зніклі 600 рублёў і кавалак каўбасы, шлях у дом сына быў забаронены.

Анатоль пазваніў Георгію — прытулі маці. Не магу, брат, скажы ёй, каб зняла кватэру, а мы будзем аплочваць. Тое самае — Васіль. Аляксандр наогул параіў: «У гарсавеце ёсць тапчан, хай ідзе ў гарсавет і спіць на тапчане»...

І яна пайшла ў гарсавет.

Мікалай Рыгоравіч Набочанка, старшыня, адразу зразумеў, у чым справа. «Не, бабуля, мы не можам даць вам кватэру, гэта будзе не па законе. А вось з дачкой разбяромся», — і пазваніў на завод.

Разбіраўся прафкам. Была створана адпаведная камісія, яна абследавала жыллёвыя ўмовы Надзеі, апытала суседзяў і саставіла акт: кватэра вялікая, добраўпарадкаваная, маці ўпісана ў ордар, з дачкой, аднак, не ўжылася... Пазней у прафкамаўскай кнізе прыёму наведвальнікаў з'явіўся запіс: «Качароўская Аляксандра Сцяпанаўна. Пяць гадоў гадавала ўнука, хлопчыку 9 гадоў. Пераехала да дачкі. Дачка пагражае — падпаю каго-небудзь, цябе задавяць і выкінуць. І маці не жыве ў дачкі»...

Зноў стварылі камісію. Надзея плакала, казала, як цяжка жыць з маці, але яна яе не выганяла, тая сама сышла, ганьбіць яе, збіраючы бутэлькі, начуючы, дзе прыйдзецца... Так, пагадзілася камісія, сапраўды сама сышла. І ў графе «Прынятыя меры» з'явіўся новы запіс: «Агульнае меркаванне: Коткіна не вінаватая ў дрэнных адносінах з маці. Маці дамагаецца кватэры».

І ўсё. І кропка.

Жыць Аляксандры Сцяпанаўне Качароўскай заставалася восень, зіму, вясну, да першага дня чэрвеня... Па змрочным супадзенні — Міжнароднага дня абароны дзяцей...

Не ведаю, ці трэба яшчэ што тлумачыць.

Я размаўляў са старшынёй гарвыканкама Набочанкам. Малады, энергічны, заклапочаны тысячай неадкладных спраў... Не, на Качароўскую не забыўся, нават дзень і гадзіну, калі тая была ў яго, памятае.

— А вы ведаеце, колькі ў нас такіх старых? Вось, глядзіце, — і ён дастаў з шуфлядкі стала дзве папкі. У адной быў агульны гарадскі спіс на паляпшэнне і атрыманне жылой плошчы, у другой — ільготны. — Дык вось, у агульным спісе амаль ніякага руху, змяншаецца толькі льготны, — ён задумаўся, паціраючы скроні. — Вы запытаеце чаму? Чаму ў горадзе, якому ледзь за дваццаць, так многа старых? Звозяць іх з вёсак, вымушаюць хаты прадаваць, гаспадарку згортваць і — у горад. Здараецца, што і без продажу хат ліпавыя даведкі здабываюць — дом у вёсцы і пасля смерці бацькоў спатрэбіцца... Што праўда, старым, асабліва адзінокім, у вёсцы цяжка заставацца. Яно і правільна, па прыродзе правільна — разам з дзецьмі жыць. Але дзеці карыстаюцца старымі па патрэбе, карыстаюцца іх правамі і льготамі. Глядзіце: што ні бацька, то ветэран, удзельнік, інвалід, у першую чаргу ўсё ім ці іх жонкам. Насамрэч дзецям. Толькі дзеці, атрымаўшы сваё, забываюцца на старых, нават пагарджаюць імі. Вось і мыкаюцца тыя, парогі абіваюць, скардзяцца на дзяцей. Цеплыню і паразуменне шукаюць паміж сабой, суцэльныя суполкі старых узнікаюць. Ну і занятак сабе знаходзяць — хто на лаўцы ля дома пасядзець, хто ўсе магазіны абысці, хто ў лес, па бутэлькі — занятак не бессэнсоўны атрымліваецца...

— Колькі, — пацікавіўся я, — у горадзе такіх старых?

— Шмат, — паўтарыў Набочанка, — вельмі шмат...

Пазней даведаўся, што па статыстыцы сярэдні ўзрост жыхароў Светлага горада — 27 гадоў. І аказалася, што старых ніхто і не лічыць. Што пабачыць праблему за чалавекам значна лягчэй, чым чалавека за праблемай. Кожнага. Пайменна. Па прозвішчах...

...Я пайшоў да Надзеі позна ўвечары. За сценкай неспакойна спаў сын.

«Карміла яе, апранала... Што ёй яшчэ было трэба? Колькі ганьбы ад людзей нацярпелася!»

Раптам адчыніліся дзверы, і ў пакой убегла заспаная дачушка, мо гадоў сем, прытулілася да Надзеі:

— Мама, а табе шкада бабулю? Мне чамусьці не шкада...

Надзея яшчэ мацней заплакала, потым сцішылася і прынесла — я папрасіў — сямейны фотаальбом. Вось брат, вось сяброўка, а вось і яна з матуляй — стаяць у садзе, пад ябынямі, узяліся за рукі... А вось і Аляксандр з бабуляй — глядзяць у аб'ектыў, нахіліўшы адно да аднаго галовы, хлопчык гадоў дзесяці і жанчына, яшчэ не старая, у прыгожай, з кветкамі, сукенцы. На памяць здымак.

На памяць...

Ён так нічога і не зразумеў, Аляксандр. Пасля суда, калі людзі, уцяміўшы, крычалі Качароўскім «забойцы!», ён напісаў у касацыйнай скарзе, просячы скараціць 15-гадовы тэрмін зняволення: «Злачынства здзейсніў пад уплывам няправільных паводзінаў сваёй бабулі... Яна ганьбіла нашу сям'ю, мяне...»

...Я пакідаў горад у ясны марозны дзень. Дымеў завод, узнімаліся ўздоўж навярэджанай магістралі шматпавярховыя дамы, у заснежаным лесе мільгацелі рознакаляровыя постаці лыжнікаў, асляпляла белізной шырокая прастора ракі — і сапраўды малады, прыгожы, светлы горад. А з памяці маёй усё не сыходзіла і мо ўжо ніколі не сыдзе заспаная дачушка Надзеі: «Мама, а табе не шкада бабулю? Мне не шкада...»

## ПЯТАЕ РАНЕННЕ

Здарылася гэта ў 1984 годзе, у сонечны вераснёўскі дзень, калі ў Чэрвень прывезлі свежую рыбу. Падзея не тое каб вельмі значная, але і ў яе ўтварыўся свой маштаб: навіна хутка абляцела гарадок, і не паспела яшчэ Марыя, прадаўшчыца крамы мясцовага леспрамгаса, прыняць тавар, у двары выцягнулася ў ланцуг вялікая, з некалькіх дзясяткаў чалавек, чарга.

Гандаль ужо разгарнуўся на ўсю моц, калі ў двары з'явіўся грузны мужчына ў мехаватым шэрым гарнітуры і павольна рушыў уздоўж чаргі да спехам збудаванага прылаўка. Дыханне з цяжкім свістам вырывалася з ягоных грудзей, ён час ад часу спыняўся, падносячы да рота аптэчны пузырок. І раптам захлынуўся кашлем, сутаргава затрос галавой: гэта ж трэба, хаця і закрывае трахею марлевай павязкай, глынуў усё ж пылу...

Ён ужо пашкадаваў, што рушыў у такі цяжкі для сябе шлях. Каб не падвёз на машыне сусед, наўрад ці адважыўся б. Ды вось захацелася зрабіць прыемнае матулі — куды ёй на дзясятым дзясятку самой па крамах бадзяцца. Што праўда, нічога ёй не сказаў, бо не пусціла б. Дарэмна ўсё ж адмовілася яна ў Мінск перабрацца, куды меней было б праблем. Унь, дзяўчынкі з гастранома проста ў хату прадукты носяць, дактары без выкліку прыязджаюць, лецішча за горадам, на свежым паветры — сам урад распарадзіўся — бясплатна збудавана... А які чулы чалавек Станіслаў Антонавіч Пілатовіч! І не адмаўлялася быццам міністэрства сацыяльнага забеспячэння «Запарожац» выдзеліць, ды не здолела, інструкцыя забараняла, бо дачка, што мусіла кіраваць, паасобку жыве. Але нічога, дапамог намеснік старшыні Саўміна, так і напісаў міністру: «Улічваючы асаблівыя заслугі перад Радзімай і атрыманыя 4 цяжкія раненні, вырашыць пытанне станоўча». Значыць, і машына свая вось-вось з'явіцца, лягчэй будзе матулю наведваць. Хаця ўсё ж побач з роднымі ёй больш надзейна было б. Дык не, адмовілася: ад магіл бацькі і малодшага сына, гаворыць, нікуды не з'еду...

...Мужчына адкашляўся і, цягнучы нагу — ізноў заныў засеўшы ў ёй асколак, ды і дыхаць пасля прыступу, як заўсёды, цяжэй, — прадоўжыў свой шлях яшчэ колькі метраў.

За прылаўкам панавала звычайная гандлёвая мітусня: бразгалі шалі, плюхалася ў авоські рыба. Марыя ледзь паспявала паварочвацца, зважаючы на чаргу, што нястрымна расла, і час, які застаўся да закрыцця крамы. Ад запіскі, аднак, не адмахнулася, прачытала «я інвалід першай групы, прашу...», хутка ўзважыла некалькі рыбін, не звяртаючы ўвагі на замяшанне, што ўзнікла ў чарзе. Між тым яно нарастала. Пачулася лаянка, мужчына затросся ўсім целам, замахаў рукамі, твар пабарвавеў, на ім адлюстраваліся крыўда і неразуменне. Мільгацеў заціснуты ў руцэ пузырок, другая ніяк не пападала ў кішэню, дзе хавалася пасведчанне інваліда, з горла вырываўся свісцячы хрып... О, каб яно ў яго было, горла, каб яно магло дапамагчы яму вымавіць хаця б адно патрэбнае слова, патлумачыць, засароміць жанчын, што расшумеліся ажно на ўвесь двор: «...не пушчайце яго... хай праз пяць чалавек становіцца... ведаем мы гэтых інвалідаў...» Хаця б адну засароміць, тую, што, не выбіраючы выразаў, напірала моцным плячом... Шукаючы заступніцтва, ён паглядзеў на прадаўшчыцу, тая моўчкі працягнула яму праз галовы кашолку з рыбай, ён узяў яе і зноў пайшоў уздоўж чаргі, спяшаючыся, як на тое быў здольны, пакінуць двор, забыцца на ўсё, што адбылося, не думаць, што ж сталася з гэтымі людзьмі. Душыла крыўда, і ён не заўважыў, хто з чаргі тузануў яго за рукаў. Тканіна затрашчала, ён спыніўся ў непаразуменні і паспеў убачыць, як ад скрыняў, што былі складзены воддаль, кінулася да яго чыясьці постаць. І ў наступны момант цяжкі ўдар абрушыўся на твар...

Чарга ахнула, нібыта толькі зараз убачыла ў чалавеку, што ляжаў на зямлі, абсалютную бездапаможнасць. Нехта выгукнуў «за што?!», нехта кінуўся дапамагаць яму падняцца на ногі, гэта было цяжка, таму што цяжкі быў ён сам, а ногі, што былі перабіты ў балотах пад Ленінградам, а потым з неверагодным мастацтвам пасшываны ў тылавых шпіталях, так, што ён здолеў вярнуцца на фронт, адмаўляліся слухацца. З рота струменілася кроў, а ў галаве нарастаў бясконцы гуд, быццам

ізноў узарвалася т а я міна, ударыла гарачай хваляй, сыпанула мёрзлымі камякамі, паласнула асколкам...

Але тады, у 43-м, ён падняўся.

У мяне захаваўся ўрывак з баявой характарыстыкі капітана Паўловіча Анатоля Рыгоравіча. Дасюль памятаю акуратна пападклейваную на згібах, махорачнага колеру паперку, паразмываны часам подпіс — падпалкоўнік Падлесны, 13 лютага 1943 года, дзейнае войска: «...Участвуя в боевых действиях по прорыву блокады города Ленинграда, тов. Павлович вёл себя активно, мужественно. Батальону, которым он командовал, было поручено штурмом овладеть ст. Подгорное и этим самым отрезать путь отхода немцев из г. Шлиссельбурга на Мгу. Выполняя задание, батальон оказался в тяжёлых условиях: противник засел на двух высотах, фланкирующим огнем из пулемётов и сильным арт. и мин. огнем прижал батальон к земле. Тогда тов. Павлович, рискуя жизнью, личным примером поднял батальон в атаку, в рукопашном бою овладел высотами, преследуя немцев, ворвался с батальоном на ст. Подгорное, занял ее и взял трофеи: паровозов —2, вагонов — 34, склад боеприпасов — 1, пулеметов — 7, ПТО — 1. В этом бою немцы потеряли убитыми около 230 солдат и офицеров... Убыл из части по тяжёлому ранению и общей контузии»

Гэта было апошняе, чацвёртае раненне камбата.

Аказалася — не апошняе.

...Ударыў Крыцкі, трактарыст райсельгасхіміі, 27 гадоў. Ударыў і адразу знік з двара.

Знайшлі яго хутка, на наступны дзень. Разам з Паўловічам ён ехаў у адной міліцэйскай машыне, прасіў прабачыць яго, паўтараючы, што ўдарыў выпадкова, бо не бачыў, *каго* б’е. Зараз жа, калі ўбачыў, ім авалодаў страх, у нейкім завуголлі свядомасці з’явілася і не сыходзіла думка, што ўдар мог стацца смяротным...

Паўловіч зноў замахаў рукамі, у машыне было цесна, участковы міліцыянер супакойваў яго, сцвярджаў, што хуліган абавязкова будзе пакараны. Тое самае паўтарыў Апанасевіч, следчы з раённай міліцыі. Паўловіч супакойваўся, паважліва гледзячы на зоркі старшага лейтэнанта...

І сапраўды, справа была заведзена хутка, праз тыдзень. І адразу пацягнуўся ланцуг сведак — гарадок невялікі, чарга лёгка пазнавала сябе. І яшчэ праз тыдзень Апанасевіч выклікаў Паўловіча на допыт «у якасці пацярпелага». Верагодна, мог і сам да яго прыехаць, ведаў жа, як цяжка інваліду дабрацца да Чэрвеня. Усё ж ён дабраўся, на пытанні адказваў запіскамі, потым, прачытаўшы паказанні сведак, расхваляваўся — яны былі насычаны падрабязнасцямі, якіх і ў паміне не існавала. На вочы трапіла даведка з медвыцвярэзніка, з якой вынікала, што Крыцкі часты яго наведвальнік. І побач — характарыстыка з месца працы: выканаўчы, працалюбівы, перавыконвае нормы... Паўловіч задыхнуўся ад абурэння. Не трэба, зноў супакоіў Апанасевіч, не хвалюйцеся, я сам дам ім дыхту, вяртайцеся ў Мінск дахаты, чакайце запрашэння ў суд...

Да суда справа не дайшла. У сярэдзіне кастрычніка Апанасевіч атрымаў дазвол працягнуць тэрмін дазнання яшчэ на месяц. А яшчэ праз два тыдні з-пад пяра следчага выйшла пастанова — справу спыніць.

Вось яна, тая пастанова: «...стаў распіхваць чаргу. Калі Паўловічу зрабілі заўвагу, то ён хапаў гіры са стала, адкуль адпускалася рыба, размахваў гірамі. Крыцкі, які знаходзіўся ў чарзе, зрабіў Паўловічу заўвагу з нагоды яго хуліганскіх дзеянняў, але Паўловіч на заўвагу не зрэагаваў, а схапіў гіру, штурхнуў Крыцкага ў грудзі і намагаўся ўдарыць апошняга. Крыцкі, абараняючыся ад Паўловіча, нанёс яму ўдар па твары, і ад удару Паўловіч упаў... Прымаючы да ўвагі, што ў дзеяннях Крыцкага адсутнічае склад злачынства, што прадугледжана артыкулам 201 частка 2 КК БССР, ён спыняў злачынныя дзеянні Паўловіча...»

Спрэс хлусня — ад «заўваг», што насамрэч былі грубай лаянкай, да «гіры», у якую ператварыўся аптэчны пузырок; ад «распіхвання чаргі» да «намагання ўдарыць Крыцкага», каторага нават у чарзе не было...

Пазней Апанасевіч сцвярджаў, што яго ўвялі ў зман сведкі. Але сведкі не гаварылі нават і паловы таго, што з такім мастацтвам перакуліў з ног на галаву старшы лейтэнант, зрабіўшы з

пацярпелага хулігана, а з хулігана — ледзь не героя, абаронцу грамадскага парадку.

Нічога гэтага Паўловіч не ведаў. Стаміўшыся чакаць суда і адказу на пяць сваіх лістоў да начальніка РАУС падпалкоўніка Зіміна, ён не вытрымаў, паехаў да яго. Той нават не хаваў вочы, калі ўпэўніваў Паўловіча, што не атрымліваў тых лістоў, што адказ хутка прыйдзе. І маўчаў, хаця ведаў, што вось ужо месяц як справа закрытая. Адказ прыйшоў ажно 9 снежня: «віна гр-на Крыцкага не пацвердзілася...»

Зразумеўшы, што Зімін яму не абаронца, Паўловіч прысунуў да сябе старэнькі «Рэйнметал» — адзіны свой ваенны трафей. Да таго моманту друкарка служыла яму толькі дзеля таго, каб дзякаваць усім, хто быў да яго ўважлівы. Іншым спосабам, пісьмовым, ён рабіць гэта не ўмеў — любая літара з'яўлялася з-пад рукі падобнай на іерогліф. Зараз жа з адзінага, па сутнасці, сродку сувязі са знешнім светам, катораму, ён быў упэўнены, патрэбна ягоная ўдзячнасць за ўвагу, дабрыню і спагадлівасць, друкарка ператварылася ў сродак абароны.

Дзіўна, як старэнькі «Рэйнметал» вытрымліваў незлічоную колькасць лістоў і тэлефонных размоў — Паўловіч друкаваў тэксты, каторыя ад яго імя зачытвалі па тэлефоне жонка, дачка, суседзі. Усё гэта чыталі і слухалі ў кабінетах МУС і пракуратуры рэспублікі, абласной міліцыі і пракуратуры... Але спярша ён аддрукаваў ліст Апанасевічу: «...дзе ваша сумленне, старшы лейтэнант?!»

Яшчэ ці не на два месяцы раскручваўся здзек — справа то ўзнаўлялася, то ізноў закрывалася, то ператваралася з крымінальнай у адміністрацыйную... Не так, дык гэтак Апанасевіч намагаўся выратаваць Крыцкага ад законнага пакарання. Але ўрэшце пад ціскам вышэйшай пракуратуры прыцягнуў хулігана да крымінальнай адказнасці...

Калі я разбіраўся ў гэтай гісторыі, самым складаным было зразумець, чым кіраваліся следчы Апанасевіч і ягоны начальнік Зімін, на што разлічвалі, у адкрытую хлусячы Паўловічу і дзяржаве, увасобленай у «органы». Магчыма, справа Крыцкага падалася ім з ліку тых, каторыя было лёгка закрыць, каб не псаваць агульную карціну злачыннасці ў раёне — не стане

ж пацярпелы з-за разбітай губы і выбітага зуба, лёгкіх, так бы мовіць, цялесных пашкоджанняў, уцягваецца ў доўгую, цяжкую для сябе каніцель. Але гэта зразумелае, на паверхні, тлумачэнне. Іншы, прыхаваны матыў — небеспадстаўны разлік на тое, што дзяржава зразумее, пагодзіцца, падтрымае, што дзяржаўная машына, прынцыпова скіраваная супраць асобы, спрацуе без тармазоў. Паўловіч, па сутнасці, змагаўся не з Апанасевічам, а з дзяржавай, з хлуснёй, без якой яна не здольная была існаваць.

...Са змешаным пачуццём сораму, горычы і душэўнага хвалявання ехаў я ў Чэрвень на суд. Як жа гэта блізка — шэсцьдзясят кіламетраў па асфальце! Сыпалася на лабавое шкло шэрань з бяроз, глядзела на захад палявая гармата з пастамента на скрыжаванні дарог... Я ўспомніў аповед матулі, як 24 чэрвеня 1941 года яна, цяжарная мной, дабралася пешшу да Чэрвеня, да плошчы, дзе ў адзіны працуючы магазін ужо цягнулася вялізная чарга па хлеб, апошні, мірнай выпечкі, хлеб. Як адхлынула чарга, адхіснулася, прапусціла ўперад бежанцаў, і сястру маю, і маці, і мяне, значыць — бярыце, якія грошы, хапіла б яго вам на ўвесь шлях у невядомасць... Не, немагчыма забыцца на чэрвеньскі хлеб 1941 года...

Ён прыехаў на суд у ордэнах і медалях, суддзя дазволіў яму сядзець, але ён уставаў, побач, прытрымліваючы яго, уставала, каб за яго адказаць на пытанні, жонка Кацярына Дзмітрыеўна, Каця, медсястра, сястрычка, ён удзячна сціскаў яе руку, як тады, у 43-м, у шпіталі, калі яна, схіліўшыся, працягнула сваю. На ўсё жыццё.

Адзін за адным праходзілі перад судом сведкі. Паўстала Людміла Р., выхавацельніца з дзіцячага садка, год нараджэння 1945-ы. Без асаблівага жадання распісалася ў знак таго, што будзе гаварыць толькі праўду. «Паўтарыце, сведка, словы, якія вы гаварылі пацярпеламу». Маўчанне. «Вы не можаце?» — «А што, у яго ёсць правa, а ў мяне няма?!» — сіплаваты голас сарваўся на віск. Выклікалі яе дачку Таццяну, навучэнку ПТУ — моднае паліто, імпартныя боты. «Няўжо вы не бачылі, што перад вамі інвалід першай групы?» — «А хаця і дзясятай,

няхай не лезе без чаргі!» — «Вы, — не вытрымаў суддзя, — вы... камсамолка...»

Суд дапытваў іх, высвятляў падрабязнасці, яны блыталіся, хлусілі, хлусня выпірала адразу ж, а я ўсё чакаў, калі ж хаця каго з іх кальне сорам, калі ж нарэшце загалосіць сумленне — ды што гэта мы, людзі добрыя, утварылі і працягваем тварыць!

У характарыстыцы злачынства, у прыватных вызначэннях на адрас арганізацый, дзе працавалі ці вучыліся сведкі, суд пазначыў — «праявілі яўную непавагу да грамадства». А хто ж яны, як не грамадства, выхаванае крывадушнасцю дзяржаўнай ідэалогіі, стварэннем вялізнай, на ўвесь СССР, чаргі? Яны сапраўды лічылі, што, заняўшы кругавую абарону вакол прылаўка, яны дзейнічаюць у імя справядлівых, камуністычных прынцыпаў размеркавання.

«Вы... — чырванеў тварам суддзя, — камсамолка... Ён крывёю заслужыў сабе гэтае права...»

Я паглядзеў на Паўловіча. Ён ліхаманкава шукаў руку жонкі, імкнуўся ўстаць, нешта ізноў булькацела ў горле... Што ён хацеў сказаць? Што некалькі рыбін не каштуюць і кроплі ягонай крыві? Жонка супакойвала, гладзіла па спіне... Ён прытуліўся да яе, але бачна было, як перарывіста ўздрыгваюць плечы.

...Увесь дзень 27 студзеня Паўловіч прасядзеў ля тэлевізара — адзначалася чарговая гадавіна поўнага вызвалення Ленінграда ад блакады. Сышло, адсунулася усё, што здарылася з ім у Чэрвені, ён ізноў быў там, у заснежаных балотах, ізноў быў камбатам, што ўстаў пад агнём...

А ўвечары ў кватэры прагучаў званок. Ён адчыніў дзверы, убачыў на парозе Анатоля Яўрэінава, начальніка цэха з завода «Беллічтэхніка», з ім яшчэ некалькі чалавек, кагосьці ён пазнаў адразу, яны не аднойчы наведвалі яго, чысцілі, рэгулявалі ягоны старэнькі «Рэйнметал». Зараз жа машынка не вытрымала апошняга змагання Паўловіча за справядлівасць. Яму дапамаглі дабрацца да завода, майстра, агледзеўшы яе, папрасіў пачакаць і хутка вярнуўся з Яўрэінавым: «мо падкажаш, што з ёй рабіць?» Насамрэч рабіць з ёй не было ўжо чаго — запчастак з таго свету завод яшчэ не атрымліваў. Але

Анатоль ужо глядзеў не на машынку, ён глядзеў на Паўловіча: «Пакіньце, што-небудзь прыдумаем...»

І вось зараз яны стаялі на парозе, пераступалі з нагі на нагу, працягвалі букет чырвоных гваздзік... Ён замітусіўся, прапускаючы іх у пакой, яны сумеліся, пераглянуліся, і Яўрэінаў, падышоўшы да стала, паставіў на яго нейкі чамадан, адкінуў вечка. «Вось, Анатоль Рыгоравіч, гэта вам, ад хлапцоў, яны адмысловы суботнік адпрацавалі...»

Гэта была новенькая, з іголачкі, «Эрыка». Паўловіч, нічога не разумеючы, паглядзеў на машынку, потым на хлапцоў і раптам заплакаў, закрыўшы твар вялікімі рукамі...

Калі яны пайшлі, ён вярнуўся да стала, яшчэ раз прачытаў: «Удзельніку прарыву блакады Ленінграда таварышу Паўловічу А.Р. ад моладзі аб'яднання «Беллічтэхніка». 21.1.84 г.». Побач стаяў «Рэйнметал», ён пагладзіў па яго паверхні, што цьмяна паблісквала, і рашуча адставіў убок. Прысунуў «Эрыку», уставіў у яе чысты ліст паперы і павольна, па літарах, аддрукаваў: «Бяспрыкладны подзвіг ленінградцаў».

Ён друкаваў усю ноч. І скончыў у раніцу словамі: «Няхай вашы дзеці, унукі і праўнукі жывуць у шчасці»...

## АПЁК

*Пачатак жніўня. Спякота. Ізноў гараць тарфянікі, ізноў гарыць беларускі лес.*

*Падобна на тое, што пажар у маштабах краіны невялікі, але ўчэпісты: ці не ўвесь спякотны тыдзень пах гару адчуваецца нават у Мінску, хаця гарыць недзе пад Асіповічамі. Вось і звыклае — забарона наведваць лясы...*

*А мне згадаўся Папоў Барок, што ў Прыпяцкім запаведніку, 1984 год...*

— Бачыце каменьчык? — спытаў Вадзім Пятровіч і кінуў яго ў Бычок. Бруістае мелкаводдзе закалыхалася, затуманілася ўзнятай са дна пясчанай завіссю, кінуліся ўрассыпную плотачкі і адразу зніклі пад рабізной вады, што разышлася кругамі. Праз імгненне, аднак, усё вярнулася на кругі свае — і рыбы, і воды, і цёплы сонечны блік. Тады Вадзім Пятровіч падняў другі каменьчык і зноў кінуў яго ў Бычок. І зноў разышлася кругамі вада, робячы дробным блік, сціскаючы вузкія берагі, спяшаючыся знайсці звыклае месца і стан...

— Дык вось, — Вадзім Пятровіч абапёрся на парэнчы хісткага мосціка, — ёсць толькі адзіны спосаб не парушаць экалагічную раўнавагу — перастаць кідаць камяні...

Размова наша распачалася пра сутнасць трагедыі, што разыгралася тут, ля Папова Барка, у траўні, дакладней 6 траўня, калі адразу, нібы падпалены з усіх бакоў, шугануў пажарам запаведны палескі лес.

Між тым, Папоў Барок быў толькі малой часткай таго, што гарэла і згарэла на беларускім Палессі ўвесну 1984 года. Гарэлі тарфянікі, балоты, пасевы, гарэлі лясы. Усе, з кім я размаўляў пра пажары, а гэта леснікі, навукоўцы, работнікі міліцыі і пракуратуры, службовыя асобы на розных пасадах і палескія старажылы, уголас сцвярджалі, што нічога падобнага па сваіх маштабах не ведалі, не бачылі і не памяталі. Пяць тысяч толькі лясных пажараў, амаль чвэрць ад усіх лясных пажараў, што здарыліся на той год у тагачасным СССР.

Увесну 1984 года беларускі лес нагадваў дровы, кінутыя ў дачырвана распаленую печ. Асабліва на Палессі, дзе яшчэ з восені сышла на зямлю вялікая суш. З гэтай сушшу пайшлі ў маласнежную зіму, а з зімы — у цёплы сакавік, гарачы красавік і распалены май. Павысыхалі калодзежы, змялелі рэкі і ручаі, старыя і новыя меліярацыйныя каналы, праходнымі сталі яшчэ не кранутыя меліярацыяй балоты, а кранутыя ператварыліся ў тарфяны пыл, у прах. На лугах і сенажацях агаліліся пажухлыя леташнія травы, жоўтым сталася вясенняе лісцё на бярозах і струменілася распаленае смалістае паветра ў сасновых лясах.

«Вада сышла ў апраметную», — так, губляючы гук з перасохлага горла, вымавіў Мікалай Бусько, тагачасны старшыня Жыткавіцкага райвыканкама. Што ж, падумаў я, цалкам палескі выраз. З той толькі розніцай, што «апраметная» на Палессі заўжды поўнілася жывой, як у казаннях, вадой.

Вось і ўсё пра надвор'е, пра стыхію, пра анамалію. Астатняе — пра чалавека.

Пра беларускага чалавека ва ўмовах БССР-СССР...

Сёння шмат хто нават з моладзі лічыць, што ў тых умовах існаваў «жалезны парадак», што за парушэнні таго «парадку» непазбежнымі былі пакаранні, што дзяржаўная машына прадухіляла і хутка выпраўляла ўсе хібы гаспадарання і жыцця.

Чаму ж «жалезны парадак» не ўтрымаў СССР?

У кожнага свае адказы, свае тлумачэнні. Мае — у падзеях, што адбываліся ў зніклай краіне. У дадзеных яна яшчэ не развальвалася, толькі гарэла.

Чую пярэчанні: пры чым тут СССР? Лясы гараць па ўсёй планеце. І кліматычныя анамаліі адбываюцца ў планетарным маштабе. Яно так. Але мушу думаць, што толькі ў СССР магчыма было пачуць тое, што пачуў тады ад кіраўніка аднаго з раённых сельгасупраўленняў: «Ды што гэта вы ўсё лес, лес?! Вырасце. А не вырасце, дык новы пасадзім. А не пасадзім, дык вунь яго яшчэ колькі! Зразумейце, не спалім леташнюю, новая трава не ўзрасце. Кармоў недалічымся, мяса, малака... У чым сёння больш патрэбы — у лесе, які сам расце, ці ў мясе, якога не хапае?»

Гэта мы пра Высоцкага размаўлялі, пра тое, як старшыня калгаса «Рассвет», што ў Ганцавіцкім раёне, раздаў школьнікам ажно дзве сотні пачак запалак і накіраваў паліць леташнія сенажаці. Іх было дзясяткі, кіраўнікоў палескіх гаспадарак, што аддавалі падобныя загады, а дзе і самі «скакалі» па лугах на «Нівах» з запаленым квачом у руках...

Яны што, дурныя былі, тыя старшыні? Не, гэта быў такі «жалезны парадак» гаспадарання: адны паляць, другія тушаць, а ўлада выпрацоўвае кіламетры і тоны папер.

Не хопіць старонак пералічыць усе пастановы — ад урадавых да мясцовых і міжведамасных, усе тэлеграмы, загады, рэзалюцыі з усёй уладнай вертыкалі і гарызанталі — менавіта тое, што, здавалася б, павінна было забяспечыць згаданы парадак і прадухіліць распаўсюджванне бяды. Я літаральна збіўся з падліку, калі запісваў за В. Раманоўскім, тагачасным намеснікам міністра лясной гаспадаркі, прафілактычныя мерапрыемствы. Потым падлічыў — звыш двух дзясяткаў...

А лясы гарэлі. Гарэлі амаль тры месяцы.

Дык вось, пра чалавека.

У тым, што чалавек — галоўны падпальшчык лесу, асаблівай навіны няма.

Мы звыкла кідаем стрэлы ў турыстаў, грыбнікоў, аматараў загарадных гульбішчаў... Якое вогнішча? Недакурак, шкло ад бутэлькі, што папала пад сонечны прамень, — вось вам і фокус. Але фокус у тым, што стрэлы ляцяць у пустату. Застаючыся збольшага не злоўленым, гэты род падпальшчыкаў уяўляе з сябе істоту міфічную. Статыстыка іх не ўлічвае, колькасць пажараў, што ўзнікаюць па іх віне, аналізу не паддаецца. «Пераважная большасць» — вось і ўвесь аналіз. Адзінае выйсце — забарона наведваць лес.

І тады, у 1984-м, як і сёння, такая забарона была.

А лес гарэў...

—Што гэта ў вас з рукой?

—Ды так, невялікі апёк... Вось, глядзіце, — палкоўнік В. Каханскі, начальнік Упраўлення пажарнай аховы МУС БССР, здаровай рукой разгарнуў аб'ёмістую папку, — толькі органы ўнутраных спраў аштрафавалі 276 чалавек. Амаль

усе — службовыя асобы. Я сам пяцярых аштрафаваў, па сотні на брата...

Што праўда, да той вясны і я лічыў, што гарачы след у лесе пакідаюць збольшага людзі, якія забыліся на свае карані. Гэта яны прыдумалі выраз «на ўлонні прыроды», не разумеючы, што прырода і ёсць улонне, з якога нарадзіўся Чалавек. Паклон, пакланенне — словы аднаго з улоннем кораня.

А тут раптам зразумеў, што справа не толькі ў бадзяжным, так бы мовіць, элеменце, а і ў чалавеку, які жыве і працуе не на прыродзе, а ўнутры яе, унутры ўлоння. Чалавеку-работніку. На тысячы выпадкаў пажараў — сотні прозвішчаў.

—Увогуле, — працягваў галоўны пажарны рэспублікі, — лясныя пажары не па нашаму ведамству, па лясному. Нам тарфянікі, сельгасугоддзі падкантрольныя, лясы — леснікам. Толькі ж агонь не выбірае, па якому ведамству гарэць. Аштрафавалі мы, напрыклад, дырэктара саўгаса «Прагрэс» Салігорскага раёна Бондара за тое, што загадаў выпаліць на сенажацях леташнюю траву. Думаеце, толькі трава згарэла? Лес, 35 гектараў. А вось яшчэ адзін штрафнік, Акулаў, начальнік ПМК з «Галоўпалессеводбуда». Гэта ўжо меліяратары. Ведаеце, што робяць? Сцягваюць з тарфяных палёў усе дрэўныя рэшткі, розныя там карчы, пні, карэнішчы ў лаўжы, валы. И падпальваюць. Гэтыя лаўжы гадамі гараць, патушыць іх практычна немагчыма. Уявіце заўсёдную крыніцу агню даўжынёй два кіламетры, пяць метраў вышынёй і дзесяць шырынёй. А вакол торф, лес... Які сэнс? Яны такім чынам сабекошт зніжаюць...

Пазней я даведаўся, што такая, з дазволу, тэхналогія не толькі не прадугледжана, але і забаронена — дрэўныя рэшткі неабходна закопваць. Але што з таго? Пралезлі ў шчыліну — паліць з лістапада да сакавіка, пад снегам не страшна.

Першыя пажары-84 пачаліся ў сакавіку.

—Ага, прадухіліць... Вы бачылі верхавы агонь? — спытаўся палкоўнік Каханскі. — Сапраўднае пекла, аніякай сілай яго не ўтрымаць, толькі сустрэчны адпал. Думаеце, гэта так проста? Інстытут трэба заканчваць, каб ведаць, што з гэтым адпалам рабіць. А! — палкоўнік у роспачы махнуў рукой. — Пры чым

тут інстытут?! Па ўсім Палессі шквалістыя вятры, вы — агонь на агонь, а ён — на вас...

Не, я не бачыў верхавы агонь. Я бачыў тое, што ад яго застаецца — немагчыма апісаць тую карціну. Я бачыў людзей з пацямнелымі тварамі, каторыя не здольныя былі і слова вымавіць без дрыжання ў голасе і сардэчнай пакуты ў вачах. Я слухаў іхнія аповеды — дзясяткі эпізодаў сапраўднага гераізму, адвагі, самаахвярнасці... У Жыткавічах ці не ўвесь раён падняўся на барацьбу з пажарамі, старшыня райвыканкама, калі хто марудзіў, сам адчапляў трактары ад сеялак, накіроўваючы тэхніку на тарфянікі, у лес — у агонь...

А ў суседніх Лельчыцах — паседжанне за паседжаннем, пастанова за пастановай... У выніку леснікі засталіся сам-насам з вогненнай навалай. Чаму так, патлумачыў Хламаў, інжынер па ахове леса з Лельчыцкага лясгаса: кожнаму сваё. І сапраўды, у кожнага свая рацыя: у меліяратараў, земляробаў, лесарубаў — яны таксама чырвонага пеўня ў лес пусцілі... І што ні рацыя, то карысць, і не для сябе быццам, а грамадская... Ведаеце, хто акрамя пажарных і леснікоў адчайней за ўсіх з агнём змагаўся? Зборшчыкі жывіцы. Яно і зразумела — з кожнай сасны жывая капейка. Здавалася б, і лесарубам. Але ж не. Дасведчаныя людзі казалі, што лесарубам нават выгадна, каб лес падгарэў, толькі не назусім. Тады і гарэльнік — пад сякеру, пад звышплан, значыць — пад прэміі...

Ведамаснасць — карэннае зло сацыялістычнага гаспадарання. Горш за сякеру біла па лесе, значыць, па дзяржаве — агнём, узрушэннем для ўсяго прыроднага арганізма. То бок па таму ж лугу, ды па таму ж полю, ды па той жа рачулцы, з якой луг і поле спаталяюць смагу, ды па таму ж балоту былому, з якога вецер, калі не будзе лесу, імгненна ўсю ўрадлівасць здзімае... Значыць, і па мясе біла, і па малаку... А што там да птушак розных, дык птушкі тыя, каторых цягне да родных мясцін, доўга па той вясне над чорнымі пралысінамі кружылі, вушы закладала ад іх крыку... З тым крыкам і адляцелі.

Ну, а што ж праваахоўнікі — міліцыянты, пракуроры, судзі — вартавыя, так бы мовіць, «жалезнага парадку»? Што яны рабілі, калі гарэў дзяржаўны лес? Анічога, калі не палі-

чыць працай намаганні ўсяляк ад яе адкруціцца. «Прышліце чалавека з сабакам, — умаляў лельчыцкую міліцыю Мікалай Мацюшэнка, ляснічы з Прыпяцкага запаведніка, — прышліце чалавека з сабакам...» Вось лічба: пяць тысяч пажараў і... 14 спраў па спагнанні шкоды. Крымінальнай — аніводнай.

Памятаю, як у тым спякотным маі спрачаліся Мілашавіцкі лясгас і калгас «На варце» Лельчыцкага раёна, кожны даказваў, што пажар узнік «не па нашай, па іхняй віне». Старшы следчы Гомельскай абласной пракуратуры Н. Грышчанка выявіў, што «...у сакавіку... на тэрыторыі сельгасугоддзяў калгаса... у прыватнасці на тарфяніках, узніклі ачагі пажару... пажар распаўсюдзіўся і на тэрыторыю дзяржлесфонду. Кіраўнікі калгаса не прынялі неабходных мер да ліквідацыі ачагоў пажару. Валы дрэўных рэштказ яшчэ дыміліся... ачагі пажару не пагашаліся. У красавіку–маі ўсталявалася сухое ветранае надвор'е. Агонь з валоў перакінуўся і на акультураныя плантацыі тарфяніку, пазасяваныя шматгадовымі травамі і аўсом...» Усё, пра лес больш ані слоўца, як быццам ён і не гарэў. Пра аўса дзесяць гектараў, пра травы, пра шкоду, якая склала 151 рубель... Ведаеце, што я цытаваў? Пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, сфармуляваную амаль з дзіцячай прастатой: «У дзеяннях кіраўнікоў калгаса ды іншых службовых асоб фармальна ўтрымліваецца склад злачынства... адмовіць... за адсутнасцю склада злачынства...» Маўляў, шкода па аўсе малая і, дзякуй богу, кампенсаваная.

Што ж атрымлівалася? Здзейснена ў вялікім маштабе, у маштабе, можна казаць, усёй рэспубліцы злачыннасць, за каторую, па сутнасці, ніхто не быў пакараны. Штрафы? Але ж штрафы — гэта не за пажар пакаранне, толькі за яго пагрозу, парушэнне элементарных правілаў. Можна толькі ўявіць сабе, з якой моцай наваліліся б вартавыя згаданага парадку, калі б злавілі ў лесе якога дзядка з кінутым недакуркам. 10 гадоў!

— Бачыце каменьчык? — спытаў Вадзім Пятровіч і кінуў яго ў Бычок.

Мы стаялі на хісткім мосціку, і Клакоцкі, намеснік дырэктара Прыпяцкага запаведніка па навуцы, прыгадваў, як прарываўся на машыне праз суцэльную заслону агню і не здоль-

ны быў яго апярэдзіць — з такой моцай і хуткасцю імчаў ён па абодва бакі канала і старога брукаванага тракту. Як падалі знясіленыя людзі, паўзлі да Бычка, каб, акунуўшы галаву ў пацямнелую ваду, падняцца і, хістаючыся, з памутнелым позіркам, ізноў рушыць на агонь... Як успыхнуў лес на ўзгорку паблізу Папова Барка, і яны намагаліся пераправіць трактар з бочкай праз Бычок, трактар заграз і раптам на ўзгорку пачалі ўзрывацца снарады і міны — падчас вайны тут стаяў фронт. Як выстаялі шэсць кругоў абароны і выратавалі пчальнік — паспелі вывезці пчол і спыніць агонь у некалькіх метрах да вуллёў. Як выбеглі на ўзгорак воўк з ваўчыцай — «у мяне халадок прайшоў па спіне» — і завылі, а за імі, уголас, жанчыны, пакуль усё не злілося ў адзін з агнём працяглы страшэнны вой...

Падышоў Іван Іванавіч Торчык, дырэктар запаведніка.

—А ласі вярнуліся, Іван Іванавіч, сам бачыў, — абрадаваў Клакоцкі.

— Ага, — усміхнуўся Торчык, — і сасна дзе-нідзе ажывае. Вось толькі Папоў Барок. Такі нечаканы апёк!

Не павінен быў гарэць Папоў Барок. Балота ўсё ж, на каторым магутны лес вымахаў. Нават у запаведніку такіх балот мала. А тут на табе — ні балота, ні леса. Усё высахла перад тым, як згарэць.

—А мо і нічога? — спытаў я. — Мо ўсё адродзіцца? У рэшце рэшт, і ласі вярнуліся, і плотачкі ізноў гарэзнічаюць...

Вось тады Клакоцкі хмыкнуў у бараду, падняў каменьчык і кінуў яго ў Бычок.

Упёрты, аднак, Бычок, гаманіць, бяжыць, звініць мелкаводдзем. Але і да сёння, праз дзясяткі гадоў, чую той кароткі рэзкі ўсплёск.

# МОСТ, ЯКІ ПЕРАМОГ БОМБУ

...Была вайна. Над вайной ляцеў пісьменнік, шукаючы вытанчаныя параўнанні карцінам, што былі бачныя з пазавоблакавай вышыні. Разрывы бомбаў ды снарадаў здаваліся яму падобнымі на квітнеючыя лотаці, напалмавыя тарнада — на агнядышную пашчу цмока... Параўнанні былі цалкам у духу той краіны, над каторай ён ляцеў. Калі-нікалі ён дазваляў сабе вышыню ніжэйшую, нават зусім нізкую, на якую здольны адно што верталёт, каб не згубіць з прыцэлу нябачную з пазавоблачнай вышыні цэль. Потым ён апісваў адчуванні, якія нараджае ўздрыгваючы ў руках буйнакаліберны кулямёт. Гэта былі адчуванні арганізма, каторыя ён намагаўся павыдаваць за адчуванні душы, наўрад ці ўсведамляючы, што ягоная сусветная вядомасць абернецца на старасці гадоў сусветнай ганьбай...

Не, шаноўны чытач, гэта не Праханаў у афганскім небе... Гэта Стэйнбек у небе В'етнама. 1965 год...

Праз два гады ён напіша: «...Мы ўсё глыбей і глыбей угразаем у гэтай дрыгве...»

Аднойчы ў Амерыцы была вайна ў В'етнаме.

Аднойчы ў СССР была вайна ў В'етнаме.

Аднойчы ў В'етнаме была вайна СССР з Амерыкай.

Аднойчы і я апынуўся ў В'етнаме. Пасля вайны і нібыта на вайне.

1986-ы... Ледзяны снежань...

Я бадзяўся па гулкіх залах «Шарамецьева», краем вуха слухаючы паведамленні пра адлёты ў розныя канцы свету. Палёт у В'етнам, што меўся хутка адбыцца, здаваўся мне чымсьці нерэальным, з галіны фантазіяў, якія збываюцца зрэдку альбо не збываюцца зусім. Гэта зараз любы куток свету — на адлегласці, залежнай ад магчымасцяў кашалька. А тады, узрушаны хуткім падарожжам, я старанна выганяў з памяці ўсё, што чытаў і ведаў пра гэту краіну. Нічога, аднак, не атрымлівалася — перад вачыма зноў і зноў, быццам галаграмы, узнікалі карціны, што складаліся з кніжных абстракцыяў ды тэлекінаўражанняў. Паміж імі часцей за ўсё ўзнікала відовішча бамбёжкі, чамусьці ў выглядзе стэйнбекаўскіх лотацей...

Намагаючыся пазбавіцца галаграфічных прывідаў, я засяродзіў увагу на павольных натоўпах пасажыраў, шукаючы Анатоля Цімафеева і ягоных спадарожнікаў, з каторымі пазнаёміўся тры гадзіны таму. У «рафіку», які на марозе пад мінус 30 ператварыўся ў сапраўдны лядоўнік, усе тры гадзіны мы матляліся па Маскве, збіраючы дэлегацыю чыгуначнікаў, што таксама мелася ляцець у В'етнам. Цімафееў, сам ленінградзец, узначальваў дэлегацыю, але менш за ўсё нагадваў начальніка, калі дапамагаў цягаць з паверхаў старых маскоўскіх дамоў цяжкаважныя рукзакі з прасамі: нехта з бывалых людзей параіў прыхапіць як мага больш прасаў — лепшы падарунак для в'етнамцаў, маўляў, цяжка сабе ўявіць. «А мо прадаць? — азірнуўся на Цімафеева малады хлапец у кажуху. — Срэбра, кажуць, таннае ў В'ет...» — «Паспрабуй толькі, — пагрозліва адазваўся Цімафееў. — Паміж іншым, падчас блакады прасы ведаеце як цаніліся? Што праўда, не такія, а з чыгуну, на вуголлі, электрычнасці ж не было. Добра яны жар утрымлівалі, ды і ўвогуле, ленінградцы — народ акуратны...» Памаўчаў. І раптам дадаў: «Гэта ж трэба! Мы чатыры гады ваявалі, а яны — трыццаць. Як жа яны там?»

Развіталіся мы на ўваходзе ў аэрапорт, дамовіліся сустрэцца падчас пасадкі.

Ён адразу спадабаўся мне, Анатоль Цімафееў, старшы майстар лакаматыўнага дэпо Ленінград-Варшаўскае. Адчувалася ў ім нейкая грунтоўнасць, надзейнасць і тая прыроджаная інтэлігентнасць, што ўласцівая сапраўды майстравым, ад роду майстравым людзям.

Паціскаючы ягоную руку, я нібыта ізноў адчуў вялікую, цёплую, з крапінкамі вугальнага пылу далонь старога дзядзькі-чыгуначніка, каторы вёў нас, моцна трымаючы за рукі, да бацькоўскіх ачагоў.

Натыкнуліся мы на яго, калі, блукаючы паміж бразгаючымі на счэпцы таварнякамі, намагаліся вызначыць, каторы з іх на Маскву. Што-што, а тое, што ў В'етнам трэба дабірацца праз Маскву, мы разумелі. Вось тады, вынырваючы з-пад чарговага вагона, пачулі мы пакашліванне і глухаваты голас: «Так-так... Заблукалі, хлопчыкі?»

Імаверна, гэта быў сцэпшчык вагонаў — у наскрозь прамасленай ватоўцы і гэтак жа прамасленых брызентавых штанах, усунутых у нізкія боты. Ён узвышаўся над намі, павольна скручваючы самакрутку і ацэньваючы ўсмешлівым поглядам: «Далёка сабраліся?» Тут Мішка і выпаліў: «У В'етнам...» — «А-а, — зразумела працягнуў чыгуначнік, — далёка...»

Потым я даказваў Мішку, што трэба было схлусіць. Але ён стаяў на сваім: піянеры не хлусяць.

Быў канец красавіка 1951 года, нас толькі прынялі ў піянеры, і мы, спазніўшыся на адну вайну, спяшаліся патрапіць на іншую.

Згадваецца пра тое, канечне, з усмешкай. Хаця што смешнага? Збіраліся мы на тую, в'етнамскую вайну цалкам сур'ёзна, нават самапалы ў нас былі, сцізорыкі, компасы, кабура і ліхтарык. Ведаеце, такі вайсковы сігнальны ліхтарык — бацька з вайны прынёс, — з рознакаляровым шклом і скураным прарэшкам, каб, не займаючы рук, чапляць яго за гузік на шынялі. І рэчмяшкі былі, напакаваныя чорнымі сухарамі...

І быў мост.

Не ведаю чаму, але з усёй той гісторыі вастрэй, выразней за ўсё згадваецца мост — Заходні мост, па якім вёў нас, моцна трымаючы за рукі, стары чыгуначнік у прамасленай ватоўцы. Магчыма, калі б мы не жылі побач з мостам, жаданне дабрацца да В'етнама не здавалася б нам такім ажыццявімым. Кожны дзень мы бачылі, як імчацца па мосце эшалоны, з грукатам знікаючы ў дыме за дрэвамі прывакзальнага сквера. Так, астатняя частка шляху па абодва бакі ад моста была схавана ад вачэй. А мост быў адкрыты, злучаў бакі свету і нябачныя воку адлегласці...

Я ведаю, што вярнула мяне да гэтага моста — пытанне Цімафеева. Яно само было падобна на мост, што злучыў час і прастору.

Але Цімафееў са спадарожнікамі так і не з'явіліся. І я паляцеў у В'етнам адзін.

...Сустракаў мяне мясцовы журналіст Чан Дык Цінь, прасцей — Цінь, яшчэ прасцей — Цімоша. У чаканні, пакуль разыдзецца натоўп турыстаў, які забіў вузкі праход у будынак

аэрапорта, мы то разыходзіліся, то сыходзіліся па бакі шкляной мяжы, што аддзяляла нас ад паціскання рук, называння імёнаў і маленечкага кубачка гаркавай в'етнамскай гарбаты. «Вось і В'етнам», — думаў я, здзіўляючыся падабенству пейзажаў на роднае Палессе падчас касьбы і цвіцення лугавых траваў. Не, канечне, В'етнам: рудаватае марыва на краі далягляду, дзе ўгадваліся мяккія абрысы невысокіх гор, вільготны жар выпарэнняў ад рысавых чэкаў, што падступалі да самага лётнага поля, зеніткі, што ўтаропіліся ў шугаючае трапічнай спёкай неба...

Да Ханоя мы дабіраліся ля дзвюх гадзін. Вузенькая шаша, загачаная з абодвух бакоў раварыстамі, рыўкамі кацілася пад колы «Волгі», кіроўца каторай, не здымаючы рукі з клаксона і не змяняючы выраз твару, спакойна манеўраваў у хаатычным мільгаценні спіцаў, ног... Малы гадоў трох, спусціўшы ножкі з багажніка і не вымаючы з рота палец, стукнуў раптам па крыле, быццам адмахнуўся ад надакучлівай чорнай мухі. Я ўмольна паглядзеў на Цімошу, але ён, які і кіроўца, быў абсалютна спакойны, працягваў згадваць Ленінград, дзе пяць гадоў вучыўся на факультэце журналістыкі, Мінск, дзе бываў на экскурсіі, Хатынь...

Я спытаў, ці магчыма пабачыць Сангмі. Цімоша з жалем пакруціў галавой — далёка...

Па абодва бакі шашы цягнуліся, наколькі хапала пагляду, рысавыя палі. На іх, нягледзячы на надвячорак, было шматлюдна: стоячы па калена ў жоўтай глеістай вадзе ці з напругай рухаючы ўслед буйвалу, што паволі цягне саху, сяляне, не разгінаючыся, ці то саджалі парасткі рысу, ці то даглядалі іх, а хутчэй за ўсё рабілі і тое, і іншае. Працавалі, відаць, сем'ямі, бо шмат было дзяцей, падлеткаў, што пазабіраліся на спіны буйвалаў ці налягалі, высока задраўшы худыя локцікі, на саху. Па абочынах дробненька тупалі, згінаючыся і хістаючыся пад цяжарам важкіх кашолак, перакінутых цераз плячо чымсьці падобным на каромысла, жанчыны, збольшага ў гадах. Некаторыя цягнулі на сабе агромністыя вязкі цукровага трыснягу...

Часам траплялiся кучы развернутага жалеза ды касцякi згарэлых грузавiкоў ды аўтобусаў. На скрыжаваннях — вялiзныя бетонавыя доты, сапраўдныя крэпасцi з iржавымi бранявымi каўпакамi, адкуль усё яшчэ тырчэлi караткаствольныя гарматы. Больш за дзесяць гадоў ад заканчэння, а ўсё — вайна...

I раптам я ўбачыў мост.

— Тханглонг! — з захапленнем выдыхнуў Цiмоша. — Узлятаючы дракон...

Мост i сапраўды быў падобны на выгнуўшага доўгую спiну дракона. Ён узлятаў у надхмар'е, падстаўляючы яе сонцу, раскручваў бетонавыя кольцы, узносiўся над раўнiннай прасторай палёў i адчувальнай па нечаканай прахалодзе, што ўварвалася ў адчыненыя вокны, вялiкай ракой... «Амаль сем кiламетраў, — паведамляў Цiмоша, — найвялiкшы ў Паўднёва-Усходняй Азii... два ярусы... для ўсiх вiдаў транспарту...» Я паглынаў гэту iнфармацыю, не спыняючыся, аднак, любавацца магутнай прыгажосцю ягонага ўзлёту... Аднекуль з вышынi, з другога яруса, сыпалiся i хутка гаслi iскры электразваркi, за агароджай цягнулася чыгуначная каляя, рабочыя ў касках, напружваючы спiны, мацавалi на стыках рэйкi...

Нарэшце паказалася Чырвоная рака, я ўгледзеўся ў яе сапраўды чырванаватыя воды, не зусiм разумеючы, дзе апынуўся, — баржы паўтыкалiся насамi ў кучы жвiру на беразе, мацакi-буксiры дзелавiта пыхкаюць супраць плынi, цяжка гружаныя «МАЗы» выпаўзаюць з кар'ера... Каб не джонкi пад чорнымi, падобнымi на кажаноў, ветразямi, каб не бачныя з вышынi чарапiчныя дахi Ханоя, не пагады, што хаваюцца за высокiмi зараснiкамi бамбуку i не хацiны пад шырачэзным бананавым лiсцём, зусiм лёгка было ўявiць сабе, што ўнiзе працуе Прыпяць паблiзу Турава, дзе таксама будаваўся тады мост...

I раптам Цiмоша заспяваў.

Ён спяваў, напалову прыкрыўшы вочы за шклом акуляраў. Мелодыя нагадвала вычварную плынь нейкiх таямнiчых, то хуткiх, то павольных водаў... Раптам яна ўзнеслася i перарвалася на самай высокай ноце. «Пра што песня, Цiмоша?» Ён усмiхнуўся: «Тханглонг... Яе склалi будаўнiкi моста, а зараз спявае ўвесь В'етнам. Запiсвай: «Павук тчэ павуцiну, захад

сонца злучае дзень і ноч, ліст злучае сэрцы каханых... А мы будуем мост — злучаем мінулае з будучым...»

Такім быў першы дзень у тагачасным В'етнаме, потым яшчэ дзевяць... А потым — яшчэ 30 гадоў.

Я перабіраю зараз нататнікавыя запісы, углядаюся ў здымкі, намагаючыся аднавіць ў памяці разрозненыя карціны і ўявіць сабе, што змянілася ад тае пары ў далёкай краіне. Калі штодзень бачыш, як руйнуюць Сірыю расійскія бамбавікі, мімаволі шукаеш уласны адказ на пытанні, чаму дзве самыя магутныя ў другой палове ХХ стагоддзя дзяржавы пацярпелі ганебную паразу — СССР у Афганістане, ЗША — у В'етнаме? Дадайце глабальную гістарычную паразу СССР, і вы зразумееце, што яе карані і ў той в'етнамскай вайне з Амерыкай, хаця знешне, здавалася б, СССР тады перамог.

Насамрэч перамог в'етнамскі селянін, што ад раніцы налягае на драўляную саху. Менавіта ён аказаўся мацнейшым за «фантомы» з усімі ягонымі электроннымі вантробамі. Таму што ён пасадзіў парастак рысу.

Але ў якім моры крыві...

Насамрэч перамог мост.

Але якую безліч ахвяр праглынуў, каб узляцець...

З усіх ідэалогій, што бянтэжаць чалавецтва цягам ягонага існавання, пакідаючы за сабой мора крыві, пераможцам заўжды аказваецца ідэалогія мірнай працы і нацыянальнай памяці — пасадзіць парастак рысу і пабудаваць мост.

Гучыць наіўна на тле мудрагелістых разважанняў пра геапалітыку, сферы ўплыву і так званыя «нацыянальныя інтарэсы». Але ж ці наіўнае супадзенне ў часе геапалітыкі ратавання Зямлі з геапалітыкай вайны за рэсурсы, што час ад часу выбухае крывёю?

Супадзенне і супрацьстаянне. На жаль, мала яшчэ ўсвядомленае.

Так, і 30 гадоў таму, і сёння В'етнам — камуністычная краіна. Па-савецку, па-в'етнамску... Дзякуй, што не па-чырвонакхмерску...

Тады, у снежні 1986-га, я штодзень адчуваў, як камуністычная ідэалогія па-савецку прыстасоўвае да сябе ідэалогію

мірнай працы, робячы яе марнай для селяніна, што садзіць парастак рысу, і для рабочага, што будуе мост. Адчуваў паўсюль: і калі бачыў, як зранку ўзлазіць на дах сваёй хаціны падлетак і безвынікова кідае лёску, панамотваную на кансерваваю бляшанку, у возера, каб здабыць сняданак; і ў гатэлі, з якога немагчыма было самастойна выйсці, бо адразу трапляў пад забарону пільнай аховы з аўтаматамі; і ў рашучай адмове Цімошы скарэктаваць праграму, каб у напаўгалоднай краіне пазбегнуць штодзённага знаёмства з в'етнамскай кухняй і даznацца пра што істотнае — «ты приехал не работать, а крепить дружбу»; і калі Цімоша знік на два дні, бо захварэла жонка і не было каму карміць курэй, што гадаваліся ў хаце дзеля ежы; і калі на развітанне ўбачыў у вачох Цімошы непадробны страх з-за таго, што не паспелі наведаць маўзалей «дзядзечкі Хо»...

Але адчувалася і іншае.

Дзе б ні быў, з кім бы ні размаўляў, адусюль толькі і чулася пра масты...

Дзвесце шэсцьдзясят разоў бамбілі амерыканцы Хамронг — «пашчу дракона» — на знакамітай дарозе № 1, што злучае поўнач і поўдзень. І толькі ў першы налёт страцілі 47 самалётаў. А колькі іх усяго паглынула «пашча дракона»?

Пра Хамронг мне распавядалі людзі, каторыя абаранялі яго і адразу, пад бомбамі, аднаўлялі. Тое ж — пра ханойскі Лонгб'ен, збудаваны яшчэ французамі, — «самы доўгі ў свеце»... Ды пра дзясяткі іншых мастоў.

...На поўначы, у вёсачцы, зусім па-калгаснаму — брыгадзе, што ўваходзіла ў камбінат «Шонг Ло», які вырабляў чай, мы патрапілі, зразумела, адмыслова, на свята з нагоды першага месца ў сацыялістычным спаборніцтве. І з гэтай нагоды брыгадзір Суан, што азначае «вясна», атрымала ажно два метры прыгожай тканіны на сукенку. Залілася чырванню ад сарамлівасці і насамрэч стала падобнай на вясну. Аднак у прыватнай размове згадвала толькі вайну. «...яны бамбілі і нашу вёску, і фабрыку, але мы звезлі абсталяванне ў джунглі і там таксама выраблялі чай...»

Я азірнуўся, не разумеючы, што тут магчыма было бамбіць. Але пачаўся канцэрт, хлопчык з гітарай і дзве дзяўчынкі

самазабыўна заспявалі... «Ведаеш пра што? — шэптам спытаў Цімоша. — Дай нататнік: “Заўтра мой настаўнік ідзе на вайну, у мяне няма чаго яму падарыць акрамя песні пра тое, каб ён хутчэй вярнуўся пасля перамогі і зноў пачаў нас вучыць...”» — «Такая сумная песня, — заўважыў я. — Чаму ж яны усміхаюцца?» — «Таму што заўтра — гэта ўжо ўчора...»

Але кожнае заўтра вяртала мяне ва ўчора. Такі вось мост.

Мост, які перамог бомбу.

...А Цімафеева — памятаеце? — я ўсё ж праз пяць дзён сустрэў, заспеў у гатэльным нумары за дзіўнаватым заняткам: апрануўшыся ў працоўную спяцоўку, ён раскладваў па стале вялізныя разводныя ключы, гайкавёрты, адвёрткі — суцэльны набор свайго чыгуначнага інструменту.

— Вось, — усміхнуўся, — замест прасаў... Хто ж ведаў, што ў самалёт не пусцяць з такой вагой?! Мы ўсё-ткі да цягнікоў прызвычаеныя... Ну а тут як? — накінуўся з распытваннямі. — Шмат працы?

— Працы шмат, — усміхнуўся і я. — Калі насамрэч працаваць, а не «крепить дружбу».

## ЖУРАЎЛІНАЯ ПЕСНЯ

*Кожны год, калі набліжаецца Дзень Перамогі над нацызмам, думаецца не пра дзяржаўнае свята, якое глухне ў рыку танкавых рухавікоў і слепне ў фальшывым бляску медалёў і значкоў так званых ветэранаў, а пра безліч ахвяраў, пакладзеных на алтар той Перамогі. І найперш тых, чые костачкі яшчэ застаюцца непахаванымі. У Беларусі пошукавыя атрады знайшлі парэшткі больш як 75 000 чалавек... І канца гэтай гаротнай працы пакуль не прадбачыцца. А пачыналася яна ў 1960-я, калі тыя, хто сапраўды ваяваў і застаўся жывы, адчувалі маральны абавязак перад тымі, хто адышоў у невядомасць.*

* * *

Атрымаўшы ад райваенкамата позву на дзевяць раніцы да дырэктара запаведніка, Аляшкевіч няспешна паклаў у старую палявую сумку пасведчанне аб партызанскім медалі, ордэнскую кніжку да ордэна Чырвонай Зоркі, даведкі пра тое, што ён быў зброевым майстрам у брыгадзе імя Кірава і вывеў у 1944 годзе з акружэння брыгаду «Старыка». Папярэдзіў жонку, каб да абеду не чакала, і, прыпужнуўшы яе міжнародным становішчам, накіраваўся ў Крайцы.

У кабінеце дырэктара яго ўжо чакалі ваенкам — сярэдніх гадоў падпалкоўнік і чорнавалосы малады чалавек з райвыканкама.

— Прысаджвайцеся, Рыгор Ігнатавіч. Тут вось якая справа...

Стары сцягнуў з сівой галавы вушанку з задубелымі завязкамі, перасунуў палявую сумку на калені. Трымаўся ён проста, з годнасцю, ведаючы, што па дробязях яго турбаваць не будуць.

— Зрэшты, Міхал Андрэевіч, — звярнуўся ваенкам да дырэктара, — пачакаем Аўтушку.

— Сідара? — спытаў Аляшкевіч.

— Яго. Таксама ж стары партызан.

— Так. Была справа...

Хутка з’явіўся і Сідар, ледзь прасунуўшы ў дзверы магутныя плечы. Павітаўшыся, знайшоў сабе месца наводдаль і,

па-бабску няёмка склаўшы рукі на каленях, запытальна зморшчыў лоб.

— Дык вось, таварышы старыя партызаны, — троху ўрачыста пачаў ваенкам. — Вы ведаеце, што на тэрыторыі запаведніка з вайны засталіся яшчэ магілы вядомых і невядомых салдат і партызан. Да Дня Перамогі мы хочам перапахаваць іх парэшткі ў брацкія магілы ў Крайцах і Пастрэжжы. Зробім гэта ўрачыста, з аркестрам. Некалькі магіл мы ўжо адшукалі. Мо і вам штосьці вядома, вы ж кожную сцежку ў лесе ведаеце, а з партызанаў самыя старыя...

— Ды тут па ўсіх лясах костачкі... Сідар, а Сідар, — Аляшкевіч павярнуўся да Аўтушкі. — Памятаеш там, на Трасцянцы, у балоце?

— Ты пра тую зямлянку? У 44-м, калі на ласся хадзілі?

— Ага. Там зямлянку знайшлі, лазарэт. Дзесяць партызанаў забітых. І дзяўчыну, санітарку. Так у белым халаце і ляжала. Гэта ўжо пасля другой блакады. Колькі тады нашых людзей пабіла, таварыш ваенкам!

— Дзе гэта Трасцянка? На машыне праедзем? — падпалкоўнік зірнуў на мапу запаведніка.

— Да вы што, невядома, ці пешшу дойдзем. Гэта за Нешкавам, са тры кіламетры. Давай, Сідар, сходзім, паглядзім, мо што і знойдзем... Так і ляжала ў белым халаце, ля самага ўвахода...

— Што ж ты там зараз знойдзеш? Дваццаць тры гады прайшло. Месца зусім дзікое, балота, звяры... І як іх тамака немцы ўбачылі? Мо з самалёта?

— Мо і з самалёта, — пагадзіўся Аляшкевіч.

* * *

Выехалі мы назаўтра ад самага ранку. Пакрахтаўшы наконт таго, што нехта нам дрэннага каня запрог, а шлях доўгі, 18 кіламетраў, Аляшкевіч закінуў на воз модны спартовы рукзак, мабыць з апошніх набыткаў, скруціў самакрутку і лянiва рушыў з месца. Першым сустрэлі Колбіна, загадчыка музея.

— Ну, як жонка, ці звонка? — Аляшкевіч прыпыніў каня.

— Звонка, Рыгор Ігнатавіч. Далёка выправіліся?

— Ды ў Нешкава, а там за Трасцянку.

— А па якой патрэбе?

— У 44-м з Сідарам там на лася хадзілі...

І Аляшкевіч падрабязна распавёў пра тое, што там бачылі, з якой мэтай едзем, не забыўшыся на аркестр... Колбін, пажылы сухаваты чалавек у даўгаполым плашчы і вялізным капелюшы, чымсьці падобны ў гэтым уборы на ватыканскага святара, слухаў уважліва, не перапыняючы.

— Так, — уздыхнуў, — многа гадоў прайшло.

І чамусь выцягнуў з кішэні газету, разгарнуў:

— Вось, схема надрукавана, адкуль да нас сёлетняя вясна набліжаецца. З Захаду, таму і прылёт паўднёвых птушак затрымліваецца. Не бачыў яшчэ жураўля, Рыгор Ігнатавіч?

— Пакуль не. Ну, бывай здаровы. Мо да вечара і дабяромся...

Дарога пайшла сухім сасновым борам. Уздоўж першага шэрагу дрэў прыкметныя былі акопы, павернутыя ў адзін, ад дарогі, бок.

— Нямецкія. А вось кулямётнае гняздо, — Аляшкевіч паказаў на маленькую лагчынку. — Партызаны акопы не капалі, затрымлівацца на адным месцы нельга было. Вось па балотах і базіраваліся. А колькі тут людзей ад голаду, ад хваробаў памерла! У другую блакіроўку немцы самалёты пусцілі, балоты бамбілі. Ды бомбы тыя не выбухалі, правальваліся... А дзе выбухалі, там цяпер глыбокія ямы з чорнай вадой. А вось цікава, таварыш карэспандэнт, мо ведаеш прычыну. Да адной такой ямы звяры на вадапой панадзіліся. Дзікі, ласі, мядзведзь падыходзіў. Побач Бяроза (так у Бярэзінскім запаведніку завуць Бярэзіну. — *С. В.*), а яны да той ямы. Мо карысна чым тая вада? Спытаю ў Цая, няхай зазнае яе лабараторыю...

— Хто гэта — Цай?

— А, Сяргей Іванавіч, намеснік дырэктара па навуцы. Добры мужык...

Упершыню за ўсю вясну дзень выпаў па-сапраўднаму цёплы. Вецер не дасягаў нас, захрасаў недзе ў вяршалінах соснаў. Дарога адразу адтаяла, адмякла. Снег, моцны, «як мур», ляжаў толькі ў цені ды чапляўся за пабляклую траву ў нізінах, лугзямінках па-тутэйшаму.

Аляшкевіч, здаецца, забыўся на мэту нашай нечаканай вандроўкі, кінуўся, нібыта ўплаў, у гісторыю свайго жыцця. Слухаў я яго няўважліва. Не адступала ад вачэй тая дзеўчына ў белым халаце, ля самага ўвахода. Я ўяўляў сабе, як яна кінулася пад кулі, у апошні момант намагалася ўратаваць параненых... Як птушка, што адцягвае забойцаў ад свайго гнязда...

Аляшкевіч раптам загаварыў у будучым часе.

— Бацька мой, значыць, каталік, будзе на ксяндза навучацца. А як ажэніцца на рускай, матулі, значыць, маёй, сваякі яго праклянуць. Потым бацька аслепне і памрэ, а я, значыць, старэйшым застануся. Пайду да дзеда парады пытацца. Дзед у мяне разумны, вялікі майстар езусаў з дрэва выразаць... каторыя плачуць. Кім быць, спытаю ў дзеда, а ён адкажа: за шаўца вучыцца — размахніся і хлеба няма; за краўца вучыцца — шах-мах, блінцы на паліцы; на каваля вучыцца — стук-мяк, вось праснак, вось пятак і справа так. А потым дадасць: цясляр робіць грудзьмі, а каваль — людзьмі. І пайду я на каваля. Толькі рабіць прыйдзецца больш сваімі рукамі.

— А зараз на пенсіі?

— Дзе там! Майстар па меліярацыі. Добрая праца.

— Колькі ж вам гадоў?

— Шэсцьдзясят восем. Гэта што! Я дужы яшчэ. Усё магу. Каня магу падкаваць, сякеру з дроту зрабіць. У партызанах ведаеш якую гармату зладзіў? Вось толькі прыцэлу ды бусолі не было, праз ствол наводзілі. А што ППШ з вінтовак нарабіў, дык і падліку няма. А пісьменнасці ведаеш як вучыўся? Калі ў дваццатых гадах у чырвонай кавалерыі пад Барысавам служыў, ад дзевак адбою не было. А на запіскі адпісваць не ўмеў. Тады па запісках і пачаў грамаце разумець. А адна прыгожая такая паненачка была, усё па лаціні лісты пісала. Доўга не магу ў галаву ўзяць, што да чаго. А потым і лацінь зразумею. Адзін ветэрынар навучыць...

У Пастрэжжа, да Сідара Аўтушкі, дабраліся гадзіны за дзве. Адразу ў хату пазбіраліся вяскоўцы, прыкульгаў стары партызан Іосіф Гатоўскі. Паселі на лаўцы. І пацяклі ўспаміны, старэчыя спрэчкі пра тое, што, дзе калі і як было. Сідар гарачыўся. «Ды слухай, слухай жа ты!» — супакойваў яго

Аляшкевіч, а Гатоўскі счарнеў тварам і плакаў, згадваючы жонку і дзяцей, якіх карнікі спалілі... Потым з'явілася ягоная другая жонка, ён усцешыўся, пачаў распавядаць, як Бягомль бралі, і запрашаў да сябе абедаць.

Аднак мы спяшаліся. Сідар сеў наперадзе, на месцы возніка. За Пастрэжжам прыпыніліся ля помніка партызанам на брацкай магіле. Памаўчалі, пакурылі і рушылі далей.

Калёсы загразалі ў размяклым прасёлку, і мы з Аляшкевічам пайшлі пешшу. Усё часцей кідаліся ў вочы дробныя сляды дзікоў, вялікія і акуратныя сляды ласёў. Трапіў і след мядзведзя, моцна ўціснуты, з роўным паўкружжам кіпцюроў. Аляшкевіч адразу згадаў, як недалёка адсюль зваліўся на яго з дрэва мядзведзь.

— Гляну ўгару, нібыта капа сена якая — плясь! Я ў адзін бок, ён у другі. Так больш і не сустрэліся, — стары зацягнуўся махоркай. — Я псіхалогію жыцця кожнага звера разумею. Мядзведзь, да прыкладу, на чалавека першым ніколі не нападзе. А вось калі натрапіў на медзведзяня, засцеражыся: недалёка мядзведзіца. А яна ўжо спуску не дасць... А ведаеш, якія самыя страшныя звяры былі тут пасля вайны? Нямецкія аўчаркі. Колькі іх тут, кінутых немцамі, бадзялася! Ды й не тое што па лясах ды балотах, а ўсё да вёсак бліжэй, да чалавечыны... Яны ж на чалавека былі нацкаваныя... Ды чалавек сам нібы звер бывае, толькі б забіць...

За павароткай на Нешкава сталі трапляцца партызанскія зямлянкі, дзе-нідзе яшчэ амаль ацалелыя. Неўзабаве перасеклі ручай з назвай Вялікая Рака, што шырока разліўся па левы бок, і ўехалі ў казачную краіну бяроз. Гэткіх бяроз я не бачыў нідзе і ніколі. Нібыта слупы святла, яны луналі над зямлёй, наскрозь пранізаныя птушынымі галасамі. Спявалі дрэвы, спявала паветра. Ён быў такі густы, бярозавы дух, што здавалася, яго можна піць як халоднае, са склепа, малако...

І зноў, нейкім таемным шляхам, з'явіўся перад вачыма вобраз той дзеўчыны ў белым халаце, што раскінула, нібы крылы, рукі на парозе жыцця і смерці, ля самага ўвахода.

...Мы адшукалі тую зямлянку, толькі не адразу. Пакінуўшы на леснічоўцы дашчэнту знясіленага каня, са дзве гадзіны ва-

лачыліся па калена ў вадзе, пакуль не выйшлі на больш сухое месца, астроў па-тутэйшаму. Гэта быў сыры, цёмны, як падзямелле, лес. Ногі правальваліся ў таўшчэзны пласт лісця і хвоі, што ападалі не ў апошнюю восень. Пахла прэллю і чамусьці шкіпінарам. Зламаныя дрэвы ляжалі ўпокат. Паміж імі нараслі маладыя атожылкі. «Ліпкі, ліпкі, — паўтараў Аляшкевіч, — памятаю, там былі ліпкі. Унь як павырасталі...»

Спачатку натрапілі на парасколваны чыгунны кацёл. У цёмнай вадзе, што ад зімы засталася на рэшце дна, плавала счарнелае лісце. Старыя асіны ды яліны навокал былі ўсе ў чорных, пазелянелых па краях, дзірках ад куль. Але зямлянкі нідзе не было...

— Глядзі, Сідар, костка!..

На яліне, уверсе, паміж лапамі, напамінам пра імгненнасць жыцця сапраўды бялела чыясь костка...

— Чалавечая, — пазначыў Аляшкевіч, — мабыць, куніца зацягнула... Шукайма тут...

Толькі цяпер я заўважыў ледзь бачны пад шматгадовым лісцём прамавугольнік. Мужыкі ўзброіліся каламі з палеглых ствалоў і моўчкі, чымсьці нагадваючы шэкспіраўскіх далакопаў, пачалі разварушваць лісцё.

Так і ёсць. Дробныя жаночыя косткі. Ля самага ўвахода.

Мы склалі знойдзеныя парэшткі ля падножжа яліны, накрылі катлом. Аляшкевіч збудаваў невялікі частакол і прычапіў да яго газету — для памяці і адпужваць звера...

* * *

Вярталіся доўга і моўчкі. Раптам з глыбіні сінеючага, ледзь кранутага вечаровым попелам неба, пачуліся трубныя гукі, нібыта ўздыхнуў велічэзны арган.

— Ну, вось і жураўлі прыляцелі, — сказаў Аляшкевіч. — Глядзі, чыста як душа чалавечая.

Іх было двое. Яны ляцелі ўзвышана і вольна, раз-пораз напаўняючы перадвячэрняе неба трубнымі гукамі, нібыта ў іх вузкім выцягнутым горле хацелі нарадзіцца словы пра тое, якая прыгожая, якая чароўная гэта зямля, на каторай жывяце вы, людзі!

## УДОВЫ ВАЙНЫ

*Іх засталося 784*

*22 чэрвеня 1941 года нападам нацысцкай Германіі на Савецкі Саюз пачалася крывавая бойка двух таталітарных монстраў, якая скончылася для іх народаў безліччу ахвяр.*

*Сёння — 75 гадоў...*

*Сёння ў Беларусі, згубіўшай кожнага трэцяга, засталося ад той вайны 13,7 тысячы ветэранаў. У тым ліку, паведамляе Міністэрства працы і сацыяльнай дапамогі, 9,0 тысячы інвалідаў і непасрэдных удзельнікаў.*

*Ёсць у тым падліку лічба, якая прыцягвае асаблівую ўвагу: 784 — «членаў сямей вайскоўцаў, што загінулі ў гады вайны». Чамусьці Міністэрства пазбегла казаць — удоў...*

*У 1986 годзе, калі адбывалася гісторыя, пра якую я хачу распавесці, у Беларусі налічвалася 72 тысячы ўдоў вайны.*

Хавалі ўдаву.

Месца ёй выпала высокае, на самай вяршыні голага, прадзіманага снежаньскім ветрам узгорка, куды неўпрыкмет, спакваля ўспаўзалі новыя гарадскія могілкі. «Добрае месца, сухое...» — ціха, напаўголаса казалі людзі, намагаючыся аблегчыць журботны цяжар падзеі. «І від добры, паглядзіце, які від...»

Від быў на горад, у якім удава пражыла ўсё жыццё. Ён узнімаўся зараз мураванымі гмахамі, святлеючымі ў разрывах нізка бягучых воблакаў, трубамі, вежамі і кранамі ўзломліваў спусцістую лінію далягляду. За лесам, што панік у чаканні снегу, за цярплівай аголенасцю стынучых счарнелых палёў — ці той гэта быў горад, які пакідала яна ў ноч на 25 чэрвеня 1941 года, ратуючы сыноў і не ведаючы яшчэ, які жорсткі вырак вынесе ёй лёс? Ці вайна? А мо вайна, што сталася лёсам?

...Сціхлі размовы, цяснейшым сталася кола, глыбей пазасоўвалі ў рукавы азяблыя рукі музыкі пахавальнага аркестра, абняўшы, быццам дзяцей, свае медныя трубы. І тады наперад выйшаў старэйшы сын удавы, наблізіўся да матулі і паклаў

побач з ёю нешта загорнутае ў белую прасціну. Прыкметна пастарэўшы, ён стаяў, нізка схіліўшы галаву, затым падняў яе і, наўпрост гледзячы людзям у вочы, глуха, але каб усе чулі, сказаў:

— Вы любілі матулю і павінны ведаць, што ў гэтым клуначку. У ім найвялікшае яе багацце — даваенны касцюм бацькі, зямля з ягонай магілы пад Курскам і лісты. Ён паспеў напісаць з фронту ўсяго два лісты. Але тут шмат лістоў. Гэта лісты матулі бацьку. Мы не ведалі, — голас яго перарваўся, — яна ўтойвала ад нас... яна пісала іх усё жыццё...

І сын распавёў, як пасля смерці маці яны знайшлі ў яе пад падушкай цэлы жмут лістоў, як чыталі іх усю ноч, сабе і сваім дзецям, потым перапісвалі ад першага, ліпеня 42-га — «...не лічы, што я з'ехала з глузду, пішу табе, ведаючы, што цябе няма... але ў мяне ёсць твае лісты, у якіх ты просіш зберагчы нашых хлопчыкаў і выгадаваць іх сапраўднымі людзьмі... я павінна адказаць табе...» — да апошняга, у каторым было ўсяго некалькі, з цяжкасцю напісаных словаў: «...любы мой, ненаглядны, я выканала свой доўг...»

З могілак разыходзіліся моўчкі.

— ...Ну і як вам гэта падабаецца?

Я азірнуўся, пазнаўшы ў ідучым побач чалавеку прадстаўніка домакіраўніцтва, як ён адрэкамендаваўся, калі напярэдадні пахавання праціснуўся ў вузенькія дзверы і паставіў у вітальні вянок. Не зняўшы капялюш, ён уголас пацікавіўся, хто тут найбліжэйшы сваяк, і дастаў з кішэні нейкую скамечаную паперку: «Вось тут трэба распісацца ў атрыманні...» На яго цыкнулі, ён сцішыўся, таптаўся ў калідоры... Панеслі вянкі, ён рушыў да дзвярэй, але адтуль ішлі і ішлі людзі, увайсці ён не здолеў і, махнуўшы рукой, прымасціўся да хваста працэсіі, павольна агінаючай на шляху да аўтобуса доўгі панэльны дом. На могілкі ён паехаў, як я разумеў, не жадаючы губляць з вачэй «атрымальніка», а мо і дзеля таго, каб папасці, калі ўжо так адбылося, на памінкі — выпіць з марозу і закусіць.

— Ну і як вам гэта падабаецца? Пісаць лісты на той свет! З глузду з'язджаюць гэтыя старыя. Вось і я мамусі кажу, у вёсцы яна жыве, кіньце, кажу, поркацца ў зямлі, перабірай-

цеся да мяне ў горад. Дык яна ведаеце што надумала? Куды ж, кажа, сынок, бацька наш вернецца, дзе ён шукаць нас будзе? Чакай, вернецца, калі ўжо звыш сарака гадоў як без вестачкі знік, папера нават маецца. Што ж, пытаюся, паперы не верыце? Не дурыце, кажу, мамуся, не парушайце этыкет жыцця. А яна глядзіць гэтак, усміхаецца. Чаму ж, кажа, не веру? Веру, у паперы няма ж таго, што загінуў. Ведала б, дзе магілка, мо і супакоілася б. А й так здараецца, што і магілка ёсць, і прозвішча на помнічку, а сам жывы, унь што ў газетах пішуць — той знайшоўся, гэты знайшоўся... Ну, думаю, дурында старая, раней хаця б карову трымала, і тое карысць была, пацана падкарміць. Давайце, кажу, мамуся, у горад, прапішу, кватэру новую атрымаем, на вас, кажу, ільгота як на ўдаву маецца. Якая такая льгота, пытаецца. Тлумачу, а яна, цемната, сваё: навошта мне тая льгота, няхай яна табе будзе, мне б толькі бацьку дачакацца альбо дазнацца што пра яго, спакайней паміраць было б. Памерці, кажу, заўжды паспееце, зрабіце напаследак добрую справу, мне ж, кажу, без вас, мамуся, тую льготу ніхто не дасць...

— Паслухайце, — перарваў я ягоны працяглы маналог, — вам не шкада сваю матулю?

— Шкада? — перапытаў ён. — А нашто шкадаваць, калі яна сама сябе не шкадуе, мучыцца дурасцю? Жыць, кажу, мамуся, трэба, жыць, як людзі жывуць. А яна: ці ж я не па-людску жыву, ці ж каму замінаю? Замінаць не замінаеце, кажу, але ж карысці, дапамогі ад вас аніякай. Унь іншыя, каму прызначана, усё дзецям — і машыны, і заказы, і дачы... Толькі й чуваць вакол: ветэраны, ветэраны... Ведаеце, колькі іх у нашым домакіраўніцтве? Трыццаць два. А клопатаў з імі!.. Аб’яву на пад’ездах павесілі: прыходзьце для ўдакладнення дадзеных... Дык толькі адзін з’явіўся, расшумеўся, палкай размахаўся, якія, крычыць, табе дадзеныя ўдакладніць трэба, што яшчэ жывы? Супакойцеся, кажу, не нервуйцеся, дадзеныя патрэбны, каб вам заказ да свята аформіць. Дык я табе тыя дадзеныя ўжо сто разоў даваў... Ну і што, што даваў? Удакладніць ніколі не пашкодзіць, каб справядліва ўсё было. Крычы, крычы, думаю, толькі сам я да цябе не пайду, таму што табе ўсё,

а мне — нічога. І права такога — махаць палкай — табе ніхто не даваў, у мяне самога бацька з вайны не вярнуўся, і матуля — удава самотная. А ты — жывы, і табе — усё... Вы, гляджу, чалавек адукаваны, — павярнуўся ён да мяне, — справядліва гэта, што мне анічога?

— Так-такі анічога, — пацiснуў я плячыма, стаміўшыся ўжо ад ягоных блытаных разважанняў.

— Вось-вось, — пападтульваў ён губы, — і матуля туды ж, чаго, кажа, табе, сынок, не хапае? Абы, кажа, вайны не было б... Далася ім тая вайна... Жыць трэба...

Спадарожнік мой працягваў нешта мармытаць, але я ўжо не чуў яго. Перад вачыма ўзнікла гарбаватая, худая постаць цёткі Зосі, сумныя цені пад вачамі і пасма сівых валасоў, што павыбіваліся з-пад старой зношанай хусткі:

— Дзеткі ж вы мае даражэнькія, я б вас усіх ад вайны засланіла...

Вакол нікога не было, толькі я, стары Каладзінскі ды Мікалай Шэшка, старшыня мясцовага сельсавета. «Ат, цётка, — усклікнуў у сэрцах Каладзінскі, — якая табе вайна?! Не будзе болей вайны...» — «Ой, Валодзечка, страшна ажно падумаць, ой як страшна...» — і цётка Зося яшчэ мацней прыціснула да грудзей маленькія зморшчаныя кулачкі.

...Калі сысці з могілкавага ўзгорка ў горад і трымаць, не зварочваючы, шлях на заходзячае сонца, можна праз дзве ці тры гадзіны патрапіць у невялічкую вёсачку Бармуты. У іншыя, не такія ўжо даўнія часы шлях да яе быў нашмат даўжэйшы — старая, абсаджаная бярозамі шаша на Брэст, да якой прытуліліся і Бармуты, стрымлівала бясконцы паток машын. Калі праклалі так званую алімпійскую трасу, хуткаснае, дынамічнае, шпаркае жыццё рушыла ў аб'езд старых дарог, міма Бармутаў. Як-ніяк дарога нумар адзін, у еўрапейскім, так бы мовіць, маштабе. Толькі няма ў гэтым маштабе паказальніка на прасёлак, ад каторага паразыходзіліся, паразляталіся па розных канцах свету бармуцкія мужыкі.

Прасёлак на Бармуты быў ледзь прыкметны сярод завеяных снягамі палёў. Ружавелі на марозным сонцы дымы над

прыціхлай удалечыні вёсачкай, ружавеў прасёлак, нагадваючы бінт, чысты, асляпляльнай белі бінт, праз які выступае кроў з незагойных ранаў беларускай зямлі.

Пра тое, што ў Бармутах жывуць адны ўдовы, я даведаўся яшчэ ў Мінску, у музеі вайны, на ягоным другім паверсе, дзе наведвальнікі запавольвалі крок ля скульптурнай кампазіцыі «Палеглых чакаюць вечна, або Удовы вайны». Не тое слова — кампазіцыя. Я размаўляў пазней з Мікалаем Кандрацьевым, скульптарам, які стварыў гэты твор. Курчыўся ад болю ў спіне — водгаласу атрыманай пад Будапештам раны, і вырэзваў, чатыры гады вырэзваў іх з неахопных векавых ліп, што былі спілаваны падчас будаўніцтва новых магістраляў. Ён здолеў унушыць дрэву гэты боль, не, не толькі фізічны — глыбокі душэўны боль: 216 мужчын не далічылася пасля вайны вёска Высокая Грыва ў Кулундзінскім стэпе, пяці — па лініі бацькі, а па лініі матулі — не палічыць, тры слупкі прозвішчаў на стэле ля абеліска. Яму раілі змяніць назву: «Чаму чакаюць? Помняць. Так будзе больш зразумела». — «Чакаюць», — настойваў Кандрацьеў. Скончыўшы працу, ён адмовіўся ад замовы з міністэрствам культуры, папрасіў толькі паставіць кампазіцыю ў музеі, дзе са сцен глядзяць на ўдоў твары тых, каго яны чакаюць...

Гэту гісторыю Кандрацьеў пачуў выпадкова. Нібыта ёсць у Брэсцкай вобласці вёсачка, дзе жывуць адны ўдовы. Нібыта кожнага 9 Траўня яны выходзяць на прасёлак з хлебам-соллю на вышытых ручніках, чытаюць адна адной лісты з вайны, што паспелі атрымаць, углядаюцца ў далячынь... Кандрацьеў не стаў пераправяраць гэту гісторыю. І правільна зрабіў. Быццам успышка, прасвятліла яна яго душу, высвеціла ў ёй затоены боль. А я рушыў у Бармуты і...

...і цётка Зося яшчэ мацней прыціснула да грудзей маленькія зморшчаныя кулачкі:

— Васямнаццаць кулек у яго трапіла, васямнаццаць дзірачак налічыла... І галоўка, уся галоўка пабіта. І як хавала яго, усё тыя дзірачкі лічыла... Як заплюшчу вочы, чую — ідзе мой Алёшачка, снедаць просіць. Карнікі ж нават даснедаць яму

не далі, пойдзем, кажуць, партызан. А ён мне — не хвалюйся, Зося, вярнуся — даснедаю...

Каладзінскі маўчаў, а Шэшка, кашлянуўшы, спытаў з нейкай вінаватасцю:

— Мо што трэба, Соф'я Мікалаеўна? Кажы, не саромейся...

— А што ж трэба, Ціханавіч? Усё е — і торф, і дровы... і Алёшка, сын, з Бярозы наязджае. Не ведае бацька, які нашчадак у яго вырас — і добры, і працавіты... Не забывае матулю. Усё добра, мае даражэнькія, усё добра...

Чаго ж вінаваціўся Мікалай? Па выпадковасці, якія, зрэшты, здараюцца не так ужо рэдка, мы былі знаёмыя з ім ад пачатку 70-х, калі, паматаўшыся па свеце, ён вярнуўся да матулі, у родныя Сігневічы, і рашуча, мо занадта рашуча, узяўся за асушэнне балот. Пасярод балота, на ўзвышшы, стаяў хутар, а ля хутара рос вялізны магутны дуб. Нібыта зялёны ветразь, пісаў я тады — малады, рамантычны... Ветразь ветразем, але хутар дашчэнту зруйнавалі, старую, ад вайны ўдаву, што векавала ў ім у самоце, перасялілі ў вёску, у новую хату. Толькі кожную раніцу яна прыходзіла да свайго зруйнаванага гнязда, па цаглінцы збірала тое, што засталося ад печы, акуратна складвала гэтыя цаглінкі на былым дварышчы. А потым пайшла да меліяратараў прасіць машыну, каб перавезці цагліны ў вёску, да новай хаты. «Навошта яны табе, бабуля? Што ты з імі рабіць будзеш?» — «Не ведаю, сынкі, а ўсё ж печ была, не абы-што...» Машыну далі, цагліны пагрузілі... А праз тыдзень узяліся за дуб. Раз, другі... Адно што парэзы ад бульдозера засталіся на ягоным магутным целе. Добра, вырашыў тады Мікалай, хай жыве, хай адпачываюць у ягоным цені людзі, назапашваюць сілы для новай працы.

— ...Памятаеш дуб, Мікалай? Жыве?

— Засох, — цяжка ўздыхнуў Мікалай.

...Яны збіраліся ў хаце старога Каладзінскага, бармуцкія ўдовы, рассаджваліся, уступаючы адна адной месца бліжэй да печы, і па ўсім было відаць, што ім звыклы такі агульны бабін збор. Хто падлічыць тыя доўгія зімовыя вечары, калі збіраліся яны вось так разам, адагравалі адна адну ад халоднай цемра-

дзі адзіноты, шукаючы адна ў адной апоры, падтрымліваючы нязгасны вугольчык надзеі?

Не, не ўсе мужыкі не вярнуліся ў Бармуты з вайны. Дайшлі, адваяваўшы, Уладзімір Каладзінскі, Аляксандр Шылінец, «як цень загробны» вярнуўся з германскай няволі Давід Скарына...

Усё, чым былі калісьці Бармуты, засталося пад небам двума сціплымі абеліскамі. Адзін — Мартыну Вячорку, кіраўніку падпольшчыкаў, закатаванаму ў трыццатыя гады польскай дэфензівай. Другі тым, хто палёг пад кулямі карнікаў 2 чэрвеня 1942 года...

Абеліскамі засталіся тыя, даваенныя Бармуты. З абеліскаў жа і пачыналіся пасля вайны, калі, сабраўшы жанчын пад сваё старшынства ў першы калгас, Каладзінскі сказаў: ушануем памяць... Паставілі іх проста насупраць ягонай хаты. І Яша, сын, не ведаючы яшчэ, што будзе настаўнікам, выпісваў на іх імёны тых, каго сам, шасцігадовым хлопчыкам, бачыў у апошні раз...

Вось і пазбіраліся яны разам, бармуцкія ўдовы. І пацяклі ўспаміны, няспешныя аповеды пра тое, як жылі, як працавалі, не разгінаючы спінаў, гадавалі дзетак, чакалі...

Я глядзеў на Мікалая. Ён сядзеў, апусціўшы галаву, камячыў шапку.

Пра што ён думаў тады, апусціўшы галаву? Ці не пра тое, што, ідучы кожную раніцу на працу ў сельсавет, бачыць сярод прозвішчаў на абеліску прозвішча свайго бацькі, Ціхана Шэшкі, які палёг у 45-м у далёкім германскім горадзе Бельведэры? А мо пра малодшага брата свайго, памерлага падчас вайны ад голаду і хваробаў? А мо пра матулю, пра яе нявыплаканыя слёзы?..

Згадаўся той, з домакіраўніцтва, сталічны былы вясковец, увесь несакрушальны аптымізм ягонага выгляду. Асабліва скрып тоўстага, з прэтэнзіяй на моду, скуранога паліто, і гладкаскуры, расчырванелы, у кропельках поту, твар з-пад гэткага ж, з дзвюма дзірачкамі, для вентыляцыі мусіць, капелюша.

Вось яны, думаў я, два беларусы, дзве ахвяры безбацькоўства, дзве ахвяры вайны. Адзін апусціў галаву, камячыць шапку, вінаваціцца... Другі толькі і чакае ад «мамусі», каб вінавацілася перад ім.

...Збіваўся з падліку, каторы раз загінаючы пальцы, Каладзінскі-малодшы, намагаючыся дакладна вылічыць, колькі ж пасля вайны засталося ў Бармутах удоў. «Не, — вымавіў, — не атрымаецца ў нас арыфметыка».

Яно сапраўды не атрымаецца. Няма такога падліку, каторым магчыма было б разлічыцца з вайной.

— А ці праўда, — запытаўся я, — што вы ўсё яшчэ чакаеце сваіх мужоў?

Працягнула дрыжачую паперку цётка Зуля, Сафія Венядзіктаўна: «...вось, тут напісана, што Кастусік мой без вестак прапаўшы...» А цётка Ганна, Ганна Фамінішна, вымавіла: «А што ж, я свайго сама не хавала... Няма у нас іншай моцы супраць вайны, як толькі чакаць...»

784...

P. S. Вёска Бармуты, Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобласць:

1940 год — 75 двароў, 405 жыхароў.

2005 год — 17 двароў, 26 жыхароў.

# ДОМ ЗАСТАЎШЫХСЯ Ў ЖЫВЫХ

*У хатынскай гісторыі з'явілася яшчэ адна сумная дата: у траўні 2020 года памёр Віктар Жалабковіч, апошні, хто ацалеў у трагедыі «дзяцей Хатыні», як іх сталі называць праз гады.*

*Першым сышоў Аляксандр Жалабковіч.*

*За ім, у 2008-м — Уладзімір Яскевіч.*

*І вось Віктар, апошні...*

*Дзеці Хатыні не паміраюць сваёй смерцю.*

*Усё жыццё яны паміраюць смерцю сваіх спаленых бацькоў, сясцёр, усёй сваёй «радзіны», як называюць у беларускіх вёсках радню.*

*Усё жыццё яны паміраюць з іх попелам у сваіх збалелых сэрцах.*

*Не ўсе памятаюць і ведаюць пра тое, што пасля стварэння мемарыяла нейкі час адзіным выжыўшым хатынцам лічыўся Ёсіф Камінскі, пра дзяцей ніхто не згадваў. Хутчэй за ўсё таму, што яны не «манціраваліся» ў афіцыйную версію.*

*Адным з тых, хто з вялікімі цяжкасцямі вярнуў іх у гісторыю Хатыні, і наагул вярнуў Хатынь праўдзе, быў экскурсавод, былы франтавік па прозвішчы Тунік. У 90-х ён з'ехаў у Ізраіль.*

*Нарыс «Дом застаўшыхся ў жывых» напісаны ў 1986 годзе. Тады ж, у траўні, быў зроблены і гэты здымак. Вось усе яны (злева направа) — Віця, Саша і Валодзя ў «хаце» Яскевічаў. На двух іншых здымках — першыя хатынскія крыжы і першы помнік (40-я і 50-я гады).*

Усяго толькі восем іх было, ацалелых у тым пекле.

— Чаго ж мы тут стаім? — усхапіўся Аляксандр Пятровіч Жалабковіч. — Уваходзьце...

Ён пагладзіў паперакручаны маршчыністы ствол, крануў падсохлыя галіны і ўвайшоў у хату. Падлога была засыпана

шлакам уперамех са жвірам, пасярод хаты ўзвышаўся пячны комін, а замест муроў быў адкрыты воку вясенні свет, што калываўся цёплым ветрам і хвалямі калакольнага звону.

Не было хаты. Была мёртвая яблыня, 1986 год, дзявяты дзень траўня, Хатынь... І тады, упершыню і назаўжды, я ўбачыў Хатынь зусім іншымі вачыма.

Не, не, усё так жа далёка быў бачны лёгкі ўзгорысты пейзаж, абкружаны задуменна сцішаным лесам. Як і заўжды, тоўпіўся ля чорнай, нібыта выбухам высечанай, постаці Камінскага з забітым сынам на руках пярэста-каляровы люд, пабліскваў аб'ектывамі... Як і заўжды, спяшаўся да аўтобусаў, на плошчу, дзе пачынаўся і заканчваўся экскурсійны канвеер. Усё як заўжды... Толькі адсюль, з угрэтага травеньскім сонейкам узгорка, ужо не прастора з яе звыклымі карцінамі, а Час падаваўся бачным скрозь паветраныя муры...

Народу ў хаце збіралася між іншым усё больш і больш. Збіраліся, хто застаўся ў жывых, — з дзецьмі, унукамі...

Усяго іх тады, у сакавіку 43-га, восем было, хто ацалеў у пекле.

Стары Камінскі (хаця які стары ў тыя гады?), два Жалабковічы — Саша і Віця, Валодзя Яскевіч, яго малодшая сястрычка Соня, Антон Бараноўскі і яшчэ дзве дзяўчыны — Юля Клімовіч і Марыя Федаровіч. Абгарэлых, але яшчэ жывых, знайшлі назаўтра. Адвязлі ў Хварастані, лячылі, выходжвалі, пакуль у жніўні таго ж 43-га, у тых жа чорных мундзірах не наляцела тая ж смерць. Маша, каб не гарэць другі раз, кінулася ў калодзеж. Юля не паспела...

Ну як пра гэта пісаць?!

Ішлі гады. Памёр Камінскі, памёр Бараноўскі, сышла болем Соня, вось толькі ўтрох засталіся — Саша, Віця, Валодзя...

Хатынь спалілі двойчы — у сакавіку і ў жніўні. Чаму ж там яшчэ было гарэць? Крыжам на магілах? Што ж, карнікі спалілі і крыжы. Але не толькі. Па той, услед за чорным сакавіком, вясне ў Хатыні ізноў зацеплілася забітае горам жыццё. З усяго наваколля, не чакаючы, пакуль растане снег, людзі, калі пачулі пра тое, што здарылася, сыходзілі са сваім няхітрым скарбам

і беднымі пажыткамі ў лясы, балоты, у зямлянкі і буданы. А сюды, у Хатынь, вярнуліся. Вярнуліся тыя, хто па чыстай выпадковасці пазбегнуў неймавернай кары, каго не было ў Хатыні ў той дзень і хто, прыпаўшы да родных магіл, ужо не здолеў адарвацца ад іх, рассекчы пупавіну, апошнюю сувязь з роднай зямлёй. Выкапаў зямлянку паблізу магіл Рудак, Клімовіч, пазбіраўшы абгарэлае бярвенне, паставіў хату. Па вясне зарунелі азімыя — ад таго, мінулага жыцця. Але і ў гэтым пасадзілі яны бульбу, пасеялі новы хлеб...

— Спачатку я ўбачыў, як гараць снапы, — Аляксандр Жалабковіч выцер з ілба пот. — Лесу тады тут не было, лес быў далёка, са два кіламетры. А тут было поле, а на полі — снапы...

Што вымусіла яго, хлопчыка дванаццаці гадоў, вярнуцца ў Хатынь, дзе ўжо ані бацькі, ані матулі, ані сясцёр — нікагошанькі? Каго ён шукаў на папялішчы, чые цені?

...Тады, у сакавіку, Сашу выратавала матуля. Напярэдадні ў Хатынь зайшлі партызаны, ён падахвоціўся іх правесці іх да шашы, палову ночы ішлі па пазамятаным снегам прасёлку. Потым была засада, выбух нямецкай штабной машыны, хаатычная страляніна. Уранку, зусім знясілены, цудам пазбегнуўшы пагібелі, ён вярнуўся ў вёску, лёг спаць, а ўдзень яго пабудзіў крык, які праляцеў над Хатынню: «Не-емцы!»

— Скачы, сынок, скачы ў Замосце, можа хто бачыў, як ты з партызанамі хадзіў, — матуля вырашыла, што немцы прыйшлі па яго.

Не, ён не хацеў збягаць, чапляўся за рукі матулі, нешта крычаў, плакаў. Але ўжо і партызаны павыскоквалі з хатаў, дзе адсыпаліся пасля ўдалай засады, спехам пакідалі вёску. Конь, быццам чужы, клаўся пад ім, ледзь вымусіў яго ўстаць... Калі азірнуўся, ужо нічога не было бачна акром чорнага дыму. У Замосці тоўпіўся народ, пазіраў на дым, гадаў, што дзе гарыць.

—Хатынь гарыць! Хатынь!—крычаў ён, ірваўся назад. Яго ўтрымлівалі, угаворвалі: «Тое не Хатынь, хлопчык. Хатынь унь дзе... тое, магчыма, лес паляць... А там ціха...»

Раніцай ён зведаў кошт той цішыні.

Хавалі хатынцаў праз тры дні. Выкапалі тры магілы, паставілі тры крыжы. Калі хавалі, ён пазнаў сваю матулю — па кофтачцы.

—У яе кофтачка такая была — уся ў кветках...

Жалабковіч дастаў з кішэні чорныя акуляры, надзеў іх, апусціў галаву і замоўк, пераціраючы ў руках сарваную травінку. Што бачылася яму ў гэтыя хвіліны? Як гараць снапы на жытнім полі і крыжы на магілах? Як шугае полымем у жнівеньскім дымным марыве царква на могілках, адкуль у сакавіку, калі абрынуліся брама і дах хлява і людзі, хто яшчэ здолеў, адпаўзалі, беглі ад пекла, а па іх нястомна страчыў кулямёт?.. Выбраўся з-пад галавешак Камінскі, вынес мёртвага сына. Віцю Жалабковіча накрыла матуля сваім целам — «ляжы, сынок, ля...» — і раптам пацяжэла. Валодзю Яскевіча ўратаваў глыбокі роў за хатай, куды ён скаціўся, ледзь убачыўшы чорны ланцуг, зарыўся з галавой у снег, абхапіў яе рукамі, уціснуўся ў зямлю... Толькі попел сыпаўся зверху...

Што ж вымушае іх, цудам застаўшыхся ў жывых, вяртацца сюды, збірацца разам, хаця не радня ані адзін аднаму, хаця ў кожнага свой лёс, сваё асобнае жыццё? Ці не таму, што разам яны — корань? Коранем трымаецца на зямлі народ, ад кораня ідзе ў рост, што б з ім у зямных стагоддзях і тысячагоддзях ні здаралася. А без памяці кораня няма. Няма без памяці радзімы, няма народа.

...З апоўдні, ледзь сонейка пакінула травеньскі зеніт, мы рушылі ўслед за ім у Казыры. Калі ехаць з Мінска, Хатынь направа, Казыры — налева. Упершыню я патрапіў у гэтую вёску па жыццёвай нагодзе: у лютую зіму размарозіла вясковы водаправод. Да восені мясцовы саўгас замяніў трубы, але толькі частку — спыніўся метраў за дзвесце да апошняй хаты, ля каторай сірацела, іржавела ал непагадзі калонка. На гэтай вуліцы, вырашыла кіраўніцтва саўгаса, саўгасныя не жывуць, а гаспадар апошняй хаты і ўвогуле гараджанін, бывае наездамі. Навошта марнаваць грошы?

У гэтай хаце жылі пасля вайны Ёсіф Камінскі з бабай Маняй — Марыяй Баляславаўнай, спадарожніцай у горы

і жонкай. Ён быў адзіны, хто не пакінуў родныя мясціны. Працаваў у саўгасе кавалём, цягнуў праз гады цяжкі сялянскі воз. Калі будавалі мемарыял, дапамагаў, чым мог, бедаваў толькі, што ягоную кузню паставілі не ў тым месцы, дзе была. Потым яго залічылі ў штат музея, паклалі зарплату. І было ў іх з бабай Маняй агулам бязбеднае жыццё. Жаўнеры да іхняй хаты водаправод праклалі, хацелі калонку ў двары паставіць, каб ужо зусім блізка да вады было. Але Камінскі запярэчыў: «Не трэба так, хай усім людзям будзе...»

Такім чынам, і была тая вада для ўсіх, хто ішоў у Хатынь альбо вяртаўся з Хатыні. Сюды, да Камінскага, і пацягнуліся «дзеці Хатыні» — Яскевіч часцей, Жалабковічы радзей, але ўва ўсім падтрымлівалі старых, даамагалі ім у жыццёвых клопатах, сталіся ім, па сутнасці, дзецьмі. І атрымалася так, што знайшлі яны ў гэтай хаце радзіму, зачапіліся за лапік роднай зямлі, за падсечаны, але жывы корань...

А далей... Далей памёр Камінскі, і адразу адлучылі бабу Маню ад сенажаці. Давялося ім пісаць, ездзіць па начальніках, хадайнічаць...

Потым памерла баба Маня. А дом... Дом завяшчала Яскевічу, хаця прымервалася да яго далёкая гарадская радня, абложвала на парозе смерці, патрабавала...

Яна так сама вырашыла — няхай будзе ў дзяцей Хатыні дом, дзе яны маглі б збірацца, злучаць свае жыцці, жыцці сваіх дзяцей і ўнукаў у адно, памінаць мёртвых, бласлаўляць на шчасце жывых.

Вось такі дом абышлі з заменай труб мясцовыя ўлады. Зрэшты, я не пра трубы ўжо і не пра калонку — яна, у рэшце рэшт, запрацавала, дала чыстую ваду пасля амаль двухгадовых угавораў, скаргаў, пераконванняў і просьбаў... Я пра дом, імя катораму Радзіма. І пра нас, хто застаўся ў гэтым доме жывымі. І пра Памяць. Тую памяць, якая надзяляе дабро розумам, а розуму надае светлую сілу дабра.

...Ужо быў накрыты ў доме святочны стол, але мы не спяшаліся, курылі на вуліцы, па каторай вецер ганяў белы пыл, вялі няспешную размову...

— Ціха! — усклікнуў раптам Яскевіч. — Ціха... Слухайце зязюлю...

У настаўшай цішыні з-за лесу, ад Хатыні, даносіўся раз за разам чысты прыродны гук. Лавіў яго, варушыў губамі Яскевіч: пяць... дзесяць... наццаць...

Лясная вяшчунка не змаўкала, абяцаючы ці то сабе, ці то людзям доўгае, на шчасце, жыццё.

# РАЗВІТАННЕ СЛАВЯНКІ

*Памяці Барыса Цітовіча*

Гэта было даўно, яшчэ за Савецкім Саюзам. Знаходзілася ў тым Саюзе без права быць нават ледзь заўважнай кропкай на ягонай дзяржаўнай мапе вёсачка Заброддзе — чатырнаццаць двароў, сто з нечым вёрст ад Мінска і кіламетр ляснога прасёлка ад шляху на старажытны беларускі горад Смаргонь.

Па вялікім рахунку, гэта шлях да Еўропы, бо ад Смаргоні разгаліноўваецца на Вільню і Гародню, ну, а далей, куды хочаш: да Варшавы, Рыгі, можна і да Прагі, Вены, а мо і да слаўнага горада Парыжа... Ва ўсякім разе, там, у Парыжы, памятаюць пра Смаргонь, дзе Напалеон кінуў сваё пабітае воінства, што і зафіксафаў нехта Анры Бейль, ён жа Стэндаль...

З дзясятак гадоў таму шлях на Смаргонь быў замошчаны камянямі — наяўная прыкмета таго, што яшчэ раней, да Савецкага Саюза ды Молатава з Рыбентропам, вёсачка Заброддзе ўваходзіла ў склад Польскай дзяржавы. Сёння такіх шляхоў у заходняй беларускай частцы засталося няшмат. Хаця будаваліся яны — моцны каменны брук — саматужнай сялянскай працай надоўга, у разліку на не надта хуткі, але надзейны рух. А потым на замену сялянскай з’явілася іншая разнастайная тэхніка, збольшага вайсковая. Тут ужо аніякі брук не вытрымае, яма на яме. І ўкаталі яго, асабліва ў апошнія савецкія гады, хуткасным асфальтам.

Па гісторыі, зрэшты, лепш вандраваць не спяшаючыся. Павярнуць, прытармазіўшы, на прасёлак да Заброддзя, і праз колькі сотняў метраў спыніцца ў лесе, пастаяць, зняўжы шапку, ля самаробнага помніка, які ўвенчаны раскрыжаваным Хрыстом, пахадзіць уздоўж безыменных магіл, што мякка прытуліліся да старых соснаў, і ўспомніць пра тое, што яшчэ да Савецкага Саюза і Польшчы вёсачка Заброддзе знаходзілася ў Расійскай імперыі, аддаўшы на развітанне з ёю кавалачак сваёй зямлі пад апошні прыстанак загінулым у Першую сусветную...

Мы яшчэ вернемся на гэтыя лясныя вайсковыя могілкі. А пакуль рушым коратка далей, да ўскрайку Заброддзя, да Барыса і Валянціны Цытовічаў, здаўна маіх добрых сяброў.

Таму ўжо не адзін дзясятак гадоў, як яны, мастак і тэатральны рэжысёр, кінулі сталічную мітусню і ў надзеі адшукаць праўду і сэнс жыцця атабарыліся ў Заброддзі, папросту кажучы, на зямлі. І ў адчайным, да сардэчнага болю, супраціве хлусні праўду тую ўсё-ткі адшукалі — зрабілі з развалюхі добрую хаціну, з кахання — сына Данілу, з крутога берага Нарачанкі — Палісад...

Быў той закінуты бераг да немагчымасці пазасмечваны, шырокая, купіна на купіне, хаця і высока над ракой, пустэча. Але д’ябальскі прыгожы — дубы над лукавінай, старая лазня на ўзгорку, звісаючыя да самога быстраку галіны ніцых вербаў. Што праўда, па выходных на аўто, матацыклах налятала на ўсю гэтую прыгажосць п’яна-карцёжная раць, пакідаючы пасля сябе недаедкі, бітае шкло і рваныя, нібыта шнары па жывому, каляіны.

Па-рознаму ўгаворваў Барыс прыхадняў, іншым разам не без рызыкі для сябе. Ды ўсё без выніку. І тады ён паставіў ля самага праезнага да берага месца вялікі чырвоны знак, што завецца ў кіроўніцкім прастамоўі «кирпич». А неўзабаве падарыў мне сваю гравюру: белы конь пасецца, гумно цямнее, дубы па нізкім трывожным небе моцныя кроны размяталі — чысты, шчымлівы пейзаж. І гэты знак быццам трывожнае папярэджанне: не чапай, не разбурай таго, чым жывуць людзі, не вар’яцей у гвалце над зямлёй, над калыскай, не блюзнер з памяці, з усяго, што на крыві прарасло, што завешчана табе працай пакаленняў, роўнай Боскаму промыслу, адзіна катораму ствараецца на гэтай зямлі прыгажосць прыроды і чалавека. Не, не забаронны знак — заклікаючы да сумлення...

...Рана памерлы бацька пакінуў Барысу ў спадчыну афіцэрскі корцік, пагоны, медалі і чатыры ордэны — два Чырвонай Зоркі і два Айчыннай вайны.

Перад тым, як распачынаць Палісад, спытаў Барыс у забродскіх мужыкоў, а ці можна яму, чалавеку нетутэйшаму,

прышламу на іх зямлю, пасадзіць на ёй дрэва ў памяць пра бацьку?

— Чаму ж нельга, Барысавіч? — збянтэжыліся мужыкі. — За адну ж зямельку кроў пралівалі...

Першыя дрэвы — маладзенькія дубкі — пасадзіў Барыс да 40-годдзя вызвалення Беларусі ад немцаў у гонар і памяць пра тых, хто не вярнуўся ў Заброддзе з вайны. Потым — у гонар памерлых пасля вайны, потым — у гонар жывых ветэранаў: Аляксандра Мікалаевіча Капцюга, Аляксандра Аляксеевіча Петрашэвіча, Івана Нікіфаравіча Шупляка. Таблічкі з імёнамі-прозвішчамі намаляваў, да дубкоў прымацаваў — пазвоньваюць на ветры.

Аднойчы прыехалі да Цітовічаў пазнаёміцца і пагасцяваць Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Георгій Паплаўскі — «тата Жора», вядомы мастак-графік, настаўнік Барыса і сябар. І зноўку скіраваліся Барыс і Данілка ў лес, загадзя прыгледзелі дубкі, прыкапалі... Ды вось бяда: засох, ледзь прыняўшыся, быкаўскі дубок. Палівалі, закутвалі на зіму, ледзь не дыхалі на яго... І — о, цуд! — адагрэлі. Трэснула да траўня пупышка. За ёй — другая, трэцяя... «Лёс, — падумаў Барыс, — гэтак жа і на Быкава была з вайны пахавальная...»

І быў той незвычайны, саракавы ад перамогі над нацыстамі, травень.

І было пытанне: ці магчыма выпакутаваць і ўнутры самога сябе пражыць тое, што выпакутавана і пражыта да цябе? Магчыма, калі душа гатовая ў падораных табе межах жыцця прыняць на сябе ношу мінулых, сённяшніх і будучых гадоў.

Увечары пазблівалі ў Палісадзе з простых дашок вялікі стол, кожны прынёс, што пазбіраў з няхітрай сялянскай ежы...

Ад таго часу не было ані аднаго дзявятага травеньскага дня, каб не збіраліся за гэтым сталом забродскія ветэраны, іх дзеці, унукі і, вядома, Цітовічы з іх гарадскімі сваякамі і сябрамі.

Што праўда, у апошні раз не было з намі Івана Нікіфаравіча Шупляка — памёр, не дажыў да любімага свята трох дзён. Прыхіліў Барыс да яго, Нікіфаравіча, дрэва гравюрны партрэт, побач поўную стопку паставіў, белую талерку з лустачкай чорнага хлеба...

Ува ўсёй вясковай акрузе народ называў Нікіфаравіча Маланкай. За хуткую і майстэрскую кавальскую працу, якая далёка чулася то размераным, то дробным перастукам малаткоў і чыстым звонам навярэджанага кавадла. Спалілася Маланка. Толькі вось чарка, чорны хлеб, дубок у Палісадзе ды намаляваны Барысам партрэт...

Вось такім чынам паміналі мы яго, слухаючы аповеды двух застаўшыхся забродскіх ветэранаў пра тое, як іх забівалі на вайне. І думаючы пра Гісторыю, пра тое, што значыць для яе простае і непаўторнае чалавечае жыццё. Дый тое праўда: нарадзіўся ў Расійскай імперыі, падрастаў у Польшчы, ваяваў за Савецкі Саюз, батрачыў на калгас і, забыты на схіле гадоў калгасна-савецкай уладай, памёр у Рэспубліцы Беларусь.

А колькі іх, такіх, як Нікіфаравіч, не дажыло да чалавечай, па прыродзе і Боскаму загаду, смерці! Колькі было перамолата ў пыл, у шэры зямельны прах жорнамі крывавых падзей! І не бачна канца гэтай сляпой, вар'яцкай кругаверці... Сядзіць за сталом, абхапіўшы галаву, Валодзя, менскі абхазец. У мінулым годзе прывозіў да Цітовічаў двух сваіх суродзічаў з сонечнага краю. Як было весела! А сёння іх няма. Забітыя.

Тут хоць крыкам крычы — за што? — на ўсё знойдзецца свая логіка, сваё тлумачэнне, сваё апраўданне, свая слушнасць... За веру, цара і Айчыну... за сусветную рэвалюцыю... за Радзіму, за Сталіна... за незалежнасць... за свабоду...

Але ці вера, Айчына, свабода — гэта смерць?

Кажуць, што вера, Айчына і свабода — гэта самае дарагое ў чалавека, за іх і жыцця не шкада. Так, дарагое, без іх і жыцця няма. Дык ці ж няма жыцця і з імі, калі вось так проста ўзяць ды аддаць яго, пакарыцца колеру сцяга, поклічу крыві альбо ўладзе супляменнай лучнасці, замяшанай на класавай ці расавай, рэлігійнай альбо міжнацыянальнай нянавісці і варожасці. Ну, пераможуць абхазы грузінаў, сербы албанцаў, таджыкі таджыкаў, хрысціяне мусульманаў, перастраляюць анпілаўцы усіх расейскіх, дый па суседству, буржуяў ды дэмакратаў... Помнікі паставяць сваім героям, кнігі напішуць... І што, набудуць веру, Айчыну і свабоду? На жаль, гісторыя вернецца да іх новай крывёй, новай смерцю. А ў смерці няма ані веры, ані

Айчыны, ані свабоды. У смерці, у гвалтоўнай смерці за любую ідэю, нічога няма. Гэта жыццё — людзей, народаў, нацый — шматколернае ды разнастайнае. А смерць — спрэс чорная, пад якімі б сцягамі ні вяршыла яна сваю крывавую працу.

Так думалася за памінальна-светлым застоллем, над катОрым лунаў дух Памяці, горкай тугі і замірэння з усім, што завецца Жыццём. Прыпякала травеньскае сонейка, заліваўся ў паднябессі жаўрук... Нехта сказаў тост: за апошнюю перамогу людзей над людзьмі! І ўдакладніў: каб яна была апошняй...

Якая наіўнасць! Якая салодкая ілюзія і жорсткі самападман!

Успамінаем тую вайну, а ўжо ўдзельнічаем у гэтай, хай сабе ў думках, але бяром бок тых ці іншых, а то і хапаемся за аўтамат Калашнікава, узбуджаныя жаданнем «дапамагчы братам» аднавіць «гістарычную справядлівасць».

Але хто ведае, што гэта такое — гістарычная справядлівасць? Ці не выдумка яна тых, каму «і жыцця не шкада»? У асноўным, і як правіла, не ўласнага, чужога...

Не, няма і не можа быць справядлівасці, хай сабе гістарычнай, дый хаця б якой, здабытай чужой крывёю. Нават калі за яе пралітая і свая.

Нядаўна здарылася ў мяне з адным чалавекам — архітэктар, інтэлігент — вельмі гучная, на зрыву і агрэсіўнай з ягонага боку, размова. Абражаны распадам «вялікай дзяржавы», што называлася Савецкім Саюзам, а насамрэч і па генетычнай сутнасці заставалася Расійскай імперыяй, ён біў сябе ў грудзі і крычаў, які ён інтэрнацыяналіст. Я, крычаў ён, за «дружбу народов», тую, што была ў Савецкім Саюзе, калі мне было абсалютна напляваць, якой нацыянальнасці чалавек.

—Прабач, я ж таксама за сяброўства паміж народамі і людзьмі. Але навошта пляваць?

—Таму што яны... яны... — ён амаль задыхаўся. — закрылі выхад да мора... Колькі рускай крыві праліта, пачынаючы з Івана Жахлівага і Пятра! А яны... Вось паглядзіш, адновім гістарычную справядлівасць!

Я нагадаў яму, што не толькі рускай, і спытаў: які ж ты інтэрнацыяналіст, калі ў цябе ёсць «мы» і «яны». «Так, так, —

раздражнёна кінуў ён, — можаш лічыць мяне шавіністам». І адразу ж натыкнуўся на жорсткую парадаксальнасць свайго становішча, у каторым самым недарэчным на першы погляд чынам перапляліся крыўда за канец такой прывабнай для яго «дружбы народов» і махровая да іх, гэтых народаў, варожасць.

Але нічога недарэчнага ў гэтым парадоксе няма. Бо самыя непрымірымыя нацыяналісты насамрэч былыя «інтэрнацыяналісты», гатовыя за «дружбу народов» тыя самыя народы сцерці ў парашок. У лепшым выпадку — пасадзіць у агульную турэмную камеру, загнаць туды і свой уласны народ, аблытаны слоўнай вяззю пра сваю веліч, асаблівасць і гістарычную місію аб'яднальніка. У камеру, дзе ўжо, вядома, усе будуць сябраваць з усімі. Міжволі. Каб хаця б неяк выжыць....

У мяккую снежную зіму 1966 года патрапіў я на пару тыдняў у літоўскі гарадок Друскінінкай, у якім нарадзіўся Чурлёніс і дзе з любасцю і аддана захоўваецца ягоная хата. Пазнаёміўся з захавальнікам гэтай хаты, па пасадзе дырэктарам музея, Адэльбертасам Нядзелькісам. Даўгімі зімовымі вечарамі, пры свечках і карцінах, вялі мы розныя размовы. Аднойчы, узяўшы некалькі акордаў на раялі вялікага кампазітара і мастака, Адэльбертас зачыніў века і распавёў пра тое, як вывозілі ў Сібір друскінінкайскія сем'і. І ягоную, Адэльбертаса, сям'ю — бацьку-цырульніка, матулю і шасцёра душ дзяцей... «Ведаеш, — прамовіў ён, — калі б не рускія людзі, мы б там не выжылі...»

Вось такая «дружба». У турме.

Так, мы ўмелі сябраваць у турме. Але ніяк не навучымся сябраваць на волі.

Ці не таму, што волі якраз і няма?

Якая ж гэта воля, калі ледзь выблыталіся з турмы, што абвалілася, ды павыносілі з сабой усе турэмныя звычкі і правілы ўнутранага распарадку. І не заўважаем, якія злачынныя, крывавыя гульні наладзілі з намі нашы былыя наглядчыкі і канваіры, прымушаючы хапаць адзін аднаго за горла ў змаганні за «восстановление исторической справедливости» і «национальные интересы»...

Дык што, паверым ў тое, што цынічны перадзел уласнасці і ўлады — гэта і ёсць змаганне за нацыянальныя інтарэсы?

Усё — хлусня. Бо любое насілле акром абароны ўласнага жыцця, ці то жыццё чалавека, нацыі, народа — хлусня па змоўчванні. Бо каго ў былой супердзяржаве мажліва назваць агрэсарам? Армян? Азербайджанцаў? Грузінаў?

Хто скажа — каго?

Каго мажліва назваць агрэсарам у вайне, развязанай былымі турэмшчыкамі пад новымі нацыянальнымі сцягамі?

Як слаўна, аднак, пасля стагоддзя трыумфуе стары лозунг — заператварэнне адной вайны ў іншую. І наадварот. Куды ні кінь погляд, знешнія нібыта войны пагражаюць ператварыцца ў братазабойчыя, братазабойчыя — у знешнія. Здарыся, не дай Божа, вайна за Чарнаморскі флот альбо Крым — што, гэта будзе вайна Расіі з Украінай? Не, гэта будзе вайна ўсіх супраць усіх...

Адна спадзева — хопіць калі не мазгоў і сумлення, дык элементарнага пачуцця самазахавання быць лягчэй на крутых гістарычных паваротах. Усвядоміць, у рэшце рэшт, што хопіць ужо плаціць па рахунках Гісторыі. Ён бясконцы, гэты крывавы рахунак.

У чалавека, нацыі, народа ёсць права толькі на адну перамогу — над сабой, над сваімі памылкамі, прымхамі і лжывай спакусай уладкаваць сваё жыццё за кошт жыцця іншых, зацвердзіць сваю веру, айчыну і волю, руйнучы веру, айчыну і волю блізкіх ці далёкіх суседзяў.

Толькі атрымаўшы такую перамогу, мажліва здабыць выразнасць у разуменні таго, што сапраўдны нацыянальны інтарэс не ў руйнаванні суседскага, а заадно і ўласнага дома, а ў яго збудаванні, якім бы цяжкім яно ні было. І толькі так «адваяваць» сваё месца ад сонцам. Не забываючыся, што Сонца на ўсіх адно. І Зямля — адна.

Як здабылі гэтую ясную праўду Цітовічы, калі, папрасіўшы дазволу ў забродскіх старых, пасадзілі першае дрэва ў Палісадзе на крутым беразе Нарачанкі.

Калі побач з валуном, на крутым баку каторага — зорка, усталявалі высокі, з моцнага моранага дубу, крыж.

Калі з лясной прэлі і гнілізны, з пажухлай, у каўтун, травы, з прорвы глухога забыцця адрадзілі да жыцця і памяці могілкі забітых і памерлых ад ран у Першую сусветную, «вайсковыя могілкі» на сярэдзіне прасёлка ад Забродзя да вялікага шляху на Смаргонь і ў Еўропу.

Адрадзілі гістарычную справядлівасць.

У першую лістападаўскую нядзелю, на Дзяды, пазбіраліся ў тым лесе па поклічы Цітовічаў усе, хто пайшоў у рост ад моцнага забродскага кораня, а таксама навакольнае насельніцтва і гарадскія сябры. Працавалі пад дажджом, які імжэў увесь дзень. Цітовіч з мужчынамі складвалі, змацоўваючы рошчынай, каменны абеліск. Валя з дзецьмі і жанчынамі паднімалі з зямлі магілы, надрываліся ад яе цяжару, абкладалі іх дзёрнам, пазначалі ўзгалоўі трыма камянямі. Потым паставілі паміж імі васковыя свечы. І запалілі.

Але папярэдне з’явіліся жаўнеры. Жаўнерчыкі, кажучы па праўдзе. Знялі шынялі і склалі «зброю» — адліваючы добра начышчанай меддзю музычны духавы інструмент — узяіся за рыдлёўкі і давяршылі тое, на што ўжо не хапала моцы.

Гэта быў музычны ўзвод з вайсковай часці, што расквартаравана ў Смаргоні.

Гарэла над магіламі ціхае полымя. Нібыта адтуль, з-пад зямлі, дараванне нам, жывым, і ўдзячнасць.

Вусаты маёр узмахнуў рукой. І паплыла над прыціхлым восеньскім лесам даўняя мелодыя — «Развітанне славянкі». Сама гісторыя вярталася да нас. Не крывёю, але Памяццю.

А праз год Беларусь сышла з Расійскай імперыі. Разам з Забродзем, Палісадам і «вайсковымі могілкамі».

І разам з Расіяй.

P. S. Барыс Цітовіч памёр 20 кастрычніка 2021 года ад ковіду. Пахаваны ў Забродзі, на тых самых вайсковых могілках, каторыя адрадзіў для Памяці і Жыцця.

## ЗДАЎНА АГУЛЬНАЯ ВЫСПА

На мяжы верасня і кастрычніка 2013 года амаль два тыдні ў Беластоку і Любліне разгортвалася грандыёзная падзея — фэст пад назвай «Wschod kultury» — «Усход культуры» па-беларуску.

«Усход» па-руску і «восток», і «восход»...

Аляксандр Пушкін, мусіць, таксама сутыкаўся з асаблівасцямі польскай мовы, калі пачаў перакладаць паэму Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод», дакладней, уступ да гэтай паэмы. Ён сам нават не лічыў свой твор перакладам, пазначыўшы яго сціплым «З Адама Міцкевіча»:

Сношений дружных глас утих,
И всяк, переступивший воды,
Лишён был жизни иль свободы.
Лишь хмель литовских берегов,
Немецкой тополью пленённый,
Через реку, меж тростников,
Переправлялся дерзновенный,
Брегов противных достигал
И друга нежно обнимал.
Лишь соловьи дубрав и гор
По старине вражды не знали
И в остров, общий с давних пор,
Друг к другу в гости прилетали.

Спадзяюся, чытач зразумеў гістарычную і філасофскую глыбіню сэнсу, які ініцыятары і стваральнікі фэсту «Усход культуры» ўклалі і ў ягоную назву, і ў ягоны маштаб. «Салаўі», то бок артысты, мастакі, музычныя і тэатральныя калектывы з большасці краін Усходняй Еўропы, насамрэч зляцеліся ў Беласток і Люблін як на здаўна агульную выспу. Дадайце Жэшуў, дзе яшчэ ў ліпені пачынаўся фэст, і вы адчуеце ягоны не толькі гістарычны, але і геаграфічны маштаб.

«Ну і што ж тут такога незвычайнага?» — запытае сучаснік, якога вельмі цяжка здзівіць разнастайнымі музычнымі, тэа-

тральнымі, літаратурнымі фэстамі, што амаль безупынна ладзяцца ў краінах Усходняй Еўропы, не выключэнне і Беларусь.

Незвычайнасць хавалася ў самой канцэпцыі фэсту, якую сфармуляваў вядомы польскі публіцыст, стваральнік мноства культурных праектаў, у тым ліку памежных з Беларуссю, Кшыштаф Чыжэўскі. На ягоную думку, «менавіта культура была сапраўдным і часта адзіным апірышчам духу і выжывання, асабліва для тых народаў, якія цягам стагоддзяў былі пазбаўленыя дзяржаўнасці. І сёння на мапе свету яшчэ існуюць такія месцы, дзе менавіта тая місія культуры не была скончана. Аднак яно не мяняе факту, што сам аспект свабоды, падобна да таго, як ён стане на варце неаднароднасці і павагі да непадобнасці, ужо не вычэрпвае сёння місіі культуры, уцягнутай у найбольш важныя справы нашага часу.

Для свету, які глабалізуецца і ўсё больш робіцца ўзаемазалежным, найбольш істотным выклікам робіцца салідарнасць, якая ахоплівае ўсе повязі чалавека як з іншымі людзьмі, так і з прыродай. А глыбокая салідарнасць вымагае глыбокай культуры...»

Прашу прабачыць мне доўгую цытату, але яна цалкам адпавядае глыбіні згаданай канцэпцыі, што была пакладзена ў падмурак фэсту «Усход культуры» і асэнсавана на Кангрэсе культуры, які адбываўся ў Любліне падчас фэсту.

Распавядаць у газетных нататках пра падзеі фэсту, што разгортваўся ў межах праекта Усходняга партнэрства, вельмі цяжка. Іх дзясяткі ў розных жанрах і кірунках — ад оперы да перфомансаў. Каго цікавяць падрабязнасці, знойдзе іх на сайце http://wschodkultury.eu/...

Мяне ж з усяго, што адбывалася ў Беластоку і Любліне, больш за ўсё ўсхвалявала тое, што Кшыштаф Чыжэўскі лічыць адной з істотнейшых праяваў узаемадзеяння культуры і салідарнасці: «...Глыбокае разуменне салідарнасці ахоплівае павагу і дыялог з тымі, хто жыў і ствараў да нас. Такі мост-зварот да мінулага вымагае тонкай канструкцыі. Гэта тым больш складана хаця б таму, што існуе шмат версій той мінуўшчыны, а перадусім таму, што існуюць яны заціснутымі ў гатовыя культуровыя матрыцы, звычайна апалагетычныя, ахоўныя і

заідэалагізаваныя. Нам не стае крытычнай культуры, якая наладжвае нашыя повязі з мінуўшчынай, збудаванай на глебе салідарнасці, той, што збірае розных людзей пад адзіным дахам супольнай памяці і спадчыны...»

Там, у Беластоку і Любліне, сапраўды ладзяцца «повязі з мінуўшчынай, збудаванай на глебе салідарнасці» і збіраюцца людзі «пад адзіным дахам супольнай памяці і спадчыны»...

Да таго ж там, у Беластоку ды ў Любліне ў розных праявах існуе «свая» Беларусь.

Дзверы ў тую Беларусь расчыніла перада мной Аліна Ваўранюк. Вось ужо 17 гадоў яна выкладае ў Беластоку беларускую мову.

Тут увогуле вельмі цікавая гісторыя, якую ад згаданага вышэй фэсту не адарваць.

Пачалася яна ад 1995 года, калі былыя чальцы Беларускага аб'яднання студэнтаў, што ўжо сталіся бацькамі, вырашылі заснаваць у Беластоку беларускі дзіцячы садок.

Трэба нагадаць, што на той час у Беластоку не было аніводнай адукацыйнай установы з вывучэннем беларускай мовы. Але ўжо існавалі заканадаўча замацаваныя правы нацыянальных меншасцяў. Толькі якую вагу маюць тыя правы, калі не будзе людзей, апантаных адпаведнай ідэяй?! Карацей кажучы, пры падтрымцы дзяржаўных адукацыйных устаноў бацькі намагліся стварыць дзве беларускамоўныя групы ў двух дзіцячых садках.

Але ідэя была істотна шырэйшая і глыбейшая.

Шырэйшая, бо вывучэнне беларускай мовы працягнулася і да сёння працягваецца ад дзіцячых садкоў да пачатковай школы, потым да гімназіі, потым — да ліцэя. У 1995 годзе ў згаданых садках пачыналі вывучаць беларускую мову трыццаць дзетак. Сёння колькасць навучэнцаў у садках, школах, гімназіях ды ліцэях перавысіла 250...

Глыбейшая, бо вывучэнне беларускай мовы паступова набыло іншае вымярэнне — вымярэнне культурай. Дарэчы, менавіта так — «Іншае вымярэнне» — была названа беластоцкая частка фэсту.

Але яшчэ задоўга да фэсту, калі існавалі толькі беларускамоўныя групы ў садках, быў створаны абрадавы тэатр, які з часам пераўтварыўся ў праект «Ад абраднасці да тоеснасці». Сцэнары пісалі самі бацькі на падставе падляшскіх абрадаў, а акцёрамі ў спектаклях былі дзеці, настаўніцы і бацькі.

Але сапраўды дзіўным, унікальным вынікам таго, што вывучэнне беларускай мовы набыло ў Беластоку моц культурніцкай плыні, стаўся спектакль «Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша». Нават не толькі спектакль, а цалкам адмысловы праект, над якім Аліна Ваўранюк і яе вучні працавалі ад студзеня 2009 года. Менавіта ад таго часу пачаліся выезды ў падляшскія вёскі, вёсачкі і мястэчкі, дзе збіраліся ўспаміны дзядоў і бабулек, шчымлівыя сямейныя гісторыі, запісваліся песні, мелодыі...

Зрэшты, лепш за саму пані Аліну ніхто пра гэты праект не распавядзе. Вось што яна піша ў кніжцы, якая рыхтуецца да выдання: «...задала сабе пытанне: ...няўжо ў нашых сем'ях няма гісторый, якімі было б можна і варта падзяліцца са сцэны? Тым больш, што ёсць каму, балазе я працую з таленавітай моладдзю. А ў тэатр гуляем, можна сказаць, з дашколля... Ці не самым важным стала месца, дзе мы рыхтаваліся, дзе пазнавалі тапаграфію і мінулае нашай малой бацькаўшчыны, рысавалі мапу Беласточчыны і генеалагічныя дрэвы сваіх сем'яў, вучыліся браць інтэрв'ю і запісваць размовы, дзе аглядалі сямейныя здымкі і расказвалі свае гісторыі, дзе спатыкаліся з выдатнымі творцамі тэатру, супольна спявалі, глядзелі цікавае кіно, былі разам у групе, добра гулялі. Гэтае месца — Народны ўніверсітэт імя Яна Юзафа Ліпскага ў Тэрэмісках... Асабліва дапамагла нам Бажэна Шрэдэр.... Яе бясцэнныя заўвагі прывялі нас да сапраўднага тэатру, простага і адначасна глыбокага. Дапамаглі выбраць самыя неабходныя рэквізіты, напрыклад куфар, які дае неабмежаваныя магчымасці, бо ў ім можа быць усё: ікона і хусткі, фатаграфіі блізкіх і вышываны ручнік, а нават камяні, каб ускласці на сімвалічных магілах нашых колішніх жыдоўскіх суседзяў. Чым больш мы працавалі, тым мацней я разумела, што... па сутнасці ствараем вандроўны тэатр, які патрабуе мала рэквізітаў, затое выразных... каб з іх дапамогай

можна было цікава расказаць і пра бежанства, і пра вайну, і пра смерць, але таксама пра вячоркі ці вяселле. Хустка, ручнік, ікона... без іх немагчыма ўявіць беларускай хаты... Не, абы-якіх рэквізітаў да такіх гісторыяў мы не маглі сабе дазволіць. Таму атмасферу хаты, але і вясковай лавачкі і нават тэатра ў клуні перадаем з дапамогай старых табурэтак. Акцёры апранутыя ў някідкія шэрыя льняныя кашулі і сукенкі ды вязаныя ваўняныя шкарпэткі. Натуральна і гарманічна. Пры тым, дазваляе гледачам засяродзіцца на слове. ...каб ён (спектакль. — *С. В.*) атрымаўся сапраўды ўдалым, патрэбнае нешта незвычайнае, няўлоўнае, чаго не можна запланаваць. Так, як з іконай Ліды Пякарскай. Гэта аўтэнтычная ікона, якую яе прабабка Оля вынесла з хаты ў Шпаках, спаленай бандай Бурага. Выяўлены на ёй святы Панцялейман, заступнік лекараў. Праз паўстагоддзя дачка васьмігадовага ў той час хлопчыка Колі Кучынскага, мама Ліды, стане лекарам.

Беларускія гісторыі з Падляшша. Два гады працы над падрыхтоўкай спектакля, дзясяткі прэзентацый, а я ўсё не магу пасля яго выступіць перад людзьмі і простымі словамі, коратка растлумачыць, чаму мы за гэта ўзяліся. У горле сядзіць нейкі камяк, з вачэй чамусьці цякуць слёзы...»

Камяк сапраўды цісне горла, калі адчуваеш, як дасягае глыбінь тваёй уласнай памяці святло знікаючага жыцця.

Нехта памылкова вырашыць, што гэта фальклорна-этнаграфічны, так бы мовіць, спектакль і цалкам праект. Нават не блізка. Спектакль мае іншую мэту. Калі бачыш, як простыя вучні, зусім не прафесійныя акцёры на тваіх вачах ствараюць з даўніх, звычайных калісь жыццёвых гісторый цуд мастацтва, пачынаеш адчуваць і ўсведамляць, як праз гэты цуд нараджаецца салідарнасць паміж людзьмі — простымі беларусамі, палякамі, габрэямі, рускімі, украінцамі...

І, што ўвачавідкі, нараджаецца гэты цуд не толькі праз самі гісторыі з падляшскіх мястэчак і вёсак, але і праз мову.

Не, гэта не літаратурная беларуская мова, якую з дзіцячага садка засвойвалі нашчадкі падляшскіх беларусаў. Гэта менавіта тая мова, на якой старыя людзі распавядалі гісторыі сваіх сем’яў і родных мясцін.

Мова, якая ў розных падляшскіх мястэчках і вёсках мае свае дыялекты, якія ствараюць іх непаўторныя твары.

Мова, якая ў розных падляшскіх мястэчках і вёсках мае сваю інтанацыю, якая стварае непаўторную змястоўнасць іх штодзённага жыцця.

Сем гадоў таму бацькі, настаўнікі стварылі ў Беластоку Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, — «АБ-БА». Можна толькі пазайздросціць маштабнасці і рознастайнасці дзейнасці «АБ-БЫ» — ад стварэння адмысловых настольных гульняў для малых дзетак да тэатральных пастановак, фільмаў і кніг...

Але вось што цікава: цалкам грамадская арганізацыя карыстаецца моцнай фінансавай падтрымкай Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы.

Дзеля чаго?

Дзеля чаго польскай дзяржаве падтрымліваць асветніцкую і культурніцкую дзейнасць «сваіх» беларусаў?

Дзеля чаго падзвіжніцкая дзейнасць Аліны Ваўранюк адзначана «Сярэбраным крыжам заслугі» — высокай дзяржаўнай узнагародай?

Пытанне рытарычнае, бо адказ вядомы: дзеля Польшчы — агульнай Бацькаўшчыны і дзяржавы.

# СВЯТЫ КАЛОДЗЕЖ

Мо гэта маё асабістае ўражанне, але ўсё ж: чаму, умоўна кажучы, правінцыйныя польскія, ды і некаторыя беларускія мястэчкі і гарады выглядаюць больш еўрапейскімі, чым сталічны Мінск?

Тлумачэнняў колькі заўгодна, але адно наўпрост кінулася ў вочы, калі я трапіў на мерапрыемства, пра якое нават не адразу зразумеў, што ў ім датычыцца згаданага фэсту. Называлася яно «Знікаючыя месцы і людзі» і было, на першы погляд, звычайнай экскурсіяй па ўскраіне Беластока. А мо і не па ўскраіне, бо да цэнтра калі не крок, то два...

Трэба сказаць, што ўскраіна тая, нягледзячы на сумнае «знікаючыя», жыве сучасным жыццём і не збіраецца знікаць. Ёй не пагражае бульдозер, пад які лягуць старыя дамы і вулачкі, як тое адбывалася, да прыкладу, з мінскай Грушаўкай. Ці чыгунная баба, што бурыла Нямігу — да сёння чуецца храбустанне яе костак...

Што ж тады «знікаючае» ў Беластоку? Жыццё, адным словам. Жыццё, што мусіла ўжо адысці, але пакінула па сабе і пазнавальны, і кранальны ўспамін. То бок свеціцца неўміручым святлом. І, па сутнасці, не знікае.

Менавіта гэтае святло робіць гісторыю ці то будынкаў, вуліц і вулачак, ці то гарадоў і мястэчак, ці то цалкам краін неад'емнай часткай культуры. Нездарма ўстанова, якая адказвае за стан культуры, называецца ў Польшчы Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны.

Я не заўважыў у Беластоку таго, што ў нас завецца рэстаўрацыяй ці рэканструкцыяй, а насамрэч — стварэннем ненатуральнай прасторы для безнадзейнага разліку на замежных турыстаў і вымотвання з іх грошай немаведама ў чыю кішэню. Хаця, безумоўна, і рэстаўрацыя ў Беластоку ідзе, і працуе процьма музеяў. Але размова пра іншае. Пра тое, што ніводны стары раён, а ў ім ніводны стары будынак ці вуліца не падлягаюць знішчэнню, бо захоўваюць памяць ці то пра расейскія казармы, ці то пра габрэйскія фабрыкі, ці то пра паўстанне ў

гета падчас нямецкай акупацыі. Апошняя, дарэчы, носіць назву Герояў гета. А побач — Жабіна, бо калісьці тут было балота...

Больш за тое: у Беластоку наогул не чапаюць будынкаў, што з цягам часу ператварыліся нават амаль што ў руіны. Прычыны розныя, але ў асноўным тая, што гэтыя будынкі належаць замежным нашчадкам тых, хто тут некалі жыў. Аднаўленне падобных будынкаў і сучаснае іх выкарыстанне — справа, вядома, марудная, гэта ў нас яна вырашылася б у момант — пад знос... У Беластоку вас падвядуць да такога будынка і распавядуць пра шматгадовую, нават векавечную гісторыю сям'і, што жыла тут, пра яе лёс, збольшага трагічны... А з вокнаў, у якіх няма шкла, бо шкло — гэта першае, чаго не ашчаджвае час, на вас будуць глядзець з вялізных фотаздымкаў розныя людзі з розных беластоцкіх часоў. Нідзе — ні ў Беластоку, ні пазней у Любліне — я не бачыў у старых будынках нямых правалаў пустых шыбаў у цемру...

Адсутнасць правалаў у гістарычнай памяці, яе натуральнае жыццё ў сістэме культурных, чалавечых, дзяржаўных, увогуле цывілізацыйных каштоўнасцяў — вось што з'яўляецца ці не галоўнай прыкметай згаданай еўрапейскасці і падмуркам салідарнасці паміж нацыямі, народамі і людзьмі.

Таталітарны падыход да гістарычнай памяці мае зусім іншыя мэты: ці зруйнаваць, ці выкарыстаць дзеля атруты грамадства ідэалогіяй і неабмежаванага захавання неабмежаванай улады... Найбольш радыкальны метад — забіць памяць разам з яе носьбітамі, то бок людзьмі.

Гісторыя Халакосту ў Любліне мае адну бясспрэчную трагічную адметнасць: менавіта Люблін стаўся першым еўрапейскім горадам, дзе 16 сакавіка 1942 года адбылося «канчатковае вырашэнне габрэйскага пытання». Я спытаў у Марціна Вочура, колькі зараз у Любліне жыве габрэяў. Ён пачаў загінаць пальцы...

Марцін Вочур — паляк, нарадзіўся недалёка ад Любліна, прафесійны філолаг і зусім малады чалавек. Нібыта Вяргілій па пекле, ён вадзіў нас па змрочных паверхах будынка 15-га стагоддзя, дзе месціцца «Тэатр NN», то бок «Nomen Nescio» — «Імя невядома» з латыні....

«Тэатр NN» заснавалі ў 80-х гадах мінулага стагоддзя люблінскія мастакі і артысты, заклапочаныя тым, што горад, які быў некалі на перакрыжаванні розных еўрапейскіх, у тым ліку ўсходнееўрапейскіх, культур, меў неаспрэчную славутасць талерантнай еднасці розных рэлігійных плыняў, пачаў губляць і гэту славутасць, і гістарычную памяць. Найперш памяць пра сваю габрэйскую частку, ад якой застаўся толькі адзін калодзеж.

Так гістарычна склалася ў свеце, што менавіта адносінамі да габрэйства вымяраецца здольнасць іншых нацыяў ды асобных людзей да талерантнасці, супольнасці і салідарнасці паміж сабой на падставе агульначалавечых каштоўнасцяў. Высвятляць, чаму склалася менавіта так, у газетных нататках не выпадае. Скажу толькі, што «Тэатр NN», які стварылі і ў якім працуюць, дакладней, дзейнічаюць палякі, улічыў гэту гістарычную асаблівасць і яе трагічны вопыт. На пытанне, чаму яны, палякі, так клапоцяцца пра адраджэнне і захаванне памяці пра люблінскіх габрэяў — ад Сярэднявечча да гета і «горада, якога няма», — Марцін Вочур адказвае проста і пераканаўча: «А хто, калі не мы?»

Мо таму зусім натуральным выглядае супольнае з украінскімі сябрамі збіранне ўспамінаў пра Валынскую разню, калі ў 1944 годзе ад рук бандэраўцаў загінула процьма мірных украінскіх палякаў...

Але чаму — тэатр? Толькі таму, што на падставе сабраных успамінаў, фотаў, дакументаў, рэчаў пішуцца сцэнарыі і ладзяцца спектаклі? Не, не толькі. Калі, пачуўшы пра «Тэатр NN», прыходзіць старая, што ледзь дабралася з Ізраіля, і распавядае, на якіх месцах у пакоі, дзе хаваліся бацькі з малымі дзеткамі, стаялі ложак, куфар, шафа, і тыя месцы пазначаюцца крэйдай на падлозе, то слова «тэатр» набывае сэнс не толькі мастацкай дэкарацыі, але і супярэчлівай, збольшага трагічнай, еднасці прасторы і часу.

За чатырма тысячамі ўжо сабраных успамінаў пра габрэйскі Люблін, «габрэйскі Оксфард», як яго называлі яшчэ ў 30-х гадах, не толькі паўстаюць, але і доўжацца лёсы загінулых суайчыннікаў, суграмадзян, сугараджан.

Яны доўжацца, калі супрацоўнікі ладзяць экскурсіі па «горадзе, якога няма»...

Яны доўжацца, калі люблінскія падлеткі пішуць лісты Геніку Жытомірскаму, свайму равесніку, які загінуў у Майданеку, а зараз жыве на фотаздымках і ў аповедах...

Яны доўжацца, нават калі супрацоўнікі тэатра атрымліваюць ананімныя антысеміцкія паштоўкі з пагрозамі...

Насамрэч NN — «Імя невядома» — датычыцца толькі тых, хто сапраўды застаецца яшчэ невядомым. І хутчэй адлюстроўвае напрамак дзейнасці, якая, як і дзейнасць беларускага аб'яднання «АБ-БА» ў Беластоку, усяляк падтрымліваецца дзяржавай. У тым ліку грашыма — ад гарадскіх уладаў, ад Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны...

Нашы ўлады, як, дарэчы, і пэўная частка грамадства, лічаць, што адраджэнне габрэйскай культуры, пазнанне трагічнай і гераічнай гісторыі беларускага габрэйства — справа саміх габрэяў. Тое ж тычыцца культуры і гісторыі беларускіх палякаў...

У нядаўнім артыкуле пра фільм «Хроніка Мінскага гета», што быў паказаны па АНТ, я адзначыў, што створаны ён на грошы адной яўрэйскай арганізацыі. Беларуская дзяржава, заўважыў я, не раскашэлілася... А «Чаму беларуская дзяржава павінна была «раскашэліцца» на фільм пра гета? — адгукнуўся нехта Ян. — Нават калі б у нас была нармальная сітуацыя з уладамі, грошы было б куды траціць». Заклапочанаму на грошы Яну нават цяжка ўцяміць, што габрэі з Мінскага гета, як і ўсе іх беларускія супляменнікі, былі суайчыннікамі, грамадзянамі адной дзяржавы, нават плацілі падаткі гэтай дзяржаве, калі ўжо пра грошы... Дзяржаве, якая, дарэчы, павінна несці калі не юрыдычную, дык маральную адказнасць за ўласную палітыку антысемітызму. Але выбачацца за тое не спяшаецца... Якія грошы? Дзейнасць вядомай у Мінску «Гістарычнай майстэрні», якая ў чымсьці нагадвае дзейнасць «Тэатра NN», фінансуецца Германіяй. Мо ў гэтым ёсць праява гістарычнай справядлівасці. Але прышчэпку ад ксенафобіі ва ўласным грамадстве здольна зрабіць толькі ўласная дзяржава, як тое робіцца ў дэмакратычнай Польшчы.

...Два апошнія дні ў Любліне я шукаў калодзеж — адзінае, што засталося ад колішняга жыцця па-за сценамі «Тэатра NN», дзе захоўваюцца так званыя артэфакты. У тым ліку прыбітыя да слупа бляшанкі з назвамі колішніх вуліц, вулачак і завулкаў на розных мовах — польскай, рускай, нямецкай... Я нават здрыгануўся, калі ўбачыў назву па-руску — Шырокая. Былая Шырокая на мяжы Мінскага гета, дзе падчас нямецкай акупацыі месціўся канцлагер, забудаваная, закатаная ў асфальт і хаваецца пад зусім недарэчным для Мінска імем Куйбышава. У Любліне на месцы Шырокай вуліцы свеціцца Ліхтар памяці...

Наогул на месцы былога габрэйскага Любліна нічога няма — ні будынкаў, ні вуліц, ні тумбаў з афішамі, ні крамаў... .

Толькі зялёная трава, старыя дрэвы, ліхтары памяці і нямы крык...

І калодзеж.

...Калодзежа я не знайшоў. Мо таму, што не хапіла часу.

Але ён ёсць, той калодзеж, дакладна ёсць — сімвал жыцця, па словах Марціна Вочура. Ё!н нават паказаў яго на макеце «горада, якога няма» і сказаў, што ў тым калодзежы ёсць вада.

Жывая вада Памяці, непадуладная Часу.

# І ЗОРНАЕ НЕБА НАД ГАЛАВОЙ

У жніўні 2005 года я вырашыў паказаць 12-гадовай унучцы мясціны, дзе на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя настаўнічаў па сканчэнні гістафака БДУ. Пазваніў Елсукову: «Паедзеш з намі?» Ён памаўчаў, потым, быццам нехаця, вымавіў: «Паеду...» Прагучала глуха, нібыта з дна калодзежа. І сапраўды, падумаў я, да дна — звыш за 40 гадоў. «Дык паедзеш?» — паўтарыў я, быццам ізноў у калодзеж... «Так, канечне... З Галяй...»

Я не зразумеў: Галя памерла ў лютым. Але нічога не сказаў. Проста ўспомніў.

Успомніў канец жніўня 1963-га, мястэчка Опсу ў 20 кіламетрах ад Браслава... Мы толькі што прышукалі Альберту жытло і, раздабыўшы недзе ровары, рушылі ў Далёкія, вёску ў сямі кіламетрах ад Опсы, уладкоўваць мяне да бабкі Кастусі, каторая, па чутках, брала да сябе настаўнікаў калі не з часоў Першай сусветнай, дык за польскім часам напэўна... Вось на гэтым шляху, пасярод Опсы, і ўбачылі дзвюх дзяўчат, якія цягнулі вялізны чамадан і таўсты сяннік. Прыпыніліся: «Дапамагчы?»

— Не-не, мы самі! — рашуча, нават з нейкім выклікам адказала старэйшая — светлавалосая, з тонкім профілем і выразным позіркам блакітных вачэй. Другая, малодшая, з кароткай стрыжкай цёмных валос і мяккім круглявым тварам, глядзела на нас з непрыхаванай іроніяй, час ад часу папраўляючы ў руках цяжкі сяннік, што нязграбна з'язджаў да зямлі.

Яны абсалютна не былі падобныя адна на адну, сёстры Шрубок, Люда і Галя. Пра тое, што сёстры, даведаліся трохху пазней. Як і цалкам зразумелай сталася пазней адмова ад дапамогі, у каторай яны відавочна адчувалі патрэбу — старэйшая пільна ахоўвала ад мужчынскай увагі малодшую на парозе яе самастойнага, воддаль ад дома і бацькоў, жыцця. І адразу, быццам намагаючыся адцягнуць гэту ўвагу ўбок, распачала нейкую пустую спрэчку пра фільм «Первый эшелон». Сутнасці спрэчкі не памятаю, памятаю толькі тое, як з гарачнасцю даказваў, які гэта дрэнны фільм, яна з такой жа

гарачнасцю — які добры. Астанія ўдзельнікі мізансцэны маўчалі. Не памятаю, ці глядзелі яны адно на аднаго. Але позіркі запомніў: усмешліва-добры ў Галі і засяроджаны на чымсьці сваім у Альберта.

Праз дзевяць месяцаў, у траўні, яны пажаніліся.

...Калі мне прапанавалі напісаць у кнігу ўспамінаў пра Альберта, я задумаўся: што робіць людзей сябрамі? Якія абставіны жыцця, выпадковыя, на першы погляд, збліжаюць іх, а потым, здараецца, аддаляюць і нават разводзяць па розных баках? Я гляджу на ягоную фатаграфію і ўсё часцей задаю сабе гэтыя пытанні, намагаюся разгадаць загадку нашага сяброўства. Сяброўства, каторага, па ўсіх звыклых уяўленнях, магло і не быць. Асабліва калі ўлічыць пяцігадовую розніцу ва ўзросце, істотную, да моманту знаёмства, розніцу ў жыццёвым досведзе і ўяўленнях аб тагачасным жыцці. Але мы пасябравалі вельмі хутка, практычна адразу, як паступілі на гістфак. Магчыма, таму, што былі адзінымі на курсе мінчукамі. Але пасябраваць і стаць сябрамі — не адно і тое. Паміж — загадка...

Канечне, я мог бы распавесці зараз, як у студэнцтве, напаўгалодныя, вандравалі з палаткай па Каўказе і Крыме — Джэанхот... Праскавееўка... Сімеіз... Херсанес... Бахчысарай; як пасмейваліся з ягоных намаганняў самастойна вывучыць кітайскую мову — уся прыбіральня ў кватэрцы на апошнім паверсе аднаго са старэйшых мінскіх дамоў на рагу вуліц Кірава і Валадарскага, дзе жылі Альберт, ягоныя малодшыя брат з сястрой і матуля, быў абклеены іерогліфамі; як тымі ж іерогліфамі быў абклеены пакой у Опсе з неверагоднай кольнасцю філасофскіх кніг на паліцы і на стале...

Я троху пабойваўся гэтага пакоя — аднаго з двух у вялікай, магчыма, самай вялікай у Опсе хаце з высокім падстрэшшам пад жалезным дахам. Асабліва пасля ўраганнай ночы на 23 лістапада, калі, не заспеўшы Альберта, я застаўся ў ім начаваць. Не распрануўшыся, я прылёг на шырокі, пазбіваны з дошок, ложак, падсунуўшы пад шчаку адубелую падушку. Троху сагрэўся, але не спалася. Дзьмуў праз шыбы лістападаўскі вецер, ляпілася на шкло чорнае лісцё, грукатала на даху жале-

за, шкрабло па ім голае вецце старой бярозы... Раптам нешта блісканула ў цемры, і я заўважыў на падваконні «Спідолу»...

Якая ж гэта асалода — вольна, сам-насам з планетай, плыць у начы па хвалях эфіру! Праз патрэскванне, абрыўкі незразумелых слоў і далёкіх мелодый прадзірацца да чагосьці незнаёмага, нават забароненага... Вось... Вось... «Голас Амерыкі»... Кенэдзі... Далас... замах... ранены... забіты... кубінцы... Освальд...

Вось у такім пакоі жыў Альберт. У вялізнай хаце, дзе ў самоце жыла старая, здаецца Тэкля. Тую хату пабудавалі ёй два сыны, каторыя калі-нікалі наязджалі з Польшчы.

Адносіны з Тэкляй у Альберта не склаліся, хаця ён дапамагаў бабылцы чым мог: пілаваў дровы, насіў з мястэчка газу, запалкі і хлеб, вазіў з Мінска балгарскія цыгарэты, бо старая смаліла, а ніякага тытунёвага тавару не было, нават у райцэнтры.

Адносіны зусім сапсаваліся, калі Альберт па яе просьбе прынёс з крамы бутэльку сланечнікавага алею. «Ці ж гэта алей?! — трэслы патэльняй старая Тэкля. — Вось пры Польшчы быў алей дык алей, не тое, што пры тваіх Саветах!» Дык жа праўда: замест пырскання пад дранікамі алей умомант знікаў, быццам вада... Насамрэч вада і была. Дакладней, чай, каторым Галя жартам замяніла ў бутэльцы алей, калі Альберт зазірнуў да яе, так бы мовіць, на чай...

Усё гэта, безумоўна, з цягам часу адстаялася ў незабыўных падрабязнасцях і сталася змястоўнай часткай агульных успамінаў, наўрад ці каму цікавых, акрום нас і нашых родных. Але тады, на пачатку 60-х, і ў студэнцтве, і ў Опсе, ягонае захапленне філасофіяй і мая схільнасць да заняткаў журналістыкай пакідалі нас у дастатковай абыякавасці да жыццёвых перспектыў кожнага, не выклікалі, папросту кажучы, асаблівай цікаўнасці.

Не, я наўрад ці патлумачу цяпер, чаму ўмелы, нават таленавіты чырванадрэўшчык захапіўся філасофіяй як навукай. Для мяне, прызнацца, сумнай кітайскай граматай. Дыямат, гістмат, навуковы камунізм, марксізм-ленінізм... Альберт жа ўгрызаўся ў іх, і пры гэтым атрымліваў сапраўднае эстэтычнае

задавальненне, каторае, у рэшце рэшт, увасобілася ў стварэнне афарызмаў і кранальных вершаў...

Аднойчы пазваніў Валодзя Клакоцкі, трэці наш пажыццёвы сябар, сказаў, што адшукаў у сябе на лецішчы ў старым чамадане мае лісты, лісты Альберта з Опсы, з Масквы, дзе ён пасля Опсы вучыўся ў аспірантуры. Вось што пісаў Альберт з Опсы: «...Ты, магчыма, заўважыў, што мы, робячы больш-менш сур'ёзныя справы, заўжды недзе ў глыбіні душы захоўвалі пачуццё творцы, каторае калі-нікалі прадзіралася вонкі тым ці іншым літаратурным опусам. Шчыра кажучы, дык у мяне сфармавалася даволі стойкая літаратураманія... Сутнасць не ў тым, напішаш ты кнігу ці не, галоўнае — адчуваць сябе паэтам. Без гэтага мысленне атрымліваецца сухім і посным. Вось чаму сапраўдны навуковец павінен быць паэтам...»

Мы з Валодзем падсмейваліся з ягоных афарызмаў і вершаў. Нам падавалася, што яны, асабліва вершы, пазбаўлены ўласцівасцяў сапраўднай паэзіі. Аднойчы, гадоў пятнаццать таму, калі мы з Альбертам шпацыравалі па начным Мінску, ён прачытаў новы верш. Я пачаў крытыкаваць яго, разбіраць, так бы мовіць, па костачках. Альберт моўчкі выслухаў, потым узяў за руку і задраў галаву: «Паглядзі, якое зорнае неба! Бачыш тую зорку, самую яркую? Альдэбаран завецца...» Я ўглядзеўся ў ягоны натхнёны твар і зразумеў, што без гэтага зорнага неба, каторае ён пазнаваў з непадробным энтузіязмам, без гэтага *пачуцця неба* ён не стаўся б сапраўдным вучоным.

Дык у чым жа яна, загадка сяброўства, пад якой зоркай нараджаецца і чаму не памірае, пакуль мы самі яшчэ жывыя?

Магчыма, пад гэтай?

1961-ы, пачатак лістапада... Мы — Альберт, Валодзя і я — выйшлі пасля лекцый у золкую восеньскую ноч. І праз паўтары сотні метраў натыкнуліся на свінцова-шэры жаўнерскі ланцуг. «Праходзьце, праходзьце, няма чаго тут затрымлівацца», — прамовіў афіцэр. Мы нешта паспрабавалі спытаць. Ён настойліва махнуў рукой у бок ад схаванай за дрэвамі гарадскога сквера плошчы, дзе пульсавалі нейкія блакітна-бэзавыя ўсполахі.

Нейкім неймаверным шляхам, каторы я больш ніколі не здолеў бы паўтарыць, праз скразныя пад'езды і падваротні мы абмінулі непрыступны ланцуг і, крадучыся, прабраліся ў цёмны двор дома, які выходзіў вуглавым фасадам на плошчу, дзе стаяў помнік Сталіну. Чапляючыся за вільготныя, апякаючаслізкія прыступкі пажарнай лесвіцы — абы не глядзець уніз, — мы ўскараскаліся на дах і амаль паўзком, каб не скаціцца па слізкім жалезе, дабраліся да невысокай агароджы на самым краі. Мы прасядзелі там, абняўшыся, у дрыжыках усю ноч. Дзіўна, але я не запомніў нейкія асаблівыя падрабязнасці таго, што адбывалася на плошчы. Толькі цягачы, мяхі з пяском, тросы, аўтаген, пражэктар... Да світання застаўся адно высокі пастамент, упрыгожаны па чырванаватым з пражылкамі мармуры беларускім арнаментам.

А ўжо ў сярэдзіне дня месца, дзе стаяў помнік, было агароджана глухім, з дошак, плотам, плошча адкрыта для руху і перадсвяточных, да 7 лістапада, камунальных работ.

Усе дні да свята былі чутны з-за плота глухія выбухі і шалёны пошчак адбойных малаткоў і перфаратараў — у помніка аказаўся вельмі глыбокі трывалы падмурак.

І вось праз 54 гады, апоўначы, тэлефануе Валодзя і кажа, што страшыцца засынаць, таму што амаль кожную ноч сніць Альберта.

— Уяўляеш, ён прыходзіць кожную ноч, чытае свае вершы, афарызмы... Нават Таню сню радзей...

— Уяўляю. да мяне таксама прыходзіць...

Таня, жонка Валодзі, пакінула гэты свет чатыры гады таму. Альберта пахавалі ў мінулым...

Не, я не ведаю, што яднала нас у больш чым паўстагоднім сяброўстве, са студэнцкіх часоў, насычаных пошукам недасяжнай ісціны. То бок ведаю, канешне, але звыклыя тлумачэнні накшталт агульнасці інтарэсаў, поглядаў, маральных прынцыпаў — усяго, чым тлумачыцца сяброўства — застануцца невычэрпнымі. Нават, у пэўным сэнсе, ілжывымі, таму што пасля распаду СССР наша сяброўства магло цалкам зрынуцца ў прорву палітычных разыходжанняў. Не зрынулася...

Ды й якое, скажыце, сяброўства, калі амаль палову згаданага паўстагоддзя мы сустракаліся толькі за шахматамі, на сямейных святах, а потым на пахаваннях і памінках?

Не вычэрпвае тлумачэнне і тая, уся ў дрыжыках, ноч, працятая ледзяной намараззю ноч, калі мы, у абдымках, да раніцы глядзелі, як зносяць помнік Сталіну, адчуваючы сваё дачыненне да Гісторыі і пакутлівы страх перад яе вышынёй і глыбінёй...

Так, на пачатку — «...третье моё плечо...»

Пры канцы — «...хотя б для шашек друга...»

Тады чаму, праз гады пасля сыходу Галі, ён, вырашыўшы ізноў пабрацца шлюбам, пазваніў і запытаўся: «Ты не супраць?» Хацеў атрымаць індульгенцыю ад мімавольнага граху супраць памяці аб жонцы? Але ж ён ніколі ні аб чым не пытаўся, ні аб чым не раіўся, здзяйсняючы тыя ці іншыя ўчынкі.

Не, тут нешта іншае. Нешта вельмі блізкае да разгадкі таямніцы, да таго, з чаго пачынаецца і з чым сыходзіць у Прастору сапраўднае сяброўства — да Пачуцця.

Пачуцця не чаго-небудзь накшталт доўга альбо нейкіх абавязацельстваў па ўзаемнай дапамозе ва ўладкаванні жыцця. Не. Простаму чалавечаму пачуццю.

Бо сапраўднае сяброўства Пачуццё і ёсць.

З таго, імаверна, пачуцця і нарадзілася апошняя і адзіная за ўсё наша сяброўства просьба: адвезці ў Бараўляны, дзе яму была прызначана кансультацыя анколага...

Не, памыляюся. Яшчэ была просьба дапамагчы разабраць на дровы прыдбаны ў некалькіх кіламетрах ад Опсы стары хутар. Галя зацяжарала, іх чакала наступная, 1965-я ад нараджэння Хрыстовага, вясковая настаўніцкая зіма, на каторую прыпадалі народзіны дзіцёнка...

Так, канешне, я памыляюся наконт просьбаў. Яшчэ ён папрасіў аднойчы дапамагчы заштурхаць на гару стары, выпадкова прыдбаны, пасляваенных часоў «масквіч». Маленькі, але неверагодна цяжкі, мо некалькі тон жалеза. «Масквіч» ніяк не заводзіўся. Уся надзея была на разгон з гары. Штурхалі... каціліся... штурхалі... каціліся... Разоў з пяць. Пакуль Альберт

не ўспомніў, што адключыў акумулятар. Каб не скралі. Да «жыгулёў» жыццё яшчэ не дакацілася...

І вось дакацілася да Бараўлян.

Цягам усёй сваёй раптоўнай цяжкой хваробы ён рашуча адмаўляўся ад маіх паслуг. Сам збягаў пасля аперацый чытаць лекцыі, якія не паспеў дачытаць, сам ездзіў па дактарах, заклапочаны не сваім станам, а рознымі тлумачэннямі беларускай гісторыі... А тут тэлефанаваў: сам не дабяруся... Ледзь выпаўз з аўто, трымаючы стары падрапаны жоўты партфель, каторы быў яму ўжо ні да чаго, разгублена ўсміхнуўся і нейкім дуркаватым жэстам паказаў мне, што хутка буду плакаць... Так, мы заўсёды насміхаліся адзін з аднаго і з саміх сябе...

Тады, у жніўні 2005-га, мы прыехалі ў Опсу бліжэй да вечара. Не паспелі абняцца з сябрамі, былымі настаўнікамі, з якімі ў 60-х разам працавалі, як Альберт некуды знік. Чакалі, чакалі, а потым пайшлі з жонкай шукаць. Яшчэ здалёк я заўважыў, як ён ідзе павольна ўздоўж шашы, адзінай, па-сутнасці, опсаўскай вуліцы са сваім нязменным жоўтым партфелем. За спінай ягонай свяціўся на заходзячым сонцы стары чырвоны касцёл. Там жа, ля касцёла, над чыстым азёрным даляглядам яны і жылі, калі пажаніліся... «Вось, — ён вінавата ўсміхнуўся, — вось і Галя сюды вярнулася... Як хацела...» Мы зразумелі: ён развеяў над Опсай, над іх маладосцю жменьку яе праху.

Пастаялі, памаўчалі... І тут я заўважыў, што стаім на тым жа месцы, дзе паўстагоддзя таму мы з Альбертам упершыню сустрэлі сясцёр Шрубок. Іх няма ўжо на гэтым свеце. Але і зараз я бачу, як Галя ледзь утрымлівае цяжкі сяннік і з добрай усмешкай глядзіць на Елсукова, а ён засяроджана — некуды ў сябе...

Ноччу пайшлі з Альбертам да возера. Міма амаль крушняў старога палаца Плятэраў, міма іншых астанкаў іх сядзібы, праз паміраючы парк, на бераг, дзе яшчэ абдымаў небы стары трохсотгадовы дуб, да каторага, па мясцовай легендзе, Напалеон прывязваў свайго каня. Неба ж яго і забіла ў мінулым годзе бліскавічным, літаральна, ударам.... А тады, у жніўні 2005-га, яно распасцерла над намі свой бясконцы зорны шацёр...

І цяпер, калі я пішу пра свайго сябра, я яшчэ і яшчэ раз упэўніўся ў тым, што сапраўднае сяброўства — гэта Пачуццё.

Маральны закон, калі ўспомніць Канта.

Закон, па якім зоркі цягнуцца адна да адной, каб не згінуць у Сусвеце, не прапасці, не згубіцца зусім...

# ЗМЕСТ



## З цыкла «Нарачанскі сшытак» (2018–2020)



## З цыкла «Быць альбо не быць» (2017–2020)

## Вершаванкі



## Из цикла «XX век: семейный альбом» (2016–2018)

**Из цикла**
**«Стихо-сложения»**

## Шматкроп'і

## Аднойчы ў СССР



## Дом застаўшыхся ў жывых



## Святло знікаючага свету

**Ваганаў, С.**

В12 Праз межы Часу : вершы, нарысы, эсэ / Сяргей Ваганаў ; прадм. В. Казько. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 216 с.
ISBN 978-985-883-036-6.

Шаноўны чытач! Кніга вядомага журналіста, публіцыста і паэта Сяргея Ваганава, якую ты трымаеш зараз у руках, нездарма мае назву «Праз межы Часу», бо непасрэдна ці ўскосна ахоплівае падзеі, сэнсы, грамадскія настроі, што віравалі і віруюць у жыцці краіны ад 40-х гадоў мінулага стагоддзя да нашых дзён. Усё гэта — і памяць пра дзяцінства на Нарачы, і філасофія быцця на Зямлі, і ганебныя з'явы падчас існавання СССР, і трагедыя вайны — прапушчана праз асабістае ўспрыманне аўтара, праз ягоныя розум і сэрца.

Творы, якія ўвайшлі ў кнігу, у розныя часы друкаваліся ў беларускіх і замежных выданнях, цыкл «XX век: семейный альбом» — у паэтычным зборніку «Я веру ў Цуд», выдадзеным у 2018 годзе.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Ваганаў** Сяргей Давыдавіч

**Праз межы Часу**
*Вершы, нарысы, эсэ*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алена Спрытніч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 20.12.2021. Фармат 84×108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 11,34.
Ул.-выд. арк. 8,11. Наклад 99 ас. Зак. 362.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.